Літаратура і мастацтва
ISSN 0024-4686
№ 14 (4609) 8 красавіка 2011 г.

## У нумары:



# Прастора духоўнай свабоды

Ірына ТУЛУПАВА,
фота Юрыя Іванова

**"Культура: Выхаванне праз усё жыццё". Такую тэму мела чарговае пасяджэнне Рэспубліканскага грамадскага савета па культуры пры Савеце Міністраў Беларусі, удзельнікі якога ўзялі на сябе клопат прааналізаваць тое, што мы маем у выхаванні асобы на пачатку XXI стагоддзя. Падчас дыскусій гаварылася і пра неабходнасць вяртання ў вучэбныя планы прадмета "Сусветная і айчынная мастацкая культура", пра павелічэнне колькасці гадзін па прадметах мастацка-эстэтычнага цыкла ў школах, пра падрыхтоўку высокамастацкіх радыё- і тэлевізійных праграм, падрыхтоўку кадраў, якія будуць вучыць культуры і мастацтву. І — пра неабходнасць распрацоўкі на міжведамасным узроўні праграмы падтрымкі і развіцця чытання.**



Пасяджэнне праходзіла ў культурнай сталіцы Беларусі і СНД 2011 года — Гомелі, ва ўнікальным аб'екце — палацава-паркавым ансамблі Румянцавых-Паскевічаў.

"Культура з'яўляецца сферай, з якой чалавек сустракаецца ад свайго нараджэння і на працягу ўсяго жыцця. Вельмі цяжка пераацаніць ролю культуры ў развіцці чалавека, асобы, грамадзяніна, грамадства, дзяржавы і сусвету", — так шырока абазначыў тэму ва ўступным слове міністр культуры Павел Латушка. Ён пазначыў у выхаванні асобы некалькі кірункаў. Перадусім, гэта назапашаная культурная спадчына, якая захавана і перадаецца з пакалення ў пакаленне. Па-другое — выхаванне ў сям'і базавых навыкаў культурнай асобы. Таксама — уплыў грамадскага асяроддзя, у якім развіваецца асоба і якое залежыць ад дзяржаўнай палітыкі ў галіне культуры. І, нарэшце, мастацка-эстэтычная адукацыя асобы праз дзіцячыя садкі, школы, гімназіі, каледжы, універсітэты, акадэміі.

Бясспрэчна, вельмі важна, калі захоўваюцца сямейныя традыцыі, калі бацькі перадаюць дзецям традыцыі каляндарных свят, Каляд і Вялікадня, адзначаюцца Радуніца і Дзяды, праводзяцца абрады вяселля і пахавання.

Але не менш важна і культурная адукацыя — як гарант таго, што дзяржава разумее неабходнасць развіцця культуры і асобы. Да гонару: Беларусь — адзіная краіна ў СНД, дзе дашкольнае выхаванне арганічна ўключана ў нацыянальную сістэму адукацыі нароўні з агульнаадукацыйнай сярэдняй школай, ССНУ і ВНУ.

Паводле слоў Алены Гуляевай, намесніка начальніка ўпраўлення Нацыянальнага інстытута адукацыі, якая распавядала пра асноўныя тэндэнцыі развіцця мастацкай адукацыі ў дашкольных і агульнаадукацыйных установах, цяпер мы назіраем своеасаблівыя інтэграцыі: гэта вучэбна-педагагічныя комплексы кшталту дзіцячы сад — пачатковая школа, базавая школа — каледж, гімназія — каледж і іншыя. Яшчэ адна асаблівасць — мы паступова пачынаем выкарыстоўваць патэнцыял міжпрадметнага падыходу, калі мастацтва літаральна "пранізвае" ўсю адукацыйную прастору. У краіне ўжо назапашаны падобны вопыт. Напрыклад, у сярэдняй агульнаадукацыйнай школе № 1 г. Нясвіжа намаганнямі настаўнікаў гісторыі створаны школьны мастацкі музей.

У Беларусі дзейнічае ўнікальная трохузроўневая, класічная сістэма мастацкай адукацыі: пачатковая — сярэднеспецыяльная — вышэйшая. І ў кожнай — свае знаходкі і страты.

Ды часам якраз і перашкаджаюць традыцыйныя ўяўленні пра выхаванне: маўляў, калі лепшае — ці варта нешта перайначваць? Але час мяняецца, і пытанне, на якім сайце знаходзіцца твой сын ці дачка, становіцца зусім не рытарычным, яно таксама палягае ў плоскасці выхавання культуры.

"Запачаткоўвае цікавасць да культуры сям'я. А потым дзяржава ўсё больш і больш далучаецца да гэтай справы. Працуюць дзіцячыя садкі, школы, спецыяльныя навучальныя ўстановы і вышэйшыя. Але гэта ідэальная мадэль выхавання. Яна не можа існаваць толькі ў чыстым выглядзе. Ёсць Інтэрнэт і электронныя сродкі масавай інфармацыі. І сёння сітуацыю трэба перагледжваць. Мы павінны прайсці этап, калі выхаванне аддадзена (сустракаюцца такія думкі) тэхнічнай адукацыі. Галоўнае — толькі чалавек, — зазначыў рэктар Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў Барыс Святлоў. — Сістэма, якая існуе ў наш час, была сфарміравана ў 40-я гады мінулага стагоддзя. А пачала фарміравацца ў дваццатыя — гады НЭПа. Гэта быў той эксперымент, які падтрымаў Луначарскі. Тады ў Ленінградзе быў створаны першы ў Савецкім Саюзе інстытут, дзе пачалі рыхтаваць кандыдатаў, дактароў мастацтвазнаўства.

У 1990-я, калі мы набывалі суверэнітэт, захавалі ў сваёй скарбонцы тое, што з'явілася ў сусветнай мастацкай культуры. І не толькі захавалі тое, што было ў СССР, — нават пашырылі. Але трохі і згубілі".

Так, да пачатку 1990-х гадоў амаль што не кожная 3-я школа ў Беларусі з'яўлялася ўстановай з пэўным эстэтычным або мастацкім ухілам. БССР была лідарам мастацка-эстэтычнай адукацыі ў Саюзе (разам з Арменіяй і Украінай). У 1980-х гадах школы з паглыбленым вывучэннем прадметаў мастацка-эстэтычнага ўхілу былі толькі ў Беларусі і Прыбалтыцы. Яшчэ два гады таму сярэдніх школ з ухілам было больш як 650, цяпер іх колькасць значна скарацілася. У такіх школах рэзка скарочаная наменклатура прадметаў і аб'ём гадзін, якія адводзяцца на іх выкладанне. Выключаны з базавага вучэбнага плана і прадмет "Сусветная мастацкая культура". Таццяна Арлова, прафесар Інстытута журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, аналізуючы ролю СМІ ў эстэтычным выхаванні, падкрэсліла, што з моманту знікнення прадмета сусветнай мастацкай культуры ў ВНУ прыходзяць вельмі слаба падрыхтаваныя маладыя людзі. Між тым, сфера мастацтва якраз і ёсць прастора духоўнай свабоды чалавека.

Вельмі важным аспектам выхавання культуры праз усё жыццё з'яўляецца веданне сваёй матэрыяльнай і духоўнай гісторыка-культурнай спадчыны. Таму лагічнай стала прапанова аб увядзенні на факультатыўным узроўні прадмета "краязнаўства".

Што да літаратуры, то старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец звярнуў увагу на тое, што немагчыма развіваць само мастацтва без увагі да мастацкага слова. Трэба мець на ўвазе і канчатковую мэту выхаваўчага працэсу: чамусьці апошнім часам журналісты сароміцца такіх паняццяў, як Радзіма, патрыятызм, адказнасць.

Нішто, як культура, так не аб'ядноўвае нас у адной дзяржаве, і дзеля яе развіцця неабходна большая каардынацыя і ўзаемадзеянне на ўзроўні міністэрстваў. Між іншым, на пасяджэнні прысутнічалі намеснікі міністра адукацыі Віктар Якжык і міністра інфармацыі Ігар Лапцёнак.

Што да міністэрства культуры, то цяпер ідзе праца над комплексам праектаў нарматыўна-прававых актаў для сферы. Адказваючы на пытанне карэспандэнта "ЛіМа" пра бліжэйшыя магчымыя крокі, якія паўплываюць у тым ліку і на мастацка-эстэтычнае выхаванне, міністр Павел Латушка акцэнтаваў увагу на шэрагу дакументаў, звязаных з дзейнасцю фондаў падтрымкі творчай моладзі, удасканалення дзейнасці фондаў культуры і мастацтваў. "Мы працуем над удасканаленнем сістэмы падаткаабкладання ўстаноў культуры дзеля больш дынамічнага іх развіцця. Ствараем спрыяльныя ўмовы для прыватных устаноў. Працуем над вельмі важнай комплекснай рэформай развіцця кінамастацтва: парадку фінансавання, арганізацыі працы, стварэння сістэмы прадзюсарства, канкурэнтнага асяроддзя ў гэтай сферы. Рыхтуецца праект Пастановы Савета Міністраў, якая зменіць палажэнне аб дзейнасці савета па манументальным мастацтве і перагледзіць некаторыя падыходы да ўстанаўлення помнікаў, манументальных скульптур і кампазіцый. Праца ідзе актыўная, і, магчыма, мы выйдзем напрыканцы на прыняцце агульнага дакумента — Кодэкса аб культуры. Каб прыйсці да яго, трэба адукаць вялікі шлях, але мы яго пачалі".

***На здымку: Мікалай Чаргінец і Міхаіл Фінберг падчас пасяджэння.***

## Пункціры

Да сярэдзіны красавіка працягваецца прыём заявак на VII Нацыянальны конкурс друкаваных сродкаў масавай інфармацыі “Залатая ліцера”. Журы конкурсу падвядзе вынікі і вынясе рашэнне аб пераможцах у 25 намінацыях не пазней 25 красавіка. Урачыстая цырымонія ўганаравання пераможцаў адбудзецца 5 мая, у Дзень друку, падчас міжнароднай спецыялізаванай выстаўкі “СМІ ў Беларусі”.

Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь павялічыла ў 2011 годзе ўдвая фінансаванне пастановак тэатраў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскім падначаленні. Акрамя гэтага, на 40 працэнтаў павялічаны сродкі, што вылучаюцца з бюджэту дзяржавы на ўтрыманне тэатраў.

Фотавыстаўка БЕЛТА, прысвечаная сучаснаму развіццю Беларусі, адкрылася ў Польшчы. Яе прэзентацыя адбылася ў Гдыньскай вышэйшай школе права і дыпламатыі. На адкрыцці экспазіцыі прысутнічалі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсенка і рэктар школы Войцех Ляментовіч.

Студэнты Мінскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя М. Глінкі заваявалі Гран-пры V Міжнароднага фестывалю вакальна-харавой музыкі “Няхай песня склікае сяброў”, які прайшоў у Луганску (Украіна). У конкурснай праграме спаборнічала каля тысячы выканаўцаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Малдовы і Кітая. Беларускі калектыў аказаўся лепшым.

Творчы калектыў праграмы “Існасць” (Першы канал) узнагароджаны дыпломам II ступені і прэміяй на конкурсе “Беларускае Праваслаўе: гісторыя і сучаснасць”, які праводзяць Беларуская Праваслаўная Царква і Міністэрства інфармацыі Беларусі. Ганаровай граматай Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта ўганаравана Вольга Юшкевіч (АТН), медалём прападобнай Еўфрасінні Полацкай — каментатар Першага канала Беларускага радыё Людміла Мітатковіч і спецкар радыёстанцыі “Сталіца” Наталля Баўкалава.

Падведзены вынікі рэспубліканскага літаратурнага конкурсу “Дзеці пішуць для дзяцей!”. Гэта першы літаратурны конкурс для дзяцей-сірот, дзяцей-інвалідаў, які правёў Беларускі дзіцячы фонд. На конкурс з усёй рэспублікі было даслана больш як 600 работ. 26 дзяцей былі адзначаны ў якасці пераможцаў у намінацыях “Проза”, “Казка”, “Паэзія”, “Публіцыстыка”.

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі дзейнічае выстаўка “Белае золата Херэнда — фарфор для каралёў”. Экспазіцыя ўключае каля 130 фарфоравых вырабаў самай высокай якасці вытворчасці фарфоравай мануфактуры Херэнда. Венгерскія арганізатары выстаўкі лічаць яе першым крокам у супрацоўніцтве музеяў Беларусі і Венгрыі.

Работы 13 нямецкіх мастакоў комікса прадстаўлены на выстаўцы “Коміксы, манга & Co” ў Інстытуце імя Гётэ ў Мінску. Акрамя выстаўкі праграмай прадугледжана правядзенне майстар-класаў для выкладчыкаў нямецкай мовы, дзіцячага дня ў бібліятэцы, а таксама вечара анімацыйных фільмаў.

Каля 30 мільярдаў вылучана з рэспубліканскага бюджэту ў 2011 годзе на рэканструкцыю Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. У працэсе рэканструкцыі будынку будзе вернуты яго гістарычны выгляд, які ён меў да рэстаўрацыі ў 1950-х гадах. Таксама тэатр станецца аснашчаны самым сучасным абсталяваннем.

Падрыхтавала
Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Уладзімір Дуктаў: «Прафесійны літаратар — гэта пісьменнік, які ўмее адсейваць штучны матэрыял…»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**У складзе Магілёўскага абласнога аддзялення СПБ нямала вопытных літаратараў старэйшага пакалення. Яны знаходзяцца ў тым шчаслівым узросце, калі грунтоўныя веды і вялікі жыццёвы вопыт ператвараюць творцу ў настаўніка для маладых талентаў. Пра ўзаемаадносіны літаратуры сталай і літаратуры маладой, літаратуры прафесійнай і аматарскай мы гутарым са старшынёю Магілёўскай пісьменніцкай арганізацыі Уладзімірам Дуктавым.**

**— Уладзімір Уладзіміравіч, што адрознівае ў літаратуры прафесіянала ад аматара?**

— Ёсць такое крылатае выказванне: добра піша не той, хто добра піша, а той, хто добра думае. Таму, на мой погляд, прафесійны літаратар — гэта пісьменнік, які ўмее адсейваць штучны матэрыял, знаходзіць новыя падыходы да абранай тэмы і арыгінальна вырашаць яе.

**— Канечне, заканчэнне літаратурнага інстытута — не галоўная ўмова для нараджэння літаратара-прафесіянала, але вучоба, выкладанне нейкіх законаў стварэння літаратуры — справа карысная. Ці можа пачатковец у абласным цэнтры сёння разлічваць на нейкую літаратурную вучобу, кансультаванне?**

— Літаратурная вучоба добра даецца, калі яна адразу плануецца як прафесія. Аваловдаць азамі літаратурнага рамяства і майстэрства можна на факультэце славянскай філалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Аркадзя Куляшова. Шмат год працуе літаратурнае аб'яднанне “Магістраль” пры Доме культуры Магілёўскага аддзялення Беларускай чыгункі, пры каледжы мастацтваў. Апошнім часам шырока разгортвае сваю дзейнасць літаратурнае аб'яднанне пры Магілёўскім дзяржаўным універсітэце харчавання. Ды і ў раённых цэнтрах таксама літаратурных суполак шмат, яны існуюць пры раённых і гарадскіх газетах, установах культуры і адукацыі. Да прыкладу, пры Доме дзіцячай творчасці ў Чавусах гурток “Юны журналіст і літаратар” звыш пяці год вядзе член Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікола Салаўцоў. Кансультацыі літаратурная моладзь штодня атрымлівае і ў нашым пісьменніцкім аддзяленні. Нельга забываць і пра самаадукацыю. “Паэтычны слоўнік” Вячаслава Рагойшы, лічу, павінен стаць настольнай кнігай пачынаючага аўтара.

**— Ці шмат таленавітай моладзі на Магілёўшчыне? Ці ёсць на каго спадзявацца нашай літаратуры ў будучым?**

— Маладых таленавітых аўтараў на Магілёўшчыне, вядома, шмат. Яны найперш выяўляюцца падчас літаратурных конкурсаў. Творчыя конкурсы для моладзі мы праводзім з магілёўскімі гарадскімі аддзяленнямі рэспубліканскіх грамадскіх таварыстваў “Рускае таварыства” і “Рускае культурна-асветніцкае таварыства”. Намецііўся сярод канкурсантаў шэраг маладых паэтаў і празаікаў, якія могуць скласці нашу літаратурную змену. Ім сталыя пісьменнікі дапамагаюць рыхтаваць да выдання свае першыя зборнікі. Так, першую кніжку “Вечное и земное” займеў сёлета магілёўскі малады паэт Дзмітрый Сязёмін. А дапамог адрэдагаваць рукапіс і напісаў прадмову да кнігі вядомы магілёўскі паэт, член Саюза пісьменнікаў Беларусі Іван Пехцераў. Першую кнігу вершаў цяпер выдае студэнтка Вольга Куляшова, наблізілася да выдання першага паэтычнага зборніка малады педагог з вёскі Гарбавічы Чавускага раёна Жанна Усцінава. На шчасце,такі пералік здатных маладых літаратараў пастаянна папаўняецца.

# Навіны літжыцця: Магілёўшчына

*Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт павіншаваў з трохгоддзем калектыў інфармацыйнага выдання храма Святой Жыватачатковай Троіцы гарадскога пасёлка Хоцімск Магілёўскай вобласці “Троицкий вестник”, які ўзначальвае пісьменнік Аляксандр Балдоўскі.*

*Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і Магілёўскае гарадское аддзяленне рэспубліканскага грамадскага аб'яднання “Рускае культурна-асветніцкае таварыства” правялі літаратурны конкурс, прысвечаны 50-годдзю касмічнага палёту Юрыя Гагарына. Пераможцы вызначаны ў намінацыях “Малая проза” і “Паэзія” ў трох узроставых групах.*

*Напрыканцы красавіка адбудзецца прэзентацыя новай публіцыстычнай кнігі Віктара Арцем'ева “Пысіны: ад прадзеда да праўнукаў”. Прэзентацыя пройдзе на радзіме А. Пысіна, у гарадскім пасёлку Краснаполле.*

*10 мая спаўняецца 80 год аднаму са старэйшых пісьменнікаў Магілёўшчыны, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксею Кажамяку.*

*Абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі і рэгіянальнае аддзяленне рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» прыме ўдзел у чацвёртым міжнародным фестывалі ў Рэспубліцы Беларусь “Сугучча слоў жывых”.*

*Дэлегацыя магілёўскіх пісьменнікаў рыхтуецца да ўдзелу ў святе паэзіі “Паэтычная сябрына — Пісьмянкоў луг”, якая пройдзе ў горадзе Касцюковічы 20-21 мая і будзе прысвечана памяці паэта-земляка Алеся Пісьмянкова.*

## Выстаўкі

# Шаржы ад Аляксандра Каршакевіча

Юлія АНДРЭЕВА,
фота Кастуся Дробава

**1 красавіка, у Дзень смеху, у Міністэрстве інфармацыі адкрылася выстаўка карыкатур, гумарыстычных малюнкаў, шаржаў супрацоўніка альманаха сатыры і гумару “Вожык”, вядомага мастака-карыкатурыста Аляксандра Каршакевіча.**

Выстаўку, якая аб'яднала каля двухсот работ, адкрыла першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, якая адзначала сацыяльную значнасць карыкатуры, яе ўплыў на грамадства. Свае слова пра А. Каршакевіча, беларускую карыкатурыстыку, школу вожыкаўскага гумарыстычнага і сатырычнага малюнка сказалі дырэктар РВУ “Літаратура і Мастацтва” Алесь Карлюкевіч, галоўны рэдактар альманаха “Вожык” Юлія Зарэцкая, мастак, заслужаны дзеяч мастацтваў Сяргей Волкаў. Сярод прысутных было шмат вядомых калег і сяброў мастака — карыкатурысты Мікола Гіргель, Алег Папоў, Анатоль Гармаза, Віталь Дударэнка, Вікенцій Пузанкевіч, Павел Гарадцоў.



*На здымку: адкрыццё выставы.*

## Імпрэзы

# Вечар гумару

Таццяна ВЫСКВАРКА

1 красавіка ў Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна адбыўся вялікі вечар гумару, у якім прынялі ўдзел вядомыя пісьменнікі-гумарысты, сатырыкі, пародысты. Шматлікія гледачы з цікавасцю слухалі гумарыстычныя вершы Сяргея Давідовіча, пародыі і эпіграмы Пятра Радзечкі, пародыі, вершы і гумарыстычныя расповеды Анатоля Зэкава і Уладзіміра Ермалаева, гумарэскі Васіля Найдзіна, вершы і пародыі Януся Мальца, гумарыстычныя “назіранні з натуры” Міхася Пазнякова, пародыі Міколы Шабовіча. Да месца былі і парадыйна-музычныя нумары ў выкананні Дзмітрыя Пятровіча і Анатоля Міхальчэнкава. Не менш уразілі і эпіграмы-прадстаўленні Міколы Шабовіча на кожнага з выступоўцаў.

Вечар, падрыхтаваны гарадскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Беларусі, закончыўся, але гледачы яшчэ доўга не разыходзіліся — дзяліліся ўражаннямі, бралі аўтографы ў паэтаў, здымаліся з імі на памяць, паказвалі свае творы. Дынамічна і зладжана правёў вечар сяброўскі тандэм у складзе Міхася Башлакова і Міколы Шабовіча.

## Да ведама

# Клопат пра каштоўнасці

Лана ІВАНОВА

Як паведамілі ў Міністэрстве культуры Беларусі, прайшло пасяджэнне Камісіі пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь па выяўленні, вяртанні, сумесным выкарыстанні і ўвядзенні ў навуковы і культурны ўжытак нацыянальных культурных каштоўнасцей, што знаходзяцца па-за межамі Беларусі. На пасяджэнні, якое адбылося пад старшынствам намесніка міністра культуры Віктара Кураша і намесніка міністра замежных спраў Беларусі Сяргея Алейніка, падсумоўваліся вынікі рэалізацыі праграмы працы Рэспубліканскай экспертнай камісіі па размеркаванні каштоўнасцей, затрыманых Дзяржаўнай мытняй, разглядаліся прапановы па аптымізацыі механізма размеркавання культурных каштоўнасцей. Была засяроджана ўвага на стварэнні канцэпцыі аўтаматызаванай базы дадзеных нацыянальных культурных каштоўнасцей, што знаходзяцца за межамі Беларусі. Падчас пасяджэння прайшла прэзентацыя віртуальнай рэканструкцыі першага беларускага музея імя Івана Луцкевіча ў Вільні. Вынікам сталася рашэнне пра стварэнне канцэпцыі віртуальнай рэканструкцыі музея: праект мае на мэце выхаванне нацыянальнай самасвядомасці і фарміраванне беларускай прысутнасці ў Інтэрнэтпрасторы праз ідэнтыфікацыю нацыянальных набыткаў.

Літабсягі

# Для тых, хто будзе

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Кастуся Дробава

**У Музеі старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь было нязвыкла людна. Бо менавіта тут, у музейнай зале, праходзіла прэзентацыя дзвюх кніг кандыдата мастацтвазнаўства Барыса Лазукі "Гісторыя сусветнага мастацтва", што прысвечаны развіццю мастацтва ад старажытнасці да XVIII ст. Кнігі пабачылі свет у выдавецтве "Беларусь" пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі краіны.**

Спыніць час, захаваць яго здабыткі для сучаснікаў і наступных пакаленняў — досыць складаная задача. Аднак Барыс Лазука — адзін з тых людзей, якія дасягнулі поспеху ў гэтай справе. Ён здольны знайсці самае характэрнае, вартае і расказаць пра гэта чытачу, тым самым прыадкрыць і таямніцы нашага мастацтва, паказаць краіну з новага боку. Створаныя ім кнігі — пра тое, што было, і для тых, хто будзе мець дачыненне да нашай гісторыі ў будучыні… На такі ўзнёсла-філасофскі аспект кніг падчас прэзентацыі былі скіраваны думкі выступоўцаў. А можа, так і трэба? Бо гэтыя выданні — здабытак шматгадовай плённай працы аўтара, яны, нібы масток у будучыню, распавядаючы нашчадкам пра мінулыя стагоддзі, раскажуць і пра нас.



На прэзентацыі прамаўлялі многія — прадстаўнікі Міністэрстваў інфармацыі і культуры краіны, тыя людзі, хто працаваў над кнігамі ў выдавецтве "Беларусь", калегі, сябры аўтара. Так, дырэктар Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі Аляксандр Лакотка заўважыў: "З'яўленне гэтых кніг абсалютна заканамернае. У краіне павінна быць айчынная гісторыя сусветнага мастацтва. На гэтую тэму ўжо напісана шмат, аднак выданні Барыса Лазукі адметныя змястоўнасцю, навуковай абгрунтаванасцю".

"Вельмі прыемна, што кнігі пабачылі свет дзякуючы спалучэнню працы аўтара і выдаўца. Толькі ў такім выпадку мы атрымліваем маленькі шэдэўр мастацтва. У партфелі аўтара шмат яшчэ здабыткаў, і, думаю, праз некаторы час мы зможам пазнаёміцца з імі, тым больш што "Гісторыя сусветнага мастацтва" будзе мець працяг у выглядзе трэцяй кнігі", — падкрэсліў намеснік міністра інфармацыі Беларусі Ігар Лапцёнак.

Сам Барыс Андрэевіч сціпла заўважыў: "Гэтыя кнігі атрымаліся таму, што ёсць я, аўтар, але ёсць яшчэ людзі — супрацоўнікі выдавецтва "Беларусь", якія працавалі над выданнямі. Гэта літаратурны рэдактар Тамара Паснянкова, мастак Усевалад Свентахоўскі, мастацкі рэдактар Віктар Загародні, карэктары, вярстальшчыкі… Яны не проста выдатна робяць сваю справу, а думаюць пра будучыню, пра тое, што нашы дзеці, унукі будуць чытаць, ведаць".

***На здымку: Барыс Лазука прэзентуе кнігі "Гісторыя сусветнага мастацтва".***

Артлінія

# Рытмы замкаў ды сядзіб

Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
фота Валерыя Харчанкі

**Вернісажы мастакоў і прэзентацыі выдавецкіх праектаў на выставачнай прасторы Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі зазвычай ладзяцца ў музычным атачэнні. Але гэтым разам гераіняй імпрэзы была ўласна музыка: у галерэі "Лабірынт" адбыўся канцэрт-прэзентацыя серыі нотных выданняў "Музычная спадчына Рэчы Паспалітай з Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі", арганізаваны НББ і выдавецтвам "Чатыры чвэрці".**



Праект міжнародны — ажыццёўлены супольна Расійскай Нацыянальнай бібліятэкай, Беларускім дзяржаўным універсітэтам культуры і мастацтваў, выдавецтвам "Чатыры чвэрці" пры фінансавай падтрымцы Польскага інстытута ў Санкт-Пецярбургу. Выхаду ў свет выкшталцоных нотных сшыткаў (іх ужо 10) папярэднічала амаль дваццацігадовая пошукава-даследчыцкая і папулярызатарская праца заснавальніка гэтай серыі выданняў — Яўгена Паплаўскага, кампазітара і вядомага руплівіц адраджэння айчыннай музычнай спадчыны. Ён у свой час быў асістэнтам-стажорам Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі і, зацікаўлены лёсам страчанай і забытай музыкі, што калісьці гучала на беларускіх землях, пачаў мэтанакіравана вывучаць фонды Расійскай Нацыянальнай бібліятэкі. Працягваў сваю пошукава-папулярызатарскую дзейнасць, працуючы ў творчым аб'яднанні "Беларуская Капэла". Далучыўшыся да нешматлікіх даследчыкаў нашай музычнай даўніны, ён уводзіў у культурны досвед сучаснікаў адкрытыя нанова імёны, незнаёмыя творы... Затым былі першыя паспяховыя выдавецкія праекты, падтрыманыя Польскім інстытутам у Мінску. І яго колішні дырэктар, а цяпер дырэктар Польскага інстытута ў Санкт-Пецярбургу Цэзарый Карпінські, даведаўшыся пра новую ідэю дацэнта БДУКіМ Я. Паплаўскага, паспрыяў яе ўвасабленню.

Распачатая ў 2008 г. серыя выданняў мае на мэце пазнаёміць усіх зацікаўленых з музычнай культурай Рэчы Паспалітай XVII — XIX стст. Нягледзячы на парадоксы гісторыі, на крутыя павароты ў лёсах беларускага і польскага народаў, мы спрадвек жывём побач і ў нас ёсць галоўнае: крэўныя повязі, агульная і непадзельная культурная спадчына, даўнія духоўныя каштоўнасці, у якіх — нашы карані, досвед і адметнасць. Пра гэта нагадваюць і помнік культуры XVII — пачатку XVIII стст. "Давыдкаўскі ірмалагіён", і музыка Антона Абрамовіча, Канстанціна Горскага, Аляксандра і Міхала Ельскіх, Юзафа Ігнацыя і Каятана Крашэўскіх, Фларыяна Міладоўскага, Напалеона Орды... Выдадзеныя ноты нясуць і практычную карысць: скажам, зборнік твораў для фартэпіяна ў 4 рукі "Рытмы замкаў і сядзіб" прывабіць музыкантаў-прафесіяналаў і аматараў. Канцэрт-прэзентацыю ўпрыгожыла жывое гучанне музыкі ў выкананні знанага піяніста Ігара Алоўнікава, студэнтаў БДАМ і навучэнцаў каледжа пры ёй. У дар бібліятэцы Я. Паплаўскі перадаў нотныя выданні, прадстаўленыя на імпрэзе.

***На здымку: дырэктар выдавецтва "Чатыры чвэрці" Лілiяна Анцух, намеснік дырэктара НББ Людміла Кірухіна, кампазітар і даследчык Яўген Паплаўскі, народны артыст Беларусі, прафесар Ігар Алоўнікаў.***

Повязі

# Іжэўскія беларусы віталі Караткевіча

**Вечар, прысвечаны памяці Уладзіміра Караткевіча, прайшоў у сталіцы Удмурцкай Рэспублікі.**

Сяргей ШЫЧКО,
фота Кастуся Дробава

Нацыянальная бібліятэка Удмурціі ў Іжэўску сабрала прыхільнікаў творчасці класіка беларускай літаратуры, ураджэнцаў Беларусі, якія жывуць у гэтай старонцы. Нашых землякоў шмат па ўсёй Удмурціі — не толькі ў Іжэўску, але і ў Воткінску, Глазаве, іншых вялікіх і малых паселішчах расійскай глыбінкі. Гэтым разам беларусы чыталі творы аўтара "Дзікага палявання караля Стаха" на роднай мове ў сталіцы другой сваёй радзімы. Старшыня Таварыства беларусаў Удмурціі Мікалай Дзмітрыевіч Украінец прадэманстраваў прысутным выданне "Дзікага палявання…" на чатырох мовах. Падкрэсліў, што праект здзейсніўся дзякуючы Беларускаму Фонду культуры. Сваімі развагамі пра творчасць У. Караткевіча падзяліліся дырэктар бібліятэкі Галіна Гаўрылаўна Калініна, намеснік міністра па справах нацыянальнасцей Савета міністраў Удмурціі Вольга Віктараўна Царагародцава, прафесар Удмурцкага дзяржаўнага ўніверсітэта Ганна Сяргееўна Зуева.

Сярод галоўных удзельнікаў святочнай імпрэзы — народны пісьменнік Удмурціі Вячаслаў Ар-Сяргі. Ён выступіў з паведамленнем пра сучасныя беларуска-удмурцкія літаратурныя сувязі. Дарэчы, паэт і празаік, якога добра ведаюць па ўсёй Расіі, выдаюць у перакладах на фіна-ўгорскія і славянскія мовы ў розных краінах свету, цесна звязаны з Беларуссю. У 2008 годзе літаратар удзельнічаў у святкаванні Дня беларускага пісьменства ў Барысаве. Вершы Вячаслава Ар-Сяргі перакладзены на беларускую мову і надрукаваны ў часопісе "Полымя". Выступаў удмурцкі літаратар і ў часопісах "Нёман", "Всемирная литература". Пра творчасць пісьменніка з Іжэўска расказвалася на старонках беларуска-расійскай газеты "Союз" і ў штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Вячаслаў Ар-Сяргі ў 2008 годзе пабываў у Барысаве і на Барысаўшчыне, у вёсцы Мётча, у Пухавіцкім і Чэрвеньскім раёнах, наведаў мясцовыя дзяржаўныя і грамадскія музеі. І ўжо не аднойчы выказваў жаданне напісаць кнігу пра Беларусь. Будзем чакаць і спадзявацца. Цяпер у Мінску падрыхтаваны да друку зборнік вершаў удмурцкага паэта Вячаслава Ар-Сяргі на беларускай мове.



***На здымку: народны паэт Удмурціі Вячаслаў Ар-Сяргі.***

З-пад пяра

У сталічным Доме літаратара адбылася сустрэча кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі з Ван Сяньцзюй, саветнікам пасольства КНР у Беларусі. Размова ішла пра ўсталяванне творчых, культурных і дзелавых сувязей паміж творчымі саюзамі абедзвюх краін; фінансавую ўзаемадапамогу і падтрымку; пра магчымасць перакладу твораў беларускіх пісьменнікаў на кітайскую мову і адпаведна кітайскіх — на беларускую. А таксама пра ўдзел дэлегацыі Саюза пісьменнікаў КНР у рабоце з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі, які мае адбыцца восенню гэтага года. У гутарцы прынялі ўдзел першы сакратар СПБ Генадзь Пашкоў і старшыня Савета Беларускага рэспубліканскага літаратурнага фонду СПБ Славамір Антановіч.

**Станіслаў МІКАЛАЕЎ**

У Доме дружбы прайшла беларуска-кыргызская літаратурна-музычная вечарына "Песні з глыбінь сэрца", прысвечаная памяці паэта-акына Тактагула Сатылганава. Адкрываючы мерапрыемства, Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кыргызскай Рэспублікі ў Беларусі Эрык Асаналіеў распавёў пра нялёгкі лёс Тактагула, творцы, які змагаўся супраць царскага самаўладдзя. Прысутныя на вечарыне адзначалі, што філасофія і свабодалюбства паэзіі Тактагула сугучныя з творчасцю лепшых беларускіх паэтаў. Яго творы перакладаліся на беларускую мову, гэтаксама, як творы беларускіх класікаў — на кыргызскую. І такая ўзаемная цікавасць да культуры павінна мець прадаўжэнне. У вечарыне прымалі ўдзел беларускія пісьменнікі Генадзь Пашкоў, Георгій Марчук, кампазітар Эдуард Зарыцкі. Гучалі вершы, радавалі прысутных сваім мастацтвам кыргызскі спявак Атылет Шайлабэк Тэгін.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

У Мінскай раённай цэнтральнай бібліятэцы прайшоў семінар для работнікаў бібліятэк філіялаў раёна. На сустрэчу была запрошана пісьменніца Кацярына Хадасевіч-Лісавая. Яе творы прыцягваюць увагу аматараў жаночых гісторый, прымушаюць задумвацца, суперажываць, а галоўнае, чытаць, не адрываючыся, старонку за старонкай. Кацярына Станіславаўна чытала свае вершы, напоўненыя каханнем, жаноцкасцю, вытанчанасцю, знайшоўшы ўдзячных слухачоў сярод бібліятэчных супрацоўніц.

**Святлана КОЎЗЕЛЕВА**

У музеі ваўкавыскай гімназіі № 1 збіраюцца экспанаты і матэрыялы для адкрыцця экспазіцыі, прысвечанай акцёру Аляксандру Дзядзюшку. Ваўкавыск добра памятае яго як яркага артыста, незабыўнага "Албанца" з любімага тэлесерыяла. Калі Аляксандр трагічна загінуў разам са сваёй сям'ёй у аўтакатастрофе, землякі былі шакіраваны. У экспазіцыю ўвойдуць асабістыя рэчы, запісы тэлеперадач пра акцёра, дакументы і лісты. Некаторыя рэчы перадалі калегі Дзядзюшкі з Расіі, штосьці падарылі былыя настаўнікі і аднакласнікі. Сваімі ролямі ў кіно Аляксандр Дзядзюшка выхоўваў з нашых хлопцаў сапраўдных мужчын. На радзіме артыста не забываюць пра гэта.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

Паэтычная вечарына "Усё пачынаецца з кахання" прайшла ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі. Зала сабрала вялікую грамаду студэнтаў розных факультэтаў, якія з вялікай цікавасцю слухалі сваіх калег. Гучалі вершы вядомых паэтаў Сяргея Ясеніна і Роберта Раждзественскага. Моладзь БДУІР у чарговы раз прадэманстравала, што разбіраецца не толькі ў складаным свеце сучаснай інфарматыкі, але і ў паэтычнай класіцы.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Гісторыя аднаго фотаздымка

# Каб любіць Беларусь нашу мілую…

**Калі я пачуў, што ў космас паляцеў спачатку наш Пётр Клімук, а пасля яго — Уладзімір Кавалёнак, я быў надзвычай усцешаны. Мне хацелася нешта такое зрабіць, каб нашы касманаўты адчувалі і ў космасе подых роднай зямлі, сваю кроўную повязь з ёю, не забыліся пра прыналежнасць да свайго народа…**

Уладзімір СОДАЛЬ

Якраз гэтым часам выйшла мая першая кніжка "Людзьмі звацца" ў бібліятэцы "Голас Радзімы", у якой я распавядаў пра розныя старонкі нашага нацыянальнага жыцця. Мне здавалася, што гэтая мая кніжачка можа паспрыяць нашым касманаўтам яшчэ мацней адчуць іхнюю повязь з Беларуссю, са сваім народам, з яе гісторыяй. З гэтай місіяй я паслаў свае кніжачкі нашым першым касманаўтам. Неўзабаве атрымаў ад іх падзячныя паштоўкі. Пётр Клімук, прыкладам, пісаў:

"Уважаемый Владимир Содаль!

Искренне благодарен за внимание, которое Вы оказали мне, подарив книжечку "Людзьмі звацца". Желаю Вам больших творческих успехов, счастья и здоровья. Примите поздравления с праздником 1 Мая. П. Климук

24.04.79 г."

…Маё юнацтва прыпала на эру касманаўтыкі. Прыгадваю. Я заканчваю трэці курс філфака. Якраз 12 красавіка 1961 года ў нас былі заняткі па тэхніцы выразнага чытання. Праводзіў іх незабыўны майстар мастацкага слова Ілья Курган. Раптам яго хтосьці



пагукаў. Неўзабаве ён вярнуўся ў аўдыторыю і сказаў: "Чакаецца важнае ўрадавае паведамленне, я мушу перапыніць заняткі і ісці на радыё… Здаецца, чалавека ў космас паслалі", — дадаў ён. А неўзабаве мы пачулі пра першы палёт у космас Юрыя Гагарына. Гэтак мы праз Ілью Кургана, нашага выкладчыка, на некалькі гадзін раней, чым іншыя, пачулі пра палёт у космас першага чалавека. Здаецца, нядаўна ўсё гэта было, але і вельмі ж даўно.

Я і надалей працягваю сачыць за прафесійным і грамадскім жыццём нашых касманаўтаў. Яны ж у нас самыя ганаровыя грамадзяне краіны. Праз іх і наша Беларусь далучаная да касмічных таямніц сусвету.

*P.S. У свой час, у сваю пару Васіль Зуёнак паслаў свае вершы Уладзіміру Кавалёнку і атрымаў ад касманаўта падзячнае фота з прагікнёным аўтографам на нашай роднай мове:*

"Васілю Зуёнку з борта касмічнага комплексу са шчырай падзякай за вершы.

Кавалёнак

4.07.72"

***На здымку: У. Кавалёнак — са шчырай падзякай з касмічнага комплексу.***

Памятнае

# Мы ідзём, галактыка!

Вячаслаў РАГОЙША

Дзень 12 красавіка 1961 года помніцца як цяпер. Мы, студэнты-трэцякурснікі філфака (а ён складаўся тады з трох невялікіх аддзяленняў: беларускага, рускага і журналістыкі), у актавай зале нашага корпуса па вуліцы Чырвонаармейскай слухаем чарговую лекцыю па палітэканоміі. Выкладчык чытае, як, "в отличие от капитализма, при социализме вся прибавочная стоимость служит во благо народу". Выкладчыкі грамадскіх дысцыплін звычайна менавіта чыталі лекцыі, калектыўна напісаныя і калектыўна абмеркаваныя на кафедрах. Зразумела, каб не адысці ад "лініі партыі", якая часта мянялася ў тыя гады. Бачу краем вока: Віця Красней, як заўсёды, уважліва натуе лекцыю. Іра Шаблоўская з Светай Мусіенкай нешта ціха абмяркоўваюць паміж сабой. Лёня Акаловіч крадком чытае нейкі "праграмны" раман. Ніна Маеўская задумалася, глядзячы ў акно. Відаць, прыйшло натхненне, піша верш. Міша Шыманскі і Анатоль Кудравец нешта хутка, хутчэй, чым прамаўляе выкладчык, строчаць. Відаць, "адпісваюцца": "прыціснулі" рэдактары газет, з якімі яны, паралельна з вучобай, супрацоўнічаюць... I тут з грукатам расчыняюцца дзверы, у іх — радасна-задыханы Жэня Радкевіч, які крычыць: "Нашы ў космасе!" Ён, замест лекцыі, па сваіх журналісцкіх абавязках (зразумела, на шкоду вучэбным) завітаў у "Звязду" і адтуль у якасці свайго "алібі" прымчаў гэтую вестку.

Што тут пачалося! Усе сарваліся з месцаў і панесліся з актавай залы. А ў калідорах корпуса з рупара радыёпрыёмніка пачало грымець: "Сообщение ТАСС…" Хто паспеў апрануцца ў гардэробе, хто не паспеў — усе высыпалі на Чырвонаармейскую. Адсюль рукой падаць да Ленінскага праспекта (цяпер — Незалежнасці), над якім таксама ваўсю грымела: "Сообщение ТАСС". Скрозь хмары выглянула сонца. З усіх бакоў, з усіх установ (якая там праца!) на праспект сцякаліся людзі на "несанкцыянаваны мітынг". Тут жа самі шыхтаваліся ў калоны. Па праспекце павольна паплыла дэманстрацыя. Аднекуль узняліся над галовамі дэманстрантаў вітальныя плакаты, нават партрэты Юрыя Гагарына ў гермашлеме, якога мы толькі вечарам убачылі з экрана тэлевізара. Луналі радасныя воклічы, то там, то сям гучалі песні.

Каб усвядоміць тагачасную радасць ад першага палёту ў космас чалавека, ды яшчэ савецкага, павінен нагадаць, што

**У гэтыя вясновыя дні, калі шырока адзначаецца пяцідзесяцігадовы юбілей першага палёту Чалавека ў Космас, хочацца і мне прыгадаць той незабыўны час.**

касмасам тады трызніла, бадай, усё чалавецтва. Прайшло ўсяго крыху больш пяці гадоў, як былі запушчаны першыя спадарожнікі Зямлі. Помню, як я зайздросціў свайму земляку Раману Руткоўскаму, які на год раней за мяне скончыў Ракаўскую СШ, паступіў на матэматычны факультэт БДУ і мог у складзе студэнцкага "касмічнага гуртка" па радыёпрыборы слухаць рэальнае цўканне спадарожніка. Пасля ж на ракетах у космас адпраўляліся сімпатычныя сабачкі. Некаторым з іх нават шанцавала вяртацца назад жывымі. Чакалася: вось-вось паляціць у космас і чалавек. Але хто першы: наш ці амерыканец? I вось здзейснілася…

Зразумела, ні ў той дзень, ні назаўтра было не да лекцый. Вечарам у інтэрнаце па Свярдлова, дзе мы тады жылі, наладзілі грандыёзныя нечарговыя танцы. Мой аднакурснік і сусед па пакоі Мікола Пашкевіч расцягнуў мяхі свайго гармоніка, выгукнуў па-мядзельску "Трэці курс гуляіць!" і, у акружэнні дзяўчат, спусціўся ў вестыбюль першага паверха. Гулялі ледзь не да раніцы...

Прайшоў пэўны час. Услед за Юрыем Гагарыным паляцелі ў космас і іншыя нашы касманаўты. Некаторыя з іх, як мы ведаем, былі надзелены ад прыроды не толькі выдатным здароўем, тэхнічнымі здольнасцямі, але і не абы-якім творчым дарам. У прыватнасці, свае выдатныя мажлівасці жывапісца прадэманстраваў Леанід Лявонаў. А Павел Паповіч неўзабаве пасля сваёй сустрэчы з космасам заявіў пра сябе як паэт. У "Літературної Україні", якую я тады выпісваў, быў надрукаваны яго верш "Я іду, Галактыка!". Для мяне гэта было адкрыццём: Павел Паповіч піша вершы, ды яшчэ на роднай украінскай мове! Верш я тут жа пераклаў на беларускую мову і з адпаведнай "урэзкай" надрукаваў 12 красавіка 1966 года ў "Чырвонай змене". Мяркую, для новага пакалення беларусаў, чытачоў "Літаратуры і мастацтва", таксама, як і некалі для мяне, будзе нечакана-радасна пазнаёміцца з касманаўтам Паўлам Паповічам-паэтам. Вось гэты яго верш:

*Чуў не раз я пра любоў да мора*
*І да неба ў сэрцы нёс любоў.*
*Пад яго нямеранай прасторай*
*Безліч кіламетраў сам прайшоў.*
*Ды скажу па шчырасці; хоць многа,*
*Больш, чым на зямлі, я ў небе жыў, —*
*Для мяне радней няма нічога,*
*Ёй, зямлёй, найболей даражыў.*
*Вось таму ізноў я прысягаю:*
*Покуль сэрца ў грудзі шчодра б'е —*
*Ні на што нідзе не прамяняю*
*Родную і плодную — Яе!*
*З громам і вясёлаю вясёлкай,*
*З ветрам, што тапалі нахіліў,*
*З буйным цветам,*
*з кожнай гойнай голкай*
*І з дажджом, што сыпле на палі,*
*З белаю хацінаю над ставам,*
*З водарам герані у садах,*
*З нафтаю і з наймацнейшым сплавам,*
*Што булькоча ў доменных пячах.*
*Кветкі ў космас з роднае планеты*
*Браў на згадку, што цвіла вясна.*
*Кветкі тыя бачыў на лафетах*
*У байцоў, калі была вайна.*
*А пяхоце сніліся пракосы*
*І баразны пульхнае раллі,*
*На начлезе дым кастра і росы,*
*Плён багаты ўдзячнае зямлі.*
*Хоць ніякай розніцы між намі,*
*За салдатаў рады я стократ.*
*У пяхоты шчасце пад нагамі —*
*Свята беражы яго, салдат!*
*Я і сам дарогу пракладаю,*
*Дзе ніхто дагэтуль не хадзіў,*
*Толькі без цябе, Дняпроўскі краю,*
*Я ў жыцці нічога б не зрабіў.*
*Я іду, Галактыка!*
*Ні змора*
*І ні страх не спыніць мой разгон!*
*Сын Зямлі я —*
*Зразумейце, зоры,*
*Гэта ад яе нясу паклон!*
*І не будзьце ў крыўдзе за характар:*
*Больш, чым вас, усё ж люблю расу.*
*У халодны змрок нямых галактык*
*Я сваё, зямное, данясу.*
*А калі надыдзе ліхалецце,*
*Пад дажджом касмічным упаду —*
*Стану да цябе, Зямля, ляцець я*
*І працяг свой у табе знайду.*
*Попелам, што ў стэпе ляжа недзе,*
*Ці каля Дняпра пасевам рос —*
*Мне жыццё вярні, каб на планеце*
*Залатым я коласам прарос!*

Хочацца, каб маладое пакаленне заўсёды помніла не толькі пра тых, хто вяршыў подзвігі на Зямлі, але і ў Космасе.

# Працавалі на космас

Эдуард КАРНІЛОВІЧ

Палымянасць новага здзіўляе і палохае. З'явіўся новы чалавек у навукова-тэхналагічнай сістэме — з'явіцца і новы сучасны герой у мастацкай творчасці. Іван Міско першым стварыў скульптурныя партрэты Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка. У мастацка-дакументальным жанры працавалі самі касманаўты. П. Клімук з дапамогай пісьменніка Міколы Гіля выпусціў твор "Зоры — побач", а потым — "Атака на бязважкасць". І У. Кавалёнак выпусціў дзве кнігі: "Радзіма крылы дала" і "Арбіты жыцця". А дзе ж тыя, хто непасрэдна задзейнічаны ў сферы касманаўтыкі і ракетабудавання? Яны былі і будуць, але мы мала іх ведаем. У гісторыі космасу вечна будуць жыць Мсціслаў Келдыш, Сяргей Каралёў, Міхаіл Янгель, Павел Сухой, Афанасій Лянькоў (двое апошніх — беларусы). Згадаем некалькі выдатных імён нашых землякоў, якія працавалі і працуюць "на космас".

Афанасій Лянькоў нарадзіўся 18 студзеня 1917 года ў вёсцы Малы Трылесін (цяпер Бялыніцкі раён). У 1938 годзе скончыў Таганрогскі авіяцыйны тэхнікум. Але хлопец не стаў лётчыкам, пайшоў на авіярамонтны завод, што знаходзіўся ў Смаленску. Працаваў майстрам, тэхнолагам. Гораду пагражала фашысцкая навала, але на фронт Лянькова не ўзялі. Разам з заводам ён быў эвакуіраваны ў Куйбышаў. Пасля вайны, у 1955 годзе, скончыў Куйбышаўскі авіяцыйны інстытут і працаваў начальнікам агрэгатна-зборачнага цэха. Пазней быў прызначаны дырэктарам завода "Прогресс", які знаходзіўся ў Куйбышаве. Пад кіраўніцтвам Лянькова асвойвалася серыйная зборка і выпрабаванне міжкантынентальных балістычных ракет і крылатых ракет для Ваенна-марскога флоту, мадыфікацый ракет-носьбітаў "Восток", "Восход", "Молния", "Союз".

Ён займаўся і ўкараненнем сістэмы аўтаматычнага кіравання вытворчасцю. А. Лянькоў ўганараваны званнем лаўрэата Ленінскай прэміі (1966). Узнагароджаны двума ордэнамі Леніна, ордэнамі Кастрычніцкай рэвалюцыі і ордэнам "Знак Пашаны", медалямі. Памёр наш выдатны зямляк 27 лютага 1980 года.

А ці быў яшчэ хто з беларусаў у гэтай сферы? Вядома ж, былі і ёсць. Па далёка не поўных звестках у мой спіс трапіла звыш ста імён. Сярод іх — Віктар Камісараў, таленавіты канструктар, якога называюць інжынерам-мастаком. Ён нарадзіўся ў горадзе Барысаве Мінскай вобласці, дзе і скончыў сярэднюю школу. Паступіў у Маскоўскае вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя М. Э. Баумана. У 1958 годзе Віктар Камісараў, якому тады споўнілася 24 гады, быў накіраваны ва Усесаюзны навукова-даследчы інстытут транспартнага машынабудавання. Сур'ёзна займаўся тэхнічнай творчасцю, прайшоў шлях ад простага інжынера-канструктара да начальніка Канструктарскага бюро.

Ён непасрэдна ўдзельнічаў у распрацоўцы эксперыментальнага ўзору машыны на паветранай падушцы СМ-І (вы бачылі хуткасныя японскія цягнікі). Цікавы першы аўтаматычны месяцаход, які стварыў і кіраваў ім з Зямлі цяпер ужо вядомы канструктар з-пад Мінска. Ён яшчэ распрацоўваў спецыялізаваны транспартны робат для ліквідацыі наступстваў аварыі на Чарнобыльскай АЭС. В. Камісараў — аўтар 35 вынаходніцтваў і лаўрэат Дзяржаўнай прэміі (1973), якая прынесла яму шырокую вядомасць сярод даследчыкаў космасу.

Чалавек нараджаецца не для ўяўнага шчасця, а для таго, каб працаваць, шукаць і знаходзіць сябе ў паўсядзённай творчасці. Так, здаецца, адчуваў сябе славуты старажыл закрытага горада Арзамас-16 Веніямін Цукерман — фізік, заснавальнік айчыннай імпульснай рэнтгенаграфіі, Герой Сацыялістычнай Працы. Ён нарадзіўся 6 красавіка 1913 года ў Віцебску. У дзяцінстве перажыў вайну, рэвалюцыю. У 1930 годзе паехаў у сталіцу. І пашанцавала хлопцу: яго прынялі на працу супрацоўнікам рэнтген-лабараторыі Маскоўскага машынабудаўнічага інстытута, які ён скончыў у 1936 г. і ў хуткім часе стаў кіраўніком рэнтген-лабараторыі Інстытута машыназнаўства Акадэміі навук СССР. У час вайны ён вынайшаў прыстасаванне для кідання бутэлек з запальнай сумессю. Яно дапамагло ў цяжкіх баях з фашысцкімі танкамі. Абараніў кандыдацкую дысертацыю, пазней стаў доктарам фізіка-матэматычных навук, прафесарам. Вайна скончылася, а небяспека абвастралася. Сакрэтную вытворчасць трэба было адвесці ад Масквы. Арзамас-16 стаў родным домам Веніяміна Аронавіча, 44 гады тут давялося жыць, адкрываць, кіраваць. Знакаміты Юлій Харытон запрасіў яго працаваць над стварэннем ядзернай зброі, кіраваць аддзелам эксперыментальнай фізікі. Упершыню ў айчыннай і сусветнай навуцы наш зямляк распрацаваў і здзейсніў рэнтгенаграфічныя даследаванні з'яваў выбуху і дэтанацыі. Памёр вялікі віцябчанін у 1993 г.

# Калі адсейваецца другараднае…

**Хто адважыцца адказаць на такое, здавалася б, простае пытанне: "Як пражыць без літаратуры, без чытання кніг?" Верагодна, ніхто. Таму што гэта — аксіёма. Яшчэ англійскі пісьменнік Джозеф Адзісон у XVII стагоддзі сцвярджаў: "Чытанне для розуму — тое ж, што фізічныя практыкаванні для цела". А кніга па-ранейшаму створана дзеля таго, каб прываблiваць чытачоў тым самым разумным, добрым, вечным...**

**Рыгор САКАЛОЎСКІ,**
**старшыня Мінскага абласнога аддзялення СПБ,**
**фота Кастуся Дробава**

Канечне, што чыталі раней і колькі часу бавілі за кнігай — цяпер ніяк не параўнаць. Але праблема ў іншым: на самой справе, няшмат з'яўляецца цяпер добрых, мудрых кніг. Ды і рэкламуецца друкаваная прадукцыя не надта ўмела. Усім здаецца, што сёння з-за крызісу і па іншых прычынах стала менш чытачоў. Хаця кніг стала больш. Зазірніце ў кнігарні — вочы разбягаюцца ад зіхацення новенькіх вокладак. Але ўсё роўна цікавасць да чытання страчана.

Паглыбляючыся ў гэту праблему, прыходзіш да высновы: калі раней выхад кнігі ў свет быў з'явай у літаратуры, кнігі аб'ядноўвалі людзей, прымушалі іх думаць, разважаць, спрачацца, то цяпер, на вялікі жаль, чытанне стала індывідуальным заняткам.

І прычын таму можна назваць мноства. Гэта і вядомы ўсім Інтэрнэт, які прыніжае сапраўдную літаратуру. (У выдавецтвах, як вядома, над пісьменніцкім творам працуюць рэдактары, а яшчэ раней з ім знаёміцца выдавец. Адным словам, творы праходзяць адбор, адсейваецца тое, што не ўяўляе мастацкай вартасці). А ў Інтэрнэце гэтага няма, любы можа напісаць немаведама што і як захоча, да таго ж і растыражаваць. Заахвочваецца непрафесіяналізм.

Сваю нядобрую паўсядзённую справу робіць і тэлебачанне, калі выпускае на блакітны экран легкавесныя меладрамы, крывавыя серыялы, зусім забываючыся пра сапраўдную літаратуру, якая ёсць люстэркам грамадства, яна выяўляе яго рысы таксама, як і слова выяўляе чалавечую сутнасць. Кніга, безумоўна, — адбітак часу, самога жыцця. Ва ўсе часы перапляталіся ў людскіх лёсах адны і тыя ж праблемы, жарсці, памкненні. Толькі… адкрываеш старонку класіка — і захлынае прыгажосць, якой не заўважыў, і не адарвацца ад радкоў, якія ўжо неаднаразова чытаў. А ў якой-небудзь невядомай кнізе перагорнеш некалькі старонак — і адкладзеш убок... назаўжды.

Мне могуць пярэчыць: на тое ж гэта і класіка, яна ўніверсальная, да яе звяртаюцца ва ўсе часы. І гэта так. Таму тыя, хто піша і творыць цяпер, сучасныя пісьменнікі, вучацца ў старэйшых майстроў пяра, пераймаюць вопыт, імкнуцца стварыць добрыя творы. А гэта, натуральна, не так лёгка і проста, як здаецца. Так, час цяпер другі, і людзі іншыя, і маральныя каштоўнасці часам дэвальвуюцца. Але галоўнае застаецца нязменным — душа і сумленне чалавека, яго пастаяннае імкненне да дабра і справядлівасці, да вышэйшых пачуццяў, якія ў чалавека спрадвечныя, — гэта любоў да блізкіх, да роднай зямлі.

Вось гэтыя праблемы і хвалююць пісьменніцкія сэрцы. Не стаяць убаку, як кажуць, і члены Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, яны ствараюць новыя творы. У іх — і гісторыя, і сучаснасць, і фантастыка...



Зноў, напрыклад, парадавала сваіх прыхільнікаў новым гістарычным раманам "На перепутье двух дорог" Наталля Голубева. Цэнтральнае месца расповеда — Бабруйская крэпасць — першае стратэгічнае збудаванне, якое было ўзведзена перад вайной 1812 года ля заходняй граніцы Расійскай імперыі. На гэтым фоне і разгортваюцца падзеі, якія ўсебакова і неардынарна асвятляе ў рамане Н. Голубева.

Бліснуў яркім талентам у кнізе фантастыкі празаік з Коласава Алесь Аляшкевіч. Назваў яе "Дзеці зорак".

Мудра сказана: казка мана, ды ў ёй намёк. У тым сэнсе, што, калі знаёмішся з творамі гэтага жанру, атрымліваеш урокі дабрыні, справядлівасці. Што асабліва важна для дзяцей. Аднак язык не паварочваецца сказаць, што казка Генадзя Аўласенкі з Чэрвеня "Удивительные приключения маленького Ветерка из Вентилятора" — мана, бо яна такая праўдзівая, што ніколькі не сумняваешся — усё гэта было на самай справе.

Па-добраму зайздросціш пісьменніку-франтавіку, які пакінуў свой аўтограф на сценах рэйхстага, Івану Муравейку. Што ні год — то кніга. І зноў чытачы з хваляваннем раскрываюць яго новыя кнігі "Была война" і "Лебединый край" (апошні прысвечаны роднай Любаншчыне, яе працалюбівым людзям).

Сваю лірычную мелодыю, вобразна кажучы, унеслі ў агульную пісьменніцкую сімфонію і паэты. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў у свет неардынарны зборнік вершаў Рагнеда Малахоўскага "Беражніца". Цікавымі, пранікнёнымі радкамі ўсхвалявалі прыхільнікаў паэтычнага слова Канстанцін Цыбульскі (зборнік "Мгновение над Бездной") і Міхась Сазончык (зборнік "Выпрабаванне часам").

На мой погляд, у гэтых творах яскрава выявілася адданасць сыноў і... пісьменнікаў Міншчыны перад Яе Вялікасцю Літаратурай! Без яе, абранніцы, яны не ўяўляюць свайго жыцця. А служэнне літаратуры лічаць сваім святым абавязкам.

Хтосьці сказаў, што кніга ніколі не бывае ўжо загадзя шэдэўрам — яна ім становіцца. А каб напісаць твор, які адпавядае часу і чалавеку, які жыве ў ім, неабходны дзве ўмовы: наяўнасць вялікага таленту і пісьменніцкае працалюбства, якое даходзіць часам да фанатызму. Трэба бязмерна любіць Літаратуру, жывое Слова і, канечне, разумець, што без гэтага проста немагчымы твор, да якога пацягнецца чалавечая душа.

Многім маім пабрацімам па літаратурным цэху даспадобы творчы метад пісьменніка Міхаэля Эндэ: "Я працую хутчэй не як пісьменнік, а як мастак. Мастак часта пачынае маляваць з найбольш яркага вугла, паступова дамалёўваючы астатняе. У мяне, зразумела, ёсць унутраная ідэя, але яна пастаянна мяняецца на працягу работы. Я пішу вельмі павольна, калі-ніколі сяджу і па чвэрці гадзіны над адным сказам, абдумваючы яго. Атрымліваю асалоду — каб яго можна было круціць і разглядаць як палатно мастака. Але для мяне гэта не толькі карціна, але і мелодыя. Мне важна не толькі як гэта выглядае, але і як гучыць".

Шчыра верыцца, што пісьменнікі двойчы ардэнаноснай Міншчыны не сядзяць склаўшы рукі: яны шукаюць, разважаюць, твораць... А хутка, безумоўна, з'явяцца новыя вартыя творы, якія пацвердзяць мудрае выказванне: добрая тая кніга, якую разгортваеш, спадзеючыся, а закрываеш, узбагаціўшыся.

## На пульсе

# Пілою па памяці…

У рэдакцыю звярнуўся ўсхваляваны мінчанін Леанід Кавалёў: у двары дома № 48 па вуліцы Веры Харужай, таго самага, дзе некаторы час у 60-х гадах жыў Уладзімір Караткевіч, пілуюць дрэвы. Яны былі пасаджаны шчаслівымі навасёламі, жыхарамі гэтага і суседняга — 14-га — дамоў тады, калі будынкі толькі засяляліся. Між іншым, 48-ы быў домам асаблівым — пісьменніцкім. Акрамя Караткевіча тут тады атрымалі кватэры многія беларускія літаратары. Пісьменнікі актыўна прымалі ўдзел у добраўпарадкаванні свайго двара. Караткевіч уласнаручна пасадзіў два каштаны. Цяпер усё гэта вырашана пусціць пад пілу — тут плануецца ўзвядзенне яшчэ аднаго дома.

Дворык, сапраўды, выглядаў сумна. Ад некалькіх дрэў — толькі пянькі, шырокія і абсалютна не трухлявыя. Навокал — перакапана, заклапочаныя будаўнікі ходзяць, нешта вымяраюць...

— Саджанцы мы, жыхары гэтых дамоў, у 1967 годзе заказвалі праз наша домаўпраўленне. Ніякіх таполяў — каштаны, рабіны, маньчжурскі арэх… І так усе радаваліся! — расказвае жыхарка 20-й кватэры дома № 48 Тамара Валасецкая. — У нас быў дагледжаны, прыгожы двор. Цяпер жа ўсё бязлітасна знішчаюць. Нічога, — кажуць, — пасля, як пабудуем, новыя дрэвы пасадзім. А нам не трэба новых! Шмат гадоў раслі гэтыя — сталі сапраўднымі прыгажунамі. Ужо і няма некаторых з тых, хто даў ім жыццё, а дрэвы працягваюць расці як памяць пра іх. Навошта ж па памяці гэтай — пілою?

— Я была школьніцай, калі гэты двор добраўпарадкоўваўся, — успамінае Аляксандра Воднева. — Як атрымоўвалі тут кватэру, падавалася, амаль на краі горада жыць давядзецца. А цяпер гэта практычна цэнтр. Наш пад'езд — другі, а кватэра — я і цяпер у ёй жыву — дванаццаць сёмая. Уладзімір Караткевіч жыў у дванаццаць шостай. Менавіта тут, у гэтым доме, ён стварыў "Чорны замак Альшанскі". І там, у рамане, ёсць апісанне нашага двара, нашых лавачак, нашых дрэў… Ён пасяліў свайго героя ў нашым доме… Так шкада, што гэты славуты дворык губляе сваю прыгажосць! І здаецца, не з-за таго, што інакш нельга, а проста таму, што камусьці са спілаванымі дрэвамі і разварочанымі клумбамі працаваць зручней.

**Ірына МАСЛЯНІЦЫНА**

### *Каментарый*

**Анатоль БУТЭВІЧ**, пісьменнік, старшыня грамадскай назіральнай камісіі пры Міністэрстве культуры па захаванні гісторыка-культурнай спадчыны, па просьбе рэдакцыі так выказаўся на гэты конт:

— Мяне падкупляе і цешыць незвычайнасць тамашніх жыхароў. Бо, як на маё разуменне, менавіта з парадку, утульнасці ў сваім двары пачынаецца парадак на нашай агульнай беларускай зямлі. Ды і незвычайнасць — гэта тая рыса, якая дае спадзеў, што нядобрага і злога вакол нас таксама паменее. Каб было такіх незвычайных людзей значна і значна больш, то мо і з нашымі даўнімі помнікамі гісторыі і культуры была б іншая сітуацыя, не ўзнікалі б звычайныя куратнікі з газасілікатных блокаў побач з былымі палацамі і на іх дварах, не нішчылася б справа і памяць продкаў.

А што да дрэў, якія сякуць і пілуюць па вуліцы імя В.Харужай, то шкада іх. Шкада людзей, якія не разумеюць, што робяць. І таму, што менш зялёным стане наш Мінск — як можна бачыць, на многіх вуліцах маладыя дрэўцы, пасаджаныя замест старых, чамусьці ўпартa не хочуць прыжывацца і сохнуць, сохнуць. І таму, што нехта не жадае прыслухацца да людской думкі, не хоча растлумачыць, што да чаго, не разумее, што тым самым знішчае грамадскую актыўнасць.

Нашай памяці шкада — шчарбатай яна атрымліваецца… А тут жа такая памяць! Дрэвы пасаджаны Уладзімірам Сямёнавічам Караткевічам. Гэта ж унікальны выпадак.

Там бы шыльдачку адпаведную паставіць. Да тых дрэў дзетак ды турыстаў вадзіць — каб помнілі, каб ведалі, каб ганарыліся, што захавалі, што пад іхнім ценем можна суцішыцца ад мітусні і добрым словам згадаць літаратараў, якія пакінулі след не толькі ў прыгожым пісьменстве, а і на зялёнай карце нашай краіны. А мы іх — пад корань, а мы па іх — сякерай… Навошта?!

# Разнастайнае праяўленне таленту

**Ірына ТУЛУПАВА**

**Як эфектыўна спалучаць у культурнай галіне інтарэсы дзяржавы і прыватнікаў? Гэта пытанне стала тэмай калегіі Міністэрства культуры Беларусі з удзелам кіраўніцтва міністэрства, начальнікаў упраўленняў і прадстаўнікоў прыватнага сектара культуры.**

Калегія праходзіла ў прыватнай галерэі "Ў" і яскрава засведчыла імкненне абодвух бакоў да супрацоўніцтва. Такое партнёрства разглядаецца як стратэгічнае ў сферы культуры. Адна з яго мэт — стварэнне з боку дзяржавы ўмоў для развіцця таленавітай творчай асобы. "Мы павінны прызвычаіцца да таго, што могуць быць разнастайныя формы праяўлення таленту", — зазначыў міністр Павел Латушка. Ён акцэнтаваў увагу на магчымасці з'яўлення новых праектаў, эфектыўных і ў творчасці, і з пункта гледжання эканомікі. Супрацоўніцтва апошнім часам пашыраецца. Так, кампанія "Трайпл" узялася адбудаваць у Мінску дом, дзе нарадзіўся Максім Багдановіч. Даволі працяглы час дзейнічае прадзюсарскі цэнтр у галіне эстрады, які фінансуецца прадпрыемствам "Амкадор". Добрым прыкладам з'яўляецца фінансаванне з боку "Приорбанка" ўдзелу беларускіх мастакоў у Венецыянскім біенале. (Сёлета на пачатку чэрвеня ў Венецыі будзе адкрыты беларускі павільён). У гэтым годзе пры падтрымцы Міністэрства культуры будзе таксама створаны цэнтр сучаснага мастацтва, дзейнасць якога плануецца ажыццяўляць пры падтрымцы дзяржаўнага бюджэту і "Приорбанка". У аховe помнікаў гісторыка-культурнай спадчыны яскравым прыкладам прыватнай ініцыятывы з'яўляецца дзейнасць фонду "Любчанскі замак". І важна, каб такі вопыт распаўсюджваўся як мага шырэй. Пакуль яшчэ ў Беларусі толькі 7 прыватных устаноў культуры, 10 000 — дзяржаўных і 400 тых, што абралі партнёрскую дзейнасць адным з сваіх кірункаў.

Між іншым, сёлета Міністэрства культуры праводзіць конкурс новых фестывальных праектаў: у недзяржаўных арганізацый ёсць шанц атрымаць фінансавую падтрымку з бюджэту.

У Мінску неўзабаве з'явіцца Музейны квартал — у раёне вуліц Леніна, Кірава і Маркса. Канцэпцыя яго ўхвалена на самым высокім узроўні.

Падыходы да развіцця дзяржаўнага і прыватнага партнёрства пачалі распрацоўвацца з 2009 года, калі складалася пэўная сістэма і працавалі над праектамі нарматыўных актаў на ўзроўні законаў, указаў Прэзідэнта Беларусі, пастаноў Савета Міністраў, стварэння адпаведнай сучаснай нарматыўнай базы Міністэрства культуры. А з 2010 года частку сродкаў рэспубліканскага бюджэту міністэрства пачалі выдаткоўваць на праектную дзейнасць, у тым ліку — падтрымліваць прыватнікаў і больш актыўна прыцягваць сродкі спонсараў.

Выпрацоўка дзейсных інструментаў партнёрства вядзецца з улікам сусветнага вопыту, які засведчыў ужо эфектыўнасць эканомікі культуры. Дарэчы, па ацэнках брытанскіх экспертаў, у апошнія дзесяцігоддзі даход ад экспарту музыкі ў Англіі перавысіў даходы ад экспарту машынабудавання і аўтамабілебудавання разам узятых.

Генадзь АЎЛАСЕНКА

# Рэмейк: за і супраць…

**Прачытаў у “ЛіМе” ад 18 сакавіка артыкул Ягора Конева “Рэмейк — падмурак дабрачыннасці”, і чамусьці адразу ж пацягнула ўключыцца ў дыскусію. Артыкул празаіка — адказ на крытычную рэцэнзію Дзяніса Марціновіча “Гэта салодкае слова — рэмейк”, у якой крытык назваў апошні твор Конева “Новыя палескія рабінзоны” (цытую даслоўна) “другаснай з’явай, якая толькі паўтарае ранейшыя знаходкі класікаў”… Адразу ж заўважу, што гэтыя словы Дзяніса Марціновіча адносяцца не толькі да канкрэтнага твора Ягора Конева, але і да ўсіх так званых літаратурных рэмейкаў.**

Вядома ж, аўтар “Новых палескіх рабінзонаў” з гэтым катэгарычна не згодны.

Шчыра кажучы, не люблю чытаць такія артыкулы-адказы. Бо так часта ў іх пераходзяць мяжу дазволенага, і тады замест дыскусіі па сутнасці справы (літаратурнай) пачынаецца ўжо дыскусія да літаратуры не стасоўная, з узаемнымі абвінавачваннямі.

Дык вось, калі я пачынаў чытаць артыкул Ягора Конева, то падсвядома чакаў чагосьці падобнага. І быў прыемна здзіўлены, калі зразумеў, што памыліўся…

Артыкул “Рэмейк — падмурак дабрачыннасці” — гэта спроба даказаць, што літаратурны рэмейк не проста мае права на існаванне ў айчыннай літаратуры, але і з’яўляецца неад’емнай, нават арганічнай яе часткай.

Што ж, паспрабуем разабрацца ў гэтым больш падрабязна.

Для пачатку, што ж такое рэмейк?

Наогул, рэмейк (альбо рымейк) — слова англійскае і ў перакладзе гучыць як “перапрацоўка”. Ёсць рэмейкі кінематаграфічныя, драматычныя (спектаклі), музычныя, але нас у першую чаргу цікавяць літаратурныя.

Вось урывак з адной энцыклапедыі (цытую даслоўна):

*“Рэмейк — аднаўленая версія старога фільма, песні, а таксама літаратурнага твора, у аснову якога пакладзены добра вядомы тэкст. Р. не цытуе і не парадыруе першакрыніцу, а напаўняе яе новым, актуальным зместам, але з аглядкай на арыгінал. Р. можа паўтараць сюжэтныя хады арыгінала, тыпы характараў, але паказвае іх у новых гістарычных, сацыяльна-палітычных умовах. Прыкладамі Р. у сучаснай літаратуры з’яўляецца, да прыкладу, аповесць В.Чайкоўскай “Новае пад сонцам” (Р. рамана Тургенева “Бацькі і дзеці”)”.*

Што ж, зыходзячы з гэтага тлумачэння, “Новыя палескія рабінзоны” — тыповы рэмейк на вядомую аповесць Янкі Маўра. Ды аўтар і сам не толькі не адмаўляе, але і ўсяляк падкрэслівае гэтую сувязь…

Іншая справа, ці можна лічыць рэмейк самастойным літаратурным творам.

І ў чым тады асноўнае адрозненне рэмейка ад банальнага плагіяту?

Зноў цытую энцыклапедыю:

*“Плагіят літаратурны — наўмыснае прысваенне аўтарства на чужы літаратурны твор у цэлым альбо часткова”.*

Гэтае апошняе слова “*часткова*” надае панаццю пра літаратурны плагіят даволі туманны характар. Што значыць “часткова”? І якая частка твора павінна быць прысвоена, каб гэта лічылася плагіятам? Палова твора? Трэць? Асобныя старонкі твора ці нават асобныя фразы з яго?

Возьмем, да прыкладу, вядомыя творы дзіцячай літаратуры савецкага перыяду: “Залаты ключык” Аляксея Талстога і “Чараўнік Ізумруднага горада” Аляксандра Волкава. Вядома, што і Талстой, і Волкаў узялі чужыя творы і, крыху іх перарабіўшы, выпусцілі пад сваімі прозвішчамі.

Што гэта: рэмейк, плагіят? Ці нешта трэцяе, чаму яшчэ нават назвы не прыдумалі?

А тая ж “Таня Гротэр” з сучаснай расійскай літаратуры? Што гэта, як не плагіят твораў Джоан Роўлінг?!

Але ж многія чытачы так не лічаць. Асабліва ў Расіі…

Дарэчы, у 2009 годзе нашчадкі малавядомага брытанскага пісьменніка Эдрыяна Джэйкабса абвінавацілі ўжо самую Джоан Роўлінг у плагіяце, заявіўшы, што значная частка “Кубка агня” проста спісана з кнігі Джэйкабса “Чараўнік Вілі”. Нават нейкае судовае расследаванне ў Англіі праводзілася, і на ім Роўлінг была поўнасцю апраўдана…

Але ж, як кажуць, асадак застаўся…

У сваім артыкуле Ягор Конеў таксама згадвае Джоан Роўлінг (а разам з ёй Барыса Акуніна і беларускіх пісьменнікаў Андрэя Федарэнку і Людмілу Рублеўскую) як прыклад напісання імі… хай сабе і не рэмейкаў, але, па меркаванні Конева, чагосьці вельмі падобнага. Бо кожны з іх “не вышуквае новыя хады, але камбінуе ўжо распрацаваныя”. Ды і як тут знайсці штосьці новае, калі (зноў цытую Конева) “у сусветнай літаратуры здаўна выпрацавалася каля трох дзясяткаў сюжэтаў — а твораў пішацца куды больш”?

Але ж творы з падобнымі сюжэтамі — гэта яшчэ не рэмейк. На сюжэт пра тое, як замужняя жанчына пакахала іншага мужчыну, напісаны тысячы твораў: і да “Танны Карэніной”, і пасля яе. Гэтыя творы розныя і па памерах, і па сваёй мастацкай вартасці, але нават самы слабы і няўдалы з іх ніяк нельга аднесці да катэгорыі рэмейка.

Гэта самастойныя творы дадзеных канкрэтных аўтараў. А ці можна назваць самастойным творам рэмейк?

З пункта гледжання Ягора Конева — без усялякага сумнення. Не бяда, што змяніўся аўтар, галоўнае, “што філасофскі падмурак класічнага твора захаваўся”.

Падмурак падмуркам… а вось далейшыя разважанні аўтара артыкула я, дальбог, не зразумеў. “Недарэмнай была праца над рэмейкам аповесці, якую, — піша Конеў, — восемдзесят гадоў таму не называлі рэмейкам толькі з той прычыны, што слоўца такога яшчэ не ведалі крытыкі”.

Выходзіць, аповесць Маўра — таксама рэмейк! Вось толькі на які твор? Няўжо на “Рабінзона Круза” Даніэля Дэфо?

Але ж адзінае, што аб’ядноўвае гэтыя два творы, — слова “рабінзон” у назвах абодвух. Які ж гэта тады рэмейк?

І “Дзікае паляванне” Караткевіча ніякім чынам нельга аднесці да рэмейка. Ёсць у ім штосьці ад твора Конан-Дойла, але гэта нават не літаратурнае запазычанне сюжэта. А калі і запазычанне, то вельмі і вельмі аўтарам перапрацаванае.

З артыкула Ягора Конева выяўляецца, што рэмейк “Палескіх рабінзонаў” першапачаткова з’явіўся ў яго як сцэнарый да фільма па матывах твора Маўра і толькі пасля няўдачы на “Беларусьфільме” быў перапрацаваны аўтарам у аповесць. Напэўна, з гэтай прычыны аргументы на карысць рэмейкаў гучаць у Конева не вельмі пераканаўча. І “павагу да прыроды і любоў да Бацькаўшчыны” не абавязкова выхоўваць на рэмейках. Арыгінальныя аўтарскія творы таксама для гэтага цалкам падыходзяць (у тым ліку і творы класікаў).

І чамусьці не верыцца, што Ягор Конеў будзе працягваць эксперыменты з напісаннем новых рэмейкаў. Знойдуцца ў яго ўласныя ідэі і сюжэты для напісання літаратурных твораў. Самастойных і арыгінальных.

Дарэчы, пра рэмейкі ў кінематографе (у артыкуле Ягора Конева пра гэта гаворыцца даволі шмат).

Па-першае, я цалкам падтрымліваю стварэнне рэмейкаў на старыя, чорна-белыя яшчэ фільмы. Тэхніка кіно зрабіла вялізны крок наперад, і цікавыя сюжэты старых фільмаў чаму б не паўтарыць у каляровым варыянце. Ды яшчэ і з выкарыстаннем найноўшых камп’ютарных тэхналогій.

Па-другое, існуе істотная розніца рэмейка кінематаграфічнага і рэмейка літаратурнага твора. Бо ў першым выпадку проста здымаецца новы фільм *паводле ранейшага аўтара*, а ў другім — *змяняецца імя аўтара*. І калі рэмейкі кінематаграфічныя маюць права на існаванне, то з літаратурнымі рэмейкамі справа куды як больш складаная…

Бо чаму б тады не стварыць рэмейк на “Вайну і мір” Льва Талстога? Перанесці дзеянне, скажам, на XX стагоддзе, замяніўшы Айчынную вайну 1812 года Айчыннай вайной 1941 — 1945 гг. Андрэй Балконскі стане генералам Чырвонай Арміі, П’ер — якім-небудзь буйным партыйным функцыянерам…

А калі стагоддзе зрабіць ужо нашым, дваццаць першым, то Андрэя можна выставіць, да прыкладу, былым воінам-інтэрнацыяналістам і камандзірам атрада амонаўцаў. А П’ер тады — пазашлюбны сын расійскага алігарха, якому паводле завяшчання адышлі бацькавы мільёны…

Іншае пытанне — ці трэба гэта рабіць?

Можа, лепш проста сесці і яшчэ раз перачытаць бессмяротныя раманы Талстога, Булгакава — каго заўгодна з класікаў. Проста каб упэўніцца: лепш ужо не зробіш.

Глеб НІЧЫПАРЭНКА

# Любоў да чытання ад бацькі




**Прыгожая, з густам аформленая кніга “Жыццё на шляху праўды” адзначана на Нацыянальным конкурсе “Мастацтва кнігі-2010” дыпломам ІІ ступені ў намінацыі “За ўклад у захаванне духоўнай спадчыны”. Выданне пабачыла свет у Выдавецтве Беларускага Экзархата. Хоць Беларуская Праваслаўная Царква апошнім часам і надае вялікую ўвагу кнігавыдавецкай дзейнасці, падобных выданняў дагэтуль не з’яўлялася: упершыню так надзіва поўна і ўсебакова прасочваецца жыццёвы шлях і архіпастарская дзейнасць Высокапраасвяшчэннага Філарэта, Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі, пра што гаворыць і падзагаловак гэтай кнігі — “Мітрапаліт Філарэт з роду Вахрамеевых”.**

Назва кнігі — “Жыццё на шляху праўды”, як можна даведацца з эпіграфа да трэцяй часткі яе, узята невыпадкова. Імкненнем да праўды — у самым шырокім разуменні — успрымаецца жыццё і пастырская дзейнасць і Мітрапаліта Філарэта. Між іншым, гэтаксама годна і сумленна жылі яго продкі.

Пра паходжанне роду Вахрамеевых, пра найбольш яркіх прадстаўнікоў яго, а таксама пра бацькоў Уладыкі можна даведацца з першай часткі выдання — “Гісторыя роду Вахрамеевых і сямейная хроніка Варфаламея Аляксандравіча Вахрамеева”. У гэтым раздзеле прадстаўлена сямейная хроніка, складзеная ў свой час бацькам Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Варфаламеем Вахрамеевым.

Каштоўнасць гэтых запісаў у тым, што ўпершыню (і гэта нельга не вітаць) у шырокі ўжытак уводзяцца шматлікія звесткі, якія не толькі дазваляюць даведацца пра сям’ю Яго Праасвяшчэнства, але і адкрыюць шлях “новым исследованиям истории рода известных ярославских купцов и дворян Вахромеевых, его ближнего и дальнего окружения”.

Калі першая частка багатая найперш сваёй фактаграфіяй, то другая — «Владыка Филарет: “...Как в любой патриархальной семье”» — прываблівае эмацыянальнай напоўненасцю, адкрытасцю і непасрэднасцю душэўнай і духоўнай споведзі Патрыяршага Экзарха. Уладыка вяртаецца ў гады свайго маленства і юнацтва, расказвае пра тое, як паступова пераканаўся, што царкоўны шлях — адзіны шлях, які вядзе да праўды і ісціны. З гэтай часткі можна даведацца і пра тое, як пачыналася яго царкоўная дзейнасць, кім былі яго настаўнікі і дарадцы на шляху служэння Богу.

Аповед-споведзь яго Праасвяшчэнства пачынаецца з першых дзён Вялікай Айчыннай вайны. Чаму? Уладыка сам тлумачыць гэта: “Наверное, потому, что для маленького мальчика начало войны было потрясением и в памяти осталось на всю жизнь.

З развагі-успамінаў асабліва цікавыя тыя месцы, дзе расказваецца, чым жыла сям’я Вахрамеевых — сям’я высокаадукаваная, інтэлігентная, дзе, можна сказаць, панаваў культ прыгожага, узвышанага… Уладаром думак юнага Кірылы была музыка: “Атмосфера музыки как бы окутывала меня от отроческих лет, если не от младенческих”. Але не толькі яна, у чым Уладыка і прызнаецца: “С детства, отрочества у меня была такая “жилка” — собирание книг. Действительно, их я именно собирал: хоть они в те годы продавались относительно недорого, приобрести книгу для меня было не просто, и такая покупка была событием — потому что бюджет нашей семьи был очень напряженным. К тому же еще и марками увлекался… Увлечение книгами у меня от отца, он любил книгу. Своими руками я соорудил для них полку, по копейке копил денежку. И если хотел потратить деньги на посредственное издание, отец меня останавливал словами: “Лучше мы купим классику…” З тагу часу захапленне кнігай у яго не паменшала: “… И по сей день иногда хочется открыть Пушкина — наугад — и почитать. Это бывает просто необходимо”. У іншым месцы знаходзім такое сведчанне: “…Тогда многие семьи питали свой интеллект, разум детей классикой. И у нас в семье всегда обсуждали то очередной спектакль в Большом театре, то очередную программу в Большом зале консерватории”...

На шчасце, было яшчэ і іншае, таксама вельмі важнае — тое, што асабліва адчувальным стала крыху пазней і прадвызначыла далейшы жыццёвы шлях будучага Філарэта: “Для нас огромной примиряющей духовной силой был храм, который мы все посещали. Иногда вместе, иногда “по отдельности” — ведь взрослые были… А я ходил в храм с крестной матерью или с моей родительницей, а иногда мы молились за церковным богослужением все вместе, особенно в праздники”. Істотнае і такое сведчанне: “...Моя семья была домашней церковью”. Вера ў Бога і прывяла ў 1953 годзе Кірыла Вахрамеева ў Маскоўскую духоўную семінарыю.

Трэцяя, заключная частка кнігі — “Прадстаяцель Беларускай Праваслаўнай Царквы” — расповед пра служэнне Яго Высокапраасвяшчэнства на розных нівах архіпастырскай дзейнасці. У сюжэтную канву арганічна ўваходзяць і развагі самога Уладыкі, які ўзнаўляе пэўныя падзеі царкоўнага жыцця, арганізатарам і ўдзельнікам якіх сам Гасподзь благаславіў яго быць. Гэтыя развагі цікавыя тым, што тычацца не толькі праваслаўнага жыцця, а яшчэ раз сведчаць пра шырыню кругагляду, пра клопатнае стаўленне Мітрапаліта Філарэта да ўсяго, што адбываецца на нашай зямлі.

Кніга “Жыццё на шляху праўды” падрыхтавана прэс-службай Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі (складальнік Андрэй Петрашкевіч). Для кожнага, хто пазнаёміцца з гэтым выданнем, яно працягнецца, бо лішні раз з’явіцца магчымасць упэўніцца, наколькі шлях Гасподні — шлях праведны, а той, хто ўсё сваё жыццё прысвячае служэнню Богу, заслугоўвае найвялікшай павагі і пашаны. А яшчэ кніга пра Уладыку так і просіцца ў серыю выдавецтва “Мастацкая літаратура” “Жыццё знакамітых людзей Беларусі”. Зразумела, у значна дапоўненым выглядзе. А то і ў серыю “Нашы героі”, бо Уладыка Філарэт, як вядома, уганараваны званнем Героя Беларусі.

У № 13 штотыднёвіка “ЛіМ” ад 1 красавіка 2011 года па тэхнічных прычынах артыкулу “Яго «Каласавіны»” памылкова было прыпісана аўтарства Ксеніі Кушнаровай. Сапраўдны аўтар матэрыялу — **Алена Манкевіч**, кандыдат філалагічных навук, якой рэдакцыя прыносіць свае прабачэнні за дапушчаныя недагляд.

Валянціна ЛОКУН,
кандыдат філалагічных навук

# Час — кнігі — гісторыя

**Нядаўна Брэсцкая абласная бібліятэка імя М. Горкага адзначыла свой 70-гадовы юбілей. Да гэтай падзеі было прымеркавана выданне двух бібліяграфічных паказальнікаў: “Книги и периодические издания до 1941 года: из фонда Брестской областной библиотеки им. М. Горького” — укладальнікі В. А. Гарбачэўская, А. І. Жук — і “Книги войны: библиографические указатели” — укладальнікі В. А. Гарбачэўская, Т. А. Налобіна, А. І. Жук, Т. М. Міхальчук. Кнігі ўбачылі свет у выдавецтве “Полиграфика” (Брэст), накладам 250 асобнікаў.**

Ва ўступным слове падаецца сціслая гісторыя бібліятэкі. Яе фонды пачалі фарміравацца напрыканцы 40-х — пачатку 50-х гадоў. Аснова была закладзена Дзяржфондам, найбольш цікавыя і рэдкія кнігі “вылоўліваліся” ў букіністычных крамах. Чытачы таксама не стаялі ўбаку ад гэтай справы, — дарэчы, фонд рэдкіх кніг і сёння папаўняецца галоўным чынам дзякуючы ім.

Ідэя стварэння паказальнікаў узнікла даўно. Першай ластаўкай гэтага праекта можна лічыць бібліяграфічны спіс кніг і перыядычных выданняў “Минувшее меня объемлет живо…” , які з’явіўся ў 2000 годзе і быў прымеркаваны да 60-годдзя бібліятэкі.

Усе кнігі ў паказальніках пададзены de vizu — з абавязковым праглядам выданняў. Такім чынам, укладальнікі зборнікаў змаглі атрымаць і перадаць максімум інфармацыі пра кожнае выданне. Да ўсяго, бібліяграфічныя апісанні выконваліся ў адпаведнасці з існуючымі новымі правіламі. Цяжкасць была ў тым, што апісанні на шэраг выданняў не было з чым параўнаць, бо яны адсутнічалі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі і ў іншых буйных бібліятэках краіны. Не шмат дапамагалі і бібліяграфічныя запісы Імідж-каталога — яны таксама не мелі дастатковых звестак пра тое ці іншае выданне. Былі выпадкі, што ў кнізе адсутнічалі асобныя элементы бібліяграфічнага апісання, тады адно і тое ж выданне даводзілася гартаць па некалькі разоў, каб сфармуляваць яго назву, удакладніць дату, месца і імёны выдаўцоў. Ды і сам час разбуральна падзейнічаў на шматлікія выданні, ідэнтыфікаваць іх даводзілася непасрэдна па тэксце, аднаўляліся тытульныя лісты, асобныя фрагменты кніг.

Выпуск паказальніка “Книги и периодические издания до 1941 года” планаваўся да міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі “Берасцейскія кнігазборы: праблемы і перспектывы даследавання”, якая праводзілася ў кастрычніку 2008 года ў Брэсце. Толькі ж праца па яго складанні аказалася настолькі аб’ёмнай, што расцягнулася на доўгія два гады.

Увесь матэрыял паказальніка складаецца з пяці раздзелаў: “Издания конца XVIII — XIX веков”; “Издания начала XX века (до 1918



года)”; “Издания периода 1918 — 1940 годов”; “Издания художественной литературы”; “Книги на иностранных языках” (немецком, польском, украинском). Асобна ў раздзелах пададзены энцыклапедыі, слоўнікі, даведнікі, перыядычныя выданні. Другі раздзел мае яшчэ і падраздзел “Листовки”. Матэрыял змешчаны ў храналагічнай паслядоўнасці, па перыядах. Ёсць імянны паказальнік і паказальнік назваў кніг.

Паказальнік змяшчае шмат цікавай інфармацыі пра кніжныя фонды бібліятэкі. Самая старадаўняя кніга датуецца 1774 годам. Гэта “Сибирская история съ самаго открытія Сибири до завоеванія сей земли россійскимъ оружіемъ, сочиненная на Немецкомъ языке и въ собраніи Академическомъ читанная членомъ Санктпетербургской Академіи наукъ и Профессоромъ древностей и исторіи, такъ же членомъ исторического Гетлинского собранія Іоганномъ Ебергардомъ Фишеромъ”. Кніга перакладзена з нямецкай мовы і выдадзена Імператарскай Акадэміяй Навук. Выданне было аднесена да разраду рэдкіх яшчэ Ю. Бітаўтам у ягонай працы “Редкие русские книги и летучие издания XVIII века” (1905). Трэба заўважыць, што ўсе выданні адзначанага перыяду маюць статус **фактычна рэдкага выдання**. Яны захаваліся і існуюць у малой колькасці экзэмпляраў. Фактычна рэдкімі ў нас у Беларусі з’яўляюцца кнігі, што былі выдадзены ў XVIII — на пачатку XIX ст.

Характэрна і тое, што ў фондах таго перыяду дамінавалі кнігі на рускай мове. Яны былі выдадзены рознымі выдавецкімі таварыствамі, якія ўзначальвалі вядомыя па тым часе кнігавыдаўцы: М. О. Вольф, А. Ф. Маркс, І. Д. Сыцін і інш.

Як вядома, у якасці дадатку да часопіса “Ніва” выходзілі поўныя зборы твораў І. Буніна, А. Герцэна, М. Гарэцкага, Р. Данілеўскага, Ф. Дастаеўскага і інш. На жаль, не ўсе тамы з гэтых збораў патрапілі ў фонд бібліятэкі. Разам з тым, там шырока прадстаўлены выданні таварыства “Общественная польза” (ўзнікла ў Пецярбургу ў 1860 годзе): “Белоруссия и Литва: исторические судьбы Северо-Западного края” (выдадзена пры Міністэрстве ўнутраных спраў П. М. Бацюшкавым у 1890 годзе); ілюстраванае выданне А. Э. Брэма “Жизнь животных” у 10 тамах (1892 — 1896) і іншыя. Вядомая серыя “ЖЗЛ”, распачатая яшчэ ў 1899 годзе Ф. Ф. Паўленкавым, прадстаўлена біяграфіямі Кювье і Лавуазье. Ёсць шэраг кніг са знакамітай серыі “Памятники мировой литературы” (заснавальнікі М. В і С. В. Сабашнікавы), а таксама некаторыя энцыклапедычныя выданні выдавецтва “Просвещение” (заснавана народнікамі ў 1896 годзе): “Жизнь животных” А. Брэма, “Человек” Л. Ранке. Папулярная серыя “Вся природа” — выданні В. Мейера, В. Ранке. Ёсць і рарытэтныя кнігі Сінадальнай друкарні: Библия. — Спб. (1875); Евангелие от Матвея, Марка, Луки и Иоанна. — Спб. (1898) і г.д.

Паказальнік “Книги войны” пабудаваны галоўным чынам на аснове дакументнага фонду бібліятэкі і складаецца з двух раздзелаў: “Издания 1941 — 1945 гг. в фонде Брестской областной библиотеки им. М. Горького” і “Борьба за свободу: Соединенные Штаты во Второй мировой войне” (Fighting for Freedom: The United States in World War II). У асобныя падраздзелы вылучаны перыядычныя выданні, лістоўкі і кнігі замежных выдавецтваў.

Вайна ўнесла свае карэктывы ў выдавецкую справу. На першы план, натуральна, вылучаецца грамадска-палітычная літаратура. У 1942 годзе была распачата серыя кніг, прысвечаных рускім палкаводцам: К. Мініну і Д. Пажарскаму, В. Чапаеву, П. Баграціёну і г.д. Але па-за ўвагай выдаўцоў не застаюцца і кнігі пра жыццё і дзейнасць знакамітых дзеячаў літаратуры і мастацтва: В. Бялінскага, А. Пушкіна, П. Чайкоўскага, І. Рэпіна. Друкуюцца працы вядомых рускіх і замежных дзеячаў навукі: І. Сечанава, І. Паўлава, М. Пірагова, Ч. Дарвіна і інш. Не перапыняецца і выданне твораў пісьменнікаў-класікаў: Я. Коласа, М. Танка, А. Пушкіна, М. Горкага.

Але па-сапраўднаму ўнікальнай з’яўляецца калекцыя кніг на англійскай мове пра Другую сусветную вайну. Яна была падорана бібліятэцы ў 1990 годзе Пасольствам ЗША. У калекцыі налічваецца больш як 600 друкаваных дакументаў, арыгіналаў і перакладаў, выдадзеных ці перавыдадзеных у Вялікабрытаніі і ЗША з 1948-га па 1990 год. Гэта — навуковыя, навукова-папулярныя, дакументальныя, мастацкія, дакументальна-мастацкія, бібліяграфічныя выданні, даведнікі, а таксама фотаальбомы і атласы. Гэта — мемуары, біяграфіі і аўтабіяграфіі ўдзельнікаў ваенных падзей, зборнікі дакументаў і афіцыйных паведамленняў, дзённікавыя запісы, пісьмы і г.д. Адметнасць гэтых матэрыялаў у тым, што яны выяўляюць перш за ўсё “іхняе”, амерыканскае, стаўленне да вайны, ды і самі адлюстраваныя там ваенныя дзеянні таксама “іхнія”: высадка дэсанта ў Нармандыі, падзеі на Ціхаакіянскім флоце, бамбардзіроўка Перл-Харбара і г.д. Не меншую цікавасць уяўляюць і выданні, што тычацца краін Еўропы і Азіі, а таксама ўдзельнікаў вайны. Зацікавяць чытача і матэрыялы, якія адлюстроўваюць сітуацыю ў самой нацысцкай Германіі ваенных гадоў, знешнюю і ўнутраную палітыку Трэцяга Рэйха. Пададзена таксама гісторыя Савецкай арміі да 1988 года, матэрыялы Генштаба, закранаюцца і пытанні партызанскага руху на акупіраванай тэрыторыі. Усё гэта чакае свайго даследчыка і ўдумлівага чытача.

Супрацоўнікі бібліятэкі прарабілі вялікую працу, яны стварылі поўны рэпертуар, выявілі, сабралі і сістэматызавалі звесткі пра “старыя”, рарытэтныя выданні і “новыя” кнігі і часопісы, якія былі выдадзены да 1941 года і падчас вайны, далі максімальна дакладнае і поўнае іх апісанне. Чытачу прадстаўлена сапраўдная панарама політэматычнага фонду галоўнай бібліятэкі Брэста і Брэсцкай вобласці.

Але заспакойвацца на гэтым не трэба. Серыя павінна мець свой працяг. Яе чакаюць бібліятэкары, супрацоўнікі музеяў, навукоўцы, настаўнікі, усе, хто цікавіцца кнігай.

Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ

# Як спавядаюцца барды

**Мала хто з сучасных пісьменнікаў працуе ў жанры гарадскога раманса. Але ж такія людзі ёсць. Кніга Юрася Нератка “Споведзь струны. Вершы з прадмовамі”, якая выйшла на пачатку гэтага года ў выдавецтве А. Вараксіна, — яркі прыклад літаратуры гарадскога раманса.**

Назоў кнізе даў аднайменны верш, які з’яўляецца яшчэ і песняю. Дарэчы, блізу паловы рытмічна-меладыйных малюнкаў, пад якія спяваюцца вершы, — кавер-версіі вядомых кампазіцый савецкага часу. Але ж гэта не робіць іх другаснымі ці менш цікавымі. Старая, а часта — паўзабытая мелодыя нібы перараджаецца і па-новаму пераасэнсоўваецца, бо творы да таго ўдала ўпісваюцца ў музычны памер, што толькі вершамі яны заставацца не могуць — патрэбны выхад менавіта ў выглядзе песні. Нездарма аўтар выпусціў музычную кружэлку ў дадатак да кніжкі.

Кніга складаецца з двух раздзелаў — першы — непасрэдна “Споведзь струны” — вершы з прадмовамі, як і абяцана ў назве, а другая частка — вершы з папярэдняга зборніка “Фотаальбом”.

Пра аўтара можна сказаць словамі з прадмовы да аднаго ягонага верша: ”*Паэт не абавязкова павінен пісаць вершы. Самае галоўнае, ён павінен паэтычна ўспрымаць рэчаіснасць. Ці, па меншай меры, перадаваць рэчаіснасць паэтычным словам*”. Менавіта так і адбываецца. Вершы размешчаныя такім чынам, што іронія змяняецца сур’ёзнасцю і наадварот. У зборніку вылучаюцца некалькі традыцыйных тэм: канечне ж, тэма паэзіі, тэма кахання (куды без яго!), тэма жыцця і смерці (а як жа, варта задумацца й над гэтым). Але пра ўсё па чарзе.

Вершы з зацемкамі, вершы з каментарыямі ў нас ужо былі, а вось каб з прадмовамі — здаецца, упершыню. Ва ўступным слове да зборніка аўтар тлумачыць, чаму абраў менавіта такую форму: “*Далёка не заўсёды думка празрыстая ці знаходзіцца на паверхні. А аўтару, што б ні казалі, хочацца быць не толькі пачутым, але і зразуметым*”. Безумоўна, вершы могуць разумець не ўсе, але ж чалавек, які цікавіцца паэзіяй, цудоўна зразумее думку аўтара без прадмоў, — сказаў бы чытач. Але ж тут не ўсё так проста. Прадмовы выконваюць у кнізе ролю вектараў настрою — наладжваюць струны душы чытача менавіта на такое прачытанне твора, якое жадаў падаць аўтар. Прадмова складае адзінае цэлае з вершам і без яго не самадастатковая:

“*Нашто пісаць вершы, калі не толькі чалавечая цывілізацыя крохкая, але і Зямля не вечная? Адказу няма і не будзе. А ці варта задаваць сабе такое пытанне і шукаць на яго адказ? І ўсё ж шукаем…*

**Пачатак зімы**

*Цьмее сонца, заціхлі грамы.*
*Лапік родны вятры падмарозілі.*
*Снег — пачатак мільярднай зімы,*
*Заканчэнне мільярднай восені*”.

Хаця прадмова ў шэрагу выпадкаў залішняя і з’яўляецца проста дадатковай нагрузкай. Да прыкладу, такая:

“*Верш такога самага кшталту, як і папярэдні, бо надвор’е спрыяе. Тая ж мажорная наканаванасць*”.

Але ж збольшага прадмовы дарэчныя і вельмі цікавыя: сустракаюцца тут і іранічныя, і філасафічныя, і лірычныя. Часам прадмовы не саступаюць вершам па сваёй арыгінальнасці.

Лірычны герой, які шмат у чым супадае з асобай аўтара, уяўляецца вясёлым, жыццярадасным чалавекам — філосафам (бо не ўсе яны змрочныя і зануранья), які з ухмылкай паглядае на тое, што адбываецца навокал. Вобраз хітраватага дзядзькі так палюбіўся аўтару, што акрамя “Дзядзькі-філосафа” ў яго з’явіліся яшчэ некалькі балад пра тое, як дзядзька кінуў піць і нават як дзядзька памёр:

*Торгне мацi малога гарэзу:*
*“Забрытай свой бязглузды гумор!*
*Наламай лепш духмянага бэзу…*
*Трэба плакаць, бо дзядзька памёр”.*

Такое часам здараецца з усімі (у сэнсе, усе паміраюць), але верш не пра гэта, а пра тое, як усе ставяцца да смерці дзядзькі:

*Дзед стагодні прымесціцца зрання,*
*Каб на прызбе смаліць “Беламор”*
*І ківаць у адказ на пытанне:*
*“Чулі, дзеду? То ж дзядзька памёр!”*

Спроба дакапацца да сутнасці няпростай чалавечай натуры праз розныя сітуацыі, часта ўзятыя з жыцця, балансаванне паміж іранічнасцю і трагедыйнасцю робяць паэзію Юрася цікавай, адметнай і ў нечым тэатральнай.

Тэма паэзіі з’яўляецца асноўнай у кніжцы. Пра гэта сведчаць і назвы вершаў — “Творцу”, “Будынак-верш”, “Апошні паэт”, “Чорная муза”, “Паэт і муза”. Трохі сцёбныя опусы “Літпрацэс” і “Рэдактарскае слова да аўтара” даюць самую поўную карціну працэсу напісання і выдання верша. Ёсць нават нерэалізаваныя вершы, якія аўтар абагульніў пад назвай “Ненапісанае”.

У адным з вершаў аўтар піша:

*І як бы не прыспешваў час-гадзіннік,*
*Я мітуснёй жыццёвай не грашу.*
*Не напісаў пакуль што верш адзіны,*
*Таму яшчэ, прабачце, і пішу.*

Няхай аўтар і надалей піша і зацікаўлівае нас вершамі — аптымістычнымі і жыццесцвярджальнымі. Кніжка несумненна спадабаецца тым, да каго трапіць.



Валеры Максімовіч

## З верай у чалавечнасць

А.А.Лазарэвічу

*Сакавік пагодаю адліжнай*
*Зноў збудзіў зямлі гаючы сок.*
*І не трэба мудрасці той кніжнай,*
*Каб спасцігнуць нам жыцця урок;*

*Каб заўважыць там, на донцы сэрца,*
*Залеж чалавечай дабрыні,*
*Што лязом не выкрамсаць, не сцерці,*
*Не падрэзаць згубна карані;*

*І за непрагляднай павалокай,*
*Што са шляху сіліцца нас збіць,*
*Каб убачыць белыя абдокі*
*І адчуць у сэрцы прагу жыць;*

*Не схлусіць сабе, не падмануцца,*
*І сумлення пядзі не ўступіць, —*
*Да сапраўднай існасці імкнуцца*
*І заўжды самім сабою быць.*

*Вось чаму пад небам векавечным,*
*Ў чарадзе бясконцай тлумных дзей,*
*Галасую я за чалавечнасць,*
*Што за ўсё на свеце даражэй.*

## Міраславу Янковяку — майму польскаму сябру

*Ты прыгадай, як шалясціць*
*Лістота восені барвянай*
*І дождж назойлівы імжыць*
*У лістападаўскай Варшаве.*

*…Гатэль. Чырвонае віно.*
*Мы, падвяселеныя злёгку,*
*За фешэнебельным сталом*
*Вядзём размову нетаропка.*

*І тчэцца шчырых слоў сувой —*
*Ім тут не цесна і не вузка:*
*Зусім нязмушана са мной*
*Гаворыш ты па-беларуску.*

*Хоць я і госць — ды ўсё ж чужым*
*Сябе ніяк не пачуваю.*
*І ты здаешся мне сваім,*
*З да болю роднага мне краю.*

*І доўга — як скрозь сон вякоў —*
*Цякла душэўная размова*
*Двух закадычных дружбакоў, —*
*І нас з табой яднала слова.*

*Таму і маю я спадзеў,*
*І ў тым адкрыта прызнаюся:*
*Не проста сябра я сустрэў —*
*Сустрэў я брата-беларуса.*

## Перадсвітальнае

В.Мясніковічу

*Ночы сутонне схлыне —*
*Зазіхаціць світанак.*
*Вахты чарговай тыдзень*
*Скончыцца нечакана.*

*Зноўку ў цішы світальнай*
*Мроівам роднай песні*
*Перад вачыма стане*
*Вёсачка на Палессі.*

*Любы пакліча бераг,*
*Чыстай бруі крыніца, —*
*Ўспыхне жаданне верай*
*Светлаю прычасціцца.*

*Там, ля святых вытокаў,*
*Каля свайго парога*
*Зможаш адчуць глыбока*
*Подых жыцця жывога.*

*Здолееш даастатку*
*Скінуць цяжкую стому…*
*Вось чаму я, мой братка,*
*Птушкай лячу дадому!*

## Постскрыптум

Л.А.Ламека

*Час спякотны,*
*час паўдзённы схлынуў —*
*І крыху на сэрцы адлягло.*
*На сувой гадоў свой позірк кіну:*
*А былога — як і не было.*

*І згадаў бы тонкі ласкуточак*
*Залатога шчасця, ды ўспамін*
*Павалокай шэрай засціць вочы,*
*Слёзіць іх, бы гаркатлівы дым.*

*І няўзнак паўстане, бы наяве,*
*Тое, што я часта бачу ў сне:*
*Воўча зграя зганьбіць і знясславіць*
*З усіх сіл спрабуе зноў мяне.*

*Кідае шалёна бруд і смецце*
*І наскрозь пранізвае выццём,*
*Маючы адзін намер на мэце —*
*Паквітацца ўраз з самім жыццём.*

*Не кляну сваю зямную долю:*
*Гэты свет —*
*як ёсць — люблю здавён.*
*Нават калі б меў дазвол — ніколі*
*Не прыму ваўчыны той закон.*

*Цёмнай сіле век я не скаруся*
*І ў хаўрус злачынны не ўступлю, —*
*Кожнай зёлцы ў полі — пакланюся,*
*Кожны міг пражыты — ухвалю.*

*І перад расстайнаю дарогай*
*Папрасіў сардэчна, калі б змог:*
*— Дай, жыццё,*
*мне шчасцейка зямнога*
*Паспытаць яшчэ хаця б разок.*



Фота Кастуся Дробава



Алег Салтук

## Вясновае

*Зіме з вясной гуляць ужо не шмат:*
*У полі ноч ад ручаёў шалее,*
*Акно, як чорны шахматны квадрат,*
*Які намаляваў даўно Малевіч.*

*Гляджу ў яго — нічога не відно.*
*А ручаі бунтуюцца з пагрозай,*
*І ў нежывое ўчора шчэ акно*
*Жывой галінкай стукае бяроза.*

## Паводка

Ты полюби и жалей…
М. Рубцоў

*"Ты палюбі і шкадуй", —*
*Сказана ціха да крыку…*
*Гладзяць рачную ваду*
*Белыя грозныя крыгі.*

*Выйшла вясна з берагоў:*
*Сінь над Сафійскім саборам.*
*Нібы з далёкіх вякоў,*
*Зноў уздымаецца горад.*

*Шчодрае сонца наўкруг*
*Промні свае рассыпае.*
*Выбегла рэчка на луг —*
*Буйна паводка гуляе.*

*Любыя вочы твае*
*Свет і мяне абдымаюць.*
*Нехта ад шчасця пяе,*
*Нехта ад гора рыдае.*

*Падае прама ў ваду*
*І разбіваецца неба…*
*"Ты палюбі і шкадуй", —*
*Больш анічога не трэба.*

## Жытло шпаку

*Прымай, шпачок,*
*гатовае жытло —*
*Шпакоўню я табе рабіў з ахвотай,*
*Сяліся, каб мне радасна было*
*З табою разам за сваю работу.*

*Сяліся, шпак, сяброўку кліч сваю,*
*Якая ўжо на яблыні гавее.*
*А я на ганку ранкам пастаю,*
*Душой пад вашу песню пасвятлею.*

*А шпачаняты стануць на крыло,*
*Прыеду зноў сюды абавязкова.*
*Сяліцеся — талковае жытло*
*Я вам зрабіў, нарэшце, бесталковы.*

## Парастак

*З глыбокай цемры прама ў высь,*
*Блакітную і залатую,*
*Зялёны парастак шыбуе,*
*Якой — не ведаю, травы.*
*Не ведаю і заміраю*
*Прад гэтай смеласцю жыцця.*
*"Марозік шчэ, не змёрз хаця б", —*
*Трывожна ў думках паўтараю.*
*Ён вунь ад шэрані панік,*
*У тры пагібелі сагнуўся.*
*Ды сонца ўстала —*
*Страпянуўся,*
*За першым промнем пацягнуўся…*
*Не дасць у крыўду красавік.*

## Квітненне

*Нечакана зацвітуць сады,*
*Забуяе квецень маладая,*
*А ці будуць восенню плады,*
*Аніхто пакуль яшчэ не знае.*

*А сады вясёлыя стаяць,*
*Над садамі жаўранкі спяваюць.*
*І ніхто не хоча паміраць*
*На зямлі, ды ўсё-ткі паміраюць.*

*Ах, якая белая краса*
*Прама з ранку выбегла да ганку!*
*І звініць ад салаўёў раса*
*У ружовым без канца світанку.*

*Юныя вяртаюцца гады,*
*Высыхаюць колішнія слёзы…*
*Нечакана зацвітуць сады,*
*Нечакана вернуцца маразы.*

### Дэбют



Марына Маркевіч

**Марына Маркевіч нарадзілася 18 сакавіка 1989 года ў вёсачцы Чэрнічы Жыткавіцкага раёна. Скончыла сярэднюю агульнаадукацыйную школу № 2 у г. Тураў. Цяпер студэнтка 5-га курса філалагічнага факультэта Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. З вершамі ў "ЛіМе" выступае ўпершыню.**

* * *

*Неруш…*
*Цішыня лесу…*
*Сонечныя промні праз*
*вершаліны дрэў.*
*Пацеркі лісічак на*
*аксаміце моху.*
*Прыгажосць у першародным*
*выглядзе.*
*Неруш.*
*Не руш!*

## Хоку

*І толькі маці*
*Зразумее цябе лепш,*
*Чым хто-небудзь шчэ.*

## Рубаі

*На вуснах — усмешка блукае,*
*У марах — надзея лунае.*
*Усё пра цябе, мой мілы,*
*Адзіная думка займае…*

## Трыялет

*Расправіш крылы і — ляціш,*
*Сцяжынкі неба выбіраеш.*
*Туды, дзе вецер утрымаеш,*
*Расправіш крылы і — ляціш.*
*Сінь палявая, ранку ціш,*
*І сонца вуснамі кранаеш…*
*Расправіш крылы і — ляціш,*
*Сцяжынкі неба выбіраеш.*

## Таўтаграма

*Першым промнем прылашчылася.*
*Пацалункам пазначылася.*
*Песняю прыкінулася.*
*Прымхлівай постаццю побач пастаяла.*
*Пайшоў…*
*Пакінуў прыстанак.*
*Пераступіў парог паміж*
*Пакоем, прыволлем.*
*Празрыстае паветра…*
*Паляцець?*
*Прыйдзецца —*
*Патрэбен пастаянны прыпынак.*

## Вянок хоку

*Хачу быць тваім*
*лёсам, болем, каханнем.*
*Тваім збавеннем.*

*Колькі словаў мне*
*кінуў наўздагон — думаў:*
*пакрыўджуся? Не тая…*

*Прысак плавіць тло,*
*Баль ладзіць наваколле.*
*Пазмагаемся!*

*Падставіла да*
*неба далоні — колькі*
*зорак злавіла!*

*Душа сваволіць.*
*Беспадстаўныя папрокі*
*кідае. Годзе!*

*Не дарую. Зноў.*
*Сабе. За маўчанне. За*
*слёзы. За твой боль.*

*Падтрымліваць той*
*агмень, што спеліць нашы*
*душы. Заўсёды.*

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# Кніжны свет

*8 красавіка 2011г.*



*Клуб дзіцячых пісьменнікаў*

# Як цяжка паразумецца з юным чытачом…

Кастусь ЛАДУЦЬКА

**Адвечны клопат беларускай літаратуры — што і як пісаць для дзяцей. Часта тыражуюцца старыя ідэі ў новых кнігах. Часта творчасць, якую паэты і празаікі адрасуюць дзецям, застаецца ў ранейшых часінах, не носіць характар мастацкай актуальнасці. Малады паэт Арцём Кавалеўскі напісаў, а выдавецтва "Літаратура і Мастацтва" пусціла ў шырокі свет адмысловую вершаваную кнігу "Мой сябра анёлак". Яна і сталася нагодай для размовы з літаратарам.**

**— Арцём, ваша кніга пра анёлкаў, адрасаваная дзецям, выклікала шырокі чытацкі розгалас. Што ўсё ж гэта такое — дзіцячая кніга?**

— Безумоўна, "Мой сябра анёлак" — гэта перадусім дзіцячая кніга, і мне вельмі прыемна, што тыя дзеткі, якія пазнаёміліся з маімі вершамі (а гэта, перш за ўсё, дзеці маіх сяброў, знаёмых, мае пляменнікі) вельмі цёпла прынялі і вобраз Анёлка, і форму паэтычнага ўвасаблення гэтага вобраза. У прадмове да кнігі я звяртаюся да дзяцей: "Сябры, гэтая кніга для тых з вас, хто любіць узірацца ў наваколле і заўважаць у ім неймаверную сілу спагады і прыгажосці, хто з радасцю сустракае кожны новы дзень і з надзеяй на лепшае засынае ўвечары, хто верыць у сілу сапраўднага сяброўства і немажлівасць здрады блізкаму чалавеку… А яшчэ гэта кніга пра анёлкаў, пазнаёміўшыся з якімі, вы набудзеце верных сяброў і разам выправіцеся ў доўгае жыццёвае падарожжа, поўнае незвычайных прыгод і незабыўных здарэнняў. Мне ж застаецца пажадаць вам шчаслівай дарогі і… Анёла-ахоўніка за плячыма!" Вядома, я пісаў кнігу для дзяцей і можа нават *пра* дзяцей, бо вобразы Анёлкаў у кнізе набліжаны да дзіцячага непасрэднага ўспрымання свету, наваколля. Але, з іншага боку, мне б хацелася, каб дарослыя — бацькі, бабулі і дзядулі, якія будуць чытаць мае вершы сваім дзеткам, задумаліся пра такое важнае Боскае стварэнне, як Анёл, Анёл-ахоўнік. І таму ў прадмове я кажу, што вельмі шкада, калі мы — асабліва дарослыя — забываемся, што анёлкі жывуць і дзейнічаюць сярод нас. Ёсць адзін верш у кнізе, які, так бы мовіць, не зусім дзіцячы, бо ўздымае вечныя тэмы веры, надзеі і любові. Сакрат-анёлак (а менавіта такі вобраз анёлка-філосафа, анёлка-мысляра я выкарыстаў у гэтым вершы) разважае над сэнсам жыцця і ўрэшце прыходзіць да высновы: "Як цяжка зразумець парадак / Зямных жыцця першаасноў, / Не разгадаўшы слоў-загадак — / Надзея, вера і любоў". Але, канечне, большасць вершаў у кнізе мае вясёлае, забаўляльнае, часам жартаўлівае гучанне. Акрамя таго, кніга добра праілюстраваная мастаком Дар'яй Чарняўскай і густоўна выдадзеная. Так што, спадзяюся, чытанка не будзе нуднай для дзетак, а іх бацькам падорыць прыемныя хвіліны спаткання з чароўным светам дзяцінства.

**— Каб пісаць для дзяцей, кажуць, трэба самому заставацца дзіцем. Ваша ўласнае дзяцінства неяк праецыруецца на творчую працу?**

— Кажуць, усе паэты ў нечым застаюцца дзецьмі, бо каб пісаць сапраўдную паэзію, чалавек мусіць захаваць тое непасрэднае, адкрытае і тонкае ўспрыманне рэчаіснасці, якое ўласціва дзецям. Кніга "Мой сябра анёлак" — мая першая работа для дзяцей. Я ніколі не думаў быць дзіцячым паэтам. Мае першыя дзве кнігі адрасаваныя дарослай аўдыторыі, шмат вершаў мае мінорнае, часам песімістычнае гучанне. У другой кнізе, "Аддаленасць і адданасць", шмат верлібраў, вершаў з ускладненай паэтычнай структурай. Але, як ні дзіўна, менавіта мая "дарослая" паэзія сталася нагодай і штуршком для стварэння дзіцячай кнігі. Афармляючы кнігу "Аддаленасць і адданасць" і ў чарговы раз перачытваючы рукапіс, мая стрыечная сястра (мастак Дар'я Чарняўская) сказала, што ёй з усіх твораў найбольш падабаецца верш пра анёлка-baby-sitter'а (праз вобраз якога лірычны герой звяртаецца да дзяўчыны), і прапанавала напісаць цыкл вершаў пра анёлкаў, але… для дзетак. Спярша я вельмі здзівіўся: маўляў, ніколі не пісаў дзіцячых вершаў, — але паступова праца мяне захапіла. Напісаўшы некалькі твораў, я ўжо не мог спыніцца. Адчуваў вялікую адказнасць: для дзяцей трэба пісаць зразумела, празрыста, выкарыстоўваючы класічныя памеры і рыфму, не перанасычаючы тэкст мудрагелістай вычварнай метафорыкай. Ствараючы для дзяцей, паэт павінен "узняцца" да ўзроўню дзіцёнка, бо дзеці — тыя чытачы, якіх немагчыма падмануць і прымусіць любіць няўдалую, прэсную паэзію. Але калі вершы добрыя, то дзятва становіцца самай удзячнай, шчырай аўдыторыяй паэта.

**— Ці ёсць у вас любімая дзіцячая кніга?**

— У дзяцінстве мне шмат чыталі ўголас перад сном бацькі. Акрамя гэтага дома было шмат кружэлак з запісам інсцэніровак класічнай дзіцячай літаратуры. Мне вельмі падабаўся "Стары Хатабыч" Л. Лагіна (дарэчы, нашага земляка), "Нязнайка ў сонечным горадзе" М. Носава, казка "Чорная курыца, альбо Падземныя жыхары" А. Пагарэльскага, паэзія С. Маршака, казкі Андэрсэна і братоў Грым, з беларускай літаратуры я з задавальненнем прачытаў "Прыгоды бульбобаў" Паўла Місько. Наогул, цяжка вылучыць нейкую адну кнігу, якой я б аддаваў перавагу. Але магу з упэўненасцю сказаць, што паэзія была далёка не на апошнім месцы сярод той літаратуры, якую я чытаў (і слухаў) у маленстве.

**— Адзін расійскі пісьменнік наладзіў акцыю "Далоў Гары Потэра". А вы асабіста супраць Гары Потэра?**

**(Працяг на стар. 2.)**

## Ведаць сваіх герояў

Вольга НОРЫНА

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" паклапацілася пра школьнікаў: у першую чаргу тым, хто толькі пачынае знаёмства з беларускай літаратурай, адрасавана гэта выданне. "Класікі беларускай літаратуры. Партрэты" — збор партрэтаў 26 майстроў слова: Францыск Скарына, Ян Чачот, Міхась Лынькоў, Уладзімір Дубоўка, Іван Чыгрынаў, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў… У шэрагу мужчынскіх ёсць і адзін жаночы партрэт — Цёткі (Алаізы Пашкевіч). Выданне ўбачыла свет тыражом 2000 экзэмпляраў. Як паведаміў галоўны рэдактар выдавецтва Віктар Шніп, канцэпцыя стварэння прадугледжвала, што выявы на партрэтах павінны нагадваць вывы, якія размешчаны ў школьных падручніках. Выкананыя мастакамі — супрацоўнікамі выдавецтва "Мастацкая літаратура" Надзеяй Барай, Валянцінам Макаранкам і Валерыем Сенчанкам, партрэты стануць наглядным дапаможнікам на ўроках беларускай літаратуры і літаратурных вечарынах.

*У падтрымку чытання*

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА



### Наталля Батракова:

## У адпачынак — з чамаданам кніг

— Вельмі рана пачала чытаць, у чатыры-пяць гадоў, была хатнім дзіцем, заўсёды пад наглядам, сваволіць не было калі, заставалася толькі адно — чытаць, чытаць, чытаць. Усю школьную праграму адолела ў класе чацвёртым. Далей пайшлі дарослыя кнігі і, зразумела, я не магла абысці жаночую класіку — "Тыя, хто спявае ў цярноўніку", "Знесеныя ветрам" — раманы, якімі я сапраўды зачытвалася, захаплялася складанымі сюжэтамі, лёсамі… І калі пішу ўласныя творы, арыентуюся на тое, што чытала ў дзяцінстве. Гэта не проста павінна быць нешта з прамалінейным сюжэтам: героі сустрэліся, паглядзелі адно аднаму ў вочы, пакахалі, пражылі жыццё шчасліва і памерлі ў адзін дзень. Жыццё настолькі шматпланавае і адмысловае, шчасце не падае з нябёсаў, яго трэба выпакутаваць.

Кніга, якую выбіраю пачытаць, павінна быць смачная — на эмоцыі, на перажыванні. Эмоцыя павінна тонка прысутнічаць. Калі я гэту нітачку адчула, кнігу абавязкова набуду.

Падчас актыўнай працы над раманам стараюся нічога не чытаць. У мяне быў перыяд, калі я пісала і адначасова прачытала "Казус Кукоцкага" Людмілы Уліцкай. Уплыў быў такі, што мне давялося спыніць сваю работу — моцны твор, стыль, склад. І пачынаеш капіраваць. Так што пакуль працую, стос кніг, якія трэба прачытаць, расце.

З апошняга назаву кнігі Анатоля Тоса, Людмілы Уліцкай — проста асалода. У Тоса падабаецца "Амерыканская гісторыя", "Фантазіі жанчыны сярэдніх гадоў" цікавыя як аўтару: я стараюся паглыбіцца ў свет мужчыны, а ён, мужчына, даследуе глыбіні жаночага сусвету. Мне цікавыя яго пэўныя хады і прыёмы. Калі Тос апісвае думкі і памкненні жанчыны, я, як жанчына, іду за ім, веру, веру, а тут — не, не патрапіў.

Заўсёды ў адпачынак бяру з сабой чамадан кніг, і калі не сяджу з ноўтбукам пад парасонам, — чытаю, чытаю, чытаю…

# Як цяжка паразумецца з юным чытачом…

(Працяг. Пачатак на стар.1.)

— Не, я зусім не супраць "Гары Потэра", але, можа, супраць таго ажыятажу і індустрыі маскульту, якія гэтая кніга выклікае ўжо не адзін год. Асаблівага жадання прачытаць гэтую кнігу ў мяне не было, але фільм (першую частку) я паглядзеў з задавальненнем. Мне спадабалася. Па вялікім рахунку, гэта вельмі ўдалы ўзор сучаснай казкі для дзяцей. Зрэшты, ніхто ж не стане ладзіць акцыі "Далоў казкі Гофмана" альбо "Не чытайце казак Гаўфа", а "Гары Потэр", як мне здаецца, — гэта кампіляцыя ўсяго таго, што было здзейснена казачнікамі-папярэднікамі, прычым, думаю, гэта не самая горшая спроба. Я быў бы вельмі рады, калі б і ў беларускай літаратуры з'явілася нешта падобнае. А пакуль у нас няма такіх вось казак-эпапей, наракаць на "Гары Потэра" не выпадае. Хацелася б, аднак, каб, захапляючыся гэтай кнігай, нашыя дзеці не забываліся і на такія, безумоўна, больш сур'ёзныя творы сусветнай дзіцячай класікі, як, напрыклад, "Хронікі Нарніі" Клайва С. Льюіса альбо "Аліса ў краіне цудаў" Льюіса Кэрала.

**— Як вы лічыце, што патрэбна зрабіць самае істотнае, каб дзеці заўважылі тую ці іншую кнігу?**

— Па-першае, кніга мусіць быць цікавай, гэта значыць адпаведнай псіхалогіі і запатрабаванням сучаснага дзіцёнка. З іншага боку, класіка заўсёды цікавая, трэба толькі зрабіць яе прывабнай, асабліва калі гаворка ідзе пра самых маленькіх чытачоў. І тут вельмі вялікае значэнне мае афармленне кнігі. Быць дзіцячым мастаком — справа вельмі няпростая. Беларуская школа кніжнай графікі заўсёды вылучалася высокім узроўнем і прафесіяналізмам. Але, ілюструючы дзіцячую кнігу, мала быць проста таленавітым мастаком, трэба разумець і прадчуваць, які графічны вобраз стане найбольш адпаведным літаратурнаму, трэба, каб малюнкі не адштурхоўвалі, а наадварот — вабілі дзіцёнка, каб кнігу было прыемна не толькі чытаць альбо слухаць, але і разглядаць, вяртацца да яе зноў і зноў. Шмат што залежыць і ад выдаўца: эканоміць на дзіцячых кніжках не варта, бо, зрэшты, і пісьменнік, і мастак, і выдавец — усе фарміруюць свядомасць, літаратурны і эстэтычны густ маленькага чытача. Асабліва гэта важна сёння, калі дзеці пачалі аддаляцца ад кнігі, аддаючы перавагу тэлебачанню і камп'ютарным гульням. Трэба вяртаць традыцыю сумесных паходаў у кнігарню бацькоў разам з дзецьмі. А каб гэтыя паходы адрадзіць, бацькі і дзеці павінны мець шырокі выбар якаснай (ва ўсіх сэнсах) кніжнай прадукцыі.

**— Якая ўвогуле будучыня ў дзіцячай літаратуры?**

— Цяжка адназначна сказаць, але спадзяюся, што не самая горшая. Важна, каб з'яўляліся новыя цікавыя творы, каб айчынная дзіцячая літаратура не была эпігонскай, каб нашыя аўтары пісалі арыгінальна, дасціпна, на высокім мастацкім узроўні, каб жанравая палітра твораў для дзяцей была як мага больш разнастайнай. Ну і, безумоўна, вялікае значэнне мае тое, як бацькі выхоўваюць сваіх дзяцей, ці чытаюць яны дзецям уголас перад сном, ці разглядаюць разам малюнкі ў кніжках, ці тлумачаць тое, што дзіцёнку незразумела альбо зразумела не да канца. Раней шмат здымалася дзіцячага кіно па творах і сцэнарыях таленавітых літаратараў, а кіно ж таксама можа стаць шляхам да літаратуры: паглядзеў цікавую стужку, і захацелася прачытаць твор, глыбей пазнаць творчасць таго ці іншага пісьменніка. Дарослым трэба пераканаць дзяцей, што чытанне — цікавы занятак, а кніга — крыніца не толькі ведаў, але і сапраўднага захаплення светам мастацкага вымыслу.

**— Ці будзе працяг у вашай кнігі пра анёлкаў?**

— Нягледзячы на невялікі аб'ём, кніга "Мой сябра анёлак" атрымалася досыць насычанай: дваццаць адзін верш, у кожным з якіх прысутнічае адметны вобраз анёлка: анёлак-мастак, анёлак-музыкант, анёлак-турыст, анёлак-мысляр, анёлак-астраном, анёлак-школьнік, анёлак-ахоўнік і г. д. Усе яны розныя, непаўторныя, але аб'ядноўвае іх адно — усе яны хочуць як мага хутчэй пасябраваць з кожным, хто іх сустрэне. Гэта завершаны цыкл, праца над якім скончана. Ёсць кніга. Няхай мае анёлкі абвыкнуцца сярод нашых дзетак, пасябруюць з імі, і хай ім не будзе сумна — ані анёлкам, ані дзеткам. Наогул, тэма Анёлаў — вечная, як і тэма любові, сяброўства, барацьбы дабра з ліхам. Можа, калі-небудзь я зноў вярнуся да яе. Але гэта будзе нешта зусім іншае. Цяпер жа хочацца напісаць дзіцячую прозу: казкі ці невялікія апавяданні, пакуль не вырашыў.

## Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН

● У Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа прайшла прэзентацыя кнігі "Мінскае неба" маладога пісьменніка Андрэя Дзічэнкі. У гэтым рамане вядзецца аповед пра сутыкненне двух светаў: атамна-малекулярнага і віртуальнага, што ў аўтара мае назву "Семантычная сетка 3.0". Прэзентацыя суправаджалася перфомансам, музыкай, спецыяльна для гэтага створанымі інсталяцыямі.

— Завяршыўся прыём работ на II штогадовы конкурс "Новая дзіцячая кніга", што праводзіцца выдавецтвам "РОСМЭН" з мэтай пошуку новых аўтараў, якія пішуць для дзяцей і падлеткаў. У гэтым годзе на конкурс было прыслана 1870 работ. Шорт-ліст, у які ўвойдуць 20 рукапісаў у кожнай з намінацый ("Дзіцячая казка" і "Расія. XXI стагоддзе"), будзе афіцыйна аб'яўлены 1 ліпеня 2011 года. Канчатковыя вынікі конкурсу стануць вядомыя ў верасні, падчас Маскоўскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Лепшыя творы ўвойдуць у зборнік "Новая дзіцячая кніга", ён пабачыць свет у выдавецтве "РОСМЭН".

● Незалежныя кнігагандляры Францыі аб'ядналіся дзеля інтэрнэт-продажаў. Інтэрнэт-праект, які ствараецца пры ўдзеле некалькіх кнігагандлёвых арганізацый і падтрымцы дзяржаўных структур, актыўна абмяркоўваўся ўдзельнікамі кніжнай галіны Францыі і павінен быў быць запушчаны яшчэ паўгода таму. Але партал ***1011libraires*** пачынае працу толькі цяпер. Тут для ўсіх жадаючых будзе прадастаўлены доступ да асартыменту друкаваных і лічбавых выданняў, што маюцца ў невялікіх кнігагандлёвых кропках. На пачатковым этапе партал аб'яднае 300 незалежных кнігагандляроў самай рознай велічыні, якія будуць прадаваць он-лайн у сукупнасці 300 тысяч друкаваных і электронных кніг.

— Сталі вядомыя яшчэ некаторыя звесткі пра вытворчасць і продаж кніжнай прадукцыі ў Расіі па выніках мінулага года. Так, аб'ём рынку ў мінулым годзе скараціўся на 8,1 працэнта і склаў 75,4 мільярда расійскіх рублёў. Самая вялікая колькасць кніжных продажаў у плане кошту прыйшлася на сектар мастацкай літаратуры для дарослых — 41 працэнт. Пятую частку ў структуры продажаў заняла літаратура пра арганізацыю вольнага часу. Доля развіваючай літаратуры склала 14 працэнтаў, прафесійнай літаратуры — 10 працэнтаў.

● У Кіеве, у экспацэнтры "Спартыўны", з 7 па 10 красавіка праходзіць VI Кіеўская вясновая кніжная выстаўка-кірмаш. У яе межах ладзіцца V Фестываль хрысціянскай кнігі і Фестываль фантастыкі. У праграме выстаўкі — літаратурныя кавярні, сустрэчы з аўтарамі, прэзентацыі кніжных навінак украінскіх і замежных выдавецтваў, майстар-класы. Асобныя тэматычныя мерапрыемствы вясновага форуму прысвечаны ўзаемадзеянню кнігі і кіно, тэатра, музыкі, а таксама літаратуры для дзяцей.

— Кітай імкнецца захаваць старажытную нацыянальную літаратуру. У межах праекта па паляпшэнні ўмоў захавання старажытных літаратурных твораў у бліжэйшыя пяць год будзе ўзмоцнена абарона кніг, напісаных на мовах этнічных меншасцей. На гэты праект у краіне будуць выдзелены значныя рэсурсы, да працы падключаны толькі высокакваліфікаваныя спецыялісты. У межах праграмы плануецца і паскарэнне працэсу стварэння лічбавай версіі старажытных тэкстаў і фарміравання адпаведнай базы дадзеных, што адкрые шырокай публіцы доступ да тэкстаў праз Інтэрнэт.

## Маладзічок

# Хоку і казка пра кветку Астру

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**У верасні 2010 г. была зацверджана праграма факультатыўных заняткаў па беларускай літаратуры, і неўзабаве ў РВУ "Літаратура і Мастацтва" выйшла серыя дапаможнікаў, неабходных настаўнікам і вучням для падрыхтоўкі да факультатыва. "Кніжны свет" ужо пісаў пра дапаможнікі для 5 — 6 класаў. Гэтым разам паспрабуем прааналізаць выданні, адрасаваныя навучэнцам 7 — 8 класаў і іх таленавітым педагогам.**

Мэта факультатыўнага курса па беларускай літаратуры — "пашырыць літаратурныя і культуралагічныя веды вучняў, развіваць іх эстэтычны густ і агульную культуру". Безумоўна, распрацаваныя выданні дапамогуць настаўнікам і школьнікам вырашаць гэту задачу, дадуць неабходную метадалагічную базу і зарыентуюць у правядзенні заняткаў.

Дапаможнікі для 7 класа (дапаможнікі для настаўнікаў і вучняў, натуральна, з'яўляюцца асобнымі выданнямі) маюць назву "Таямніца паэзіі і загадка прозы" (аўтары Таццяна Логінава і Таццяна Мароз). Адпаведна, тэма курса — "параўнальны разгляд двух асноўных відаў мастацкай творчасці — паэзіі і прозы". На факультатыўных занятках вучні пазнаёмяцца з творамі беларускіх аўтараў (пачынаючы ад скарочанага варыянта аповесці Я. Маўра "Палескія рабінзоны"), а таксама засвояць асноўныя літаратуразнаўчыя паняцці. Дапаможнік для вучняў адметны тым, што акрамя пытанняў і заданняў у ім змешчаны крыжаванкі, дзякуючы якім можна праверыць веданне тэкстаў і валоданне тэарэтычным матэрыялам. Толькі вось "словы для выкрэслівання" маглі б быць змешчаны ў кнізе для настаўніка, а не на другой старонцы пасля крыжаванкі.

Дапаможнікі для настаўнікаў розных класаў маюць амаль аднолькавую структуру і змяшчаюць вучэбную праграму, табліцу з прыкладным планаваннем заняткаў, метадычныя парады па




выкладанні кожнага з раздзелаў. Гэтыя выданні, безумоўна, дапамогуць спланаваць заняткі, вызначыць магчымыя кірункі гутаркі з класам. Шкада толькі (і гэта тычыцца ўсёй серыі), што ў дапаможніках амаль няма інфармацыі як пра іх складальнікаў, так і пра аўтараў змешчаных у іх твораў. Выключэнне зроблена толькі для некаторых пісьменнікаў — Г. Сянкевіча, Я. Маўра, хаця наўрад ці вучні, дый нават большасць настаўнікаў, добра знаёмыя з біяграфіямі і творчасцю У. Дамашэвіча, В. Хомчанкі, А. Русака, У. Бутрамеева. Цікавыя ж факты з жыцця пісьменнікаў, асабліва з іх юнацтва (не блытаць са стандартным "нарадзіўся — вучыўся — жыве — працуе"), безумоўна, маглі б прывабіць вучняў да мастацкіх тэкстаў.

На факультатыве для 8 класа "Незвычайнаелітаратуразнаўства: вывучэнне твора ў яго родавай і жанравай спецыфіцы" Вольга Русілка ставіць мэту пераканаць школьнікаў у тым, што "якраз у разуменні жанру хаваюцца вельмі важныя сакрэты мастацкай спецыфікі, характару вобразнасці, кампазіцыйнай арганізацыі твора, сістэмы выяўленчых прыёмаў і сродкаў". На занятках мусяць быць прааналізаваны і супастаўлены творы розных жанраў — праўда, асаблівасцям паэтычных жанраў надаецца большая ўвага, чым выяўленню адрозненняў паміж раманам, аповесцю і апавяданнем. Заданні для васьмікласнікаў пераважна крэатыўныя: напісаць трыялет альбо хоку, прыдумаць фантастычную казку-апавяданне пра кветку Астру.

Яшчэ адна (асобна не сфармуляваная) мэта факультатыва — пазнаёміць школьнікаў з творчасцю сучасных беларускіх пісьменнікаў: А. Бадака, В. Гапеева, Р. Баравіковай. Праўда, прагартаўшы дапаможнік для вучняў, вылучаеш словы аднаго з герояў тут жа змешчанага апавядання А. Федарэнкі: "Дарэчы, ніколі не мог зразумець, чым дзіцячыя творы павінны адрозніваццa ад дарослых. Помню, у восем гадоў прачытаў Гюго "Дзевяноста трэці год", а ў шаснаццаць — "Віцю Малеева ў школе і дома" — і цікава было! Я думаю, дзеці школьнага ўзросту ўсё разумеюць і ўспрымаюць так, як і дарослыя…"

Але хацелася б адзначыць, што п'еса Уладзіміра Бутрамеева "Новыя прыгоды Несцеркі" была б больш дарэчы для вывучэння ў сёмым, а не ў восьмым класе. На факультатыўных занятках для сёмага класа можна было б зрабіць асноўным менавіта гульнявы пачатак: захапіць вучняў інсцэніроўкай апавяданняў, пастаноўкай беларускіх п'ес — і адначасова з падрыхтоўкай да якога-небудзь літаратурнага свята ці юбілею пісьменніка разгледзець тыпалогію герояў, вылучыць асноўныя тэмы, актуальныя для беларускай літаратуры, звярнуць увагу на цікавыя факты з жыцця класікаў. Бо, як падаецца, галоўная мэта настаўніка, які вядзе факультатыў, — так захапіць і прывабіць вучняў, каб наступным разам яны абавязкова (і з радасцю) прыйшлі.

Праўда, факультатыў разлічаны на аматараў, на школьнікаў, якіх сапраўды вабіць мастацтва — таму кожны настаўнік падчас дакладнага планавання заняткаў будзе ў першую чаргу арыентавацца на ўзровень ведаў сваіх вучняў і іх запатрабаванні.

# Русская классика: вечные скрижали

**Классика — это то, что не подвержено капризам прихотливой моды. Просеянная через сито времени, литература, что зачислена в ряды классики, становится неотъемлемым атрибутом не только школьной программы, но и интеллектуальных светских бесед, а "читал или не читал" то или иное классическое произведение — чертой, которая как нельзя более ярко характеризует человека. Лакмусовой бумажкой для определения уважаемого собеседника, несомненно, будет творчество таких русских писателей, как Достоевский и Булгаков, чьи романы переведены на многие языки мира. Сегодня в нашей рубрике пойдёт разговор о книгах этих классиков, изданных ООО "Харвест", а также о детских изданиях, которые стали любимыми для многих поколений юных читателей.**

**Ольга ПАВЛЮЧЕНКО,**
**Денис МАРТИНОВИЧ**



### Любить Достоевского…

Это очень трудно. Потому, что к нему нельзя подойти с позиции "нравится — не нравится": творчество писателя требует напряжённой длительной работы ума и сердца. За столько лет существования произведений иной писатель вполне мог быть изучен тысячами исследователей, объяснён и забыт. К произведениям Достоевского возвращаешься в разные периоды жизни и каждый раз открываешь для себя заново. Многоплановость романов "гениального безумца" такова, что до них нужно расти всю жизнь. И тем не менее, как свидетельствуют западные соцопросы, именно русский роман "Преступление и наказание" как наиболее точное отражение человеческой души назван в списке того, что нужно представить инопланетным цивилизациям, чтобы они сумели понять нас, землян.

**"Преступление и наказание"** вошло в третий том девятитомного собрания сочинений писателя, увидевшего свет уже в третьем тысячелетии. Кроме текста романа читатель найдёт на страницах этой книги воспоминания современников о событиях 1864—1867 годов в жизни писателя, комментарии к роману, иллюстрации на форзацах — документальные фото и страницы черновиков Достоевского, а также избранные письма Фёдора Михайловича. (Девятый том полностью отводится "Дневнику писателя".)

В серии "Книга на все времена" вышел ещё один роман Ф. Достоевского **"Братья Карамазовы"** — самый сложный, самый многоуровневый и неоднозначный из романов, который одни критики называли "интеллектуальным детективом", другие относили к "раннему постмодернизму", а режиссёры всех времён охотно экранизировали.

Фёдор Михайлович при жизни говорил: "Я узнавал о степени успеха новой моей работы по количеству навещавших меня друзей, по степени их внимания, по числу их визитов". Если каждое прочтение и просмотр экранизации его произведений считать визитом, немногие из великих мира сего смогут стать рядом.

### … и Булгакова

Михаил Афанасьевич Булгаков, напротив, лёгок в прочтении, а потому куда охотнее народом любим, почитаем, растащен на цитаты. (Вспомнить только "Аннушка уже разлила подсолнечное масло", "не бывает осетрины второй свежести", "нехорошая квартира" и "рукописи не горят".) Хотя экранизаторам даётся с трудом: пресса пестрит разными жуткими подробностями несчастий, происходивших во время тех или иных съёмок, но нет, пожалуй, такого режиссёра, который не мечтает снять свой фильм о Мастере и его возлюбленной, и актёра, который отказался бы сыграть в нём одну из главных ролей. В серии "Золотая классика" в 2010 году вышла книга **"Мастер и Маргарита"**, под её обложкой читатель найдёт не только упомянутое произведение, но и ещё два не менее любимых — "Театральный роман" и "Собачье сердце".

И, согласитесь, как остро и применимо к любой ситуации звучит: "Разруха, милостивые государи, не в клозетах, а в головах!"

### Сказки и басни из табакерки

Сложно найти человека, никогда не читавшего сказок и басен. Что же мы понимаем под этими жанрами? Сказкой, скорее всего, назовут фантастическую историю, рассказанную нам мамой или бабушкой либо прочитанную в книге. Между тем, учёные выделяют два вида сказок: фольклорную, представляющую



жанр устного народного творчества, и литературную, принадлежащую конкретному автору. Последняя либо подражает фольклорной сказке, либо создаёт дидактическое произведение на основе нефольклорных сюжетов. Сборник **"Городок в табакерке: сказки русских писателей"** включает в себя произведения Александра Пушкина, Сергея Аксакова, Всеволода Гаршина, Константина Ушинского, Дмитрия Маминого-Сибиряка, Льва Толстого, Владимира Одоевского, Антония Погорельского и Максима Горького.

А вот басня — это стихотворное или прозаическое литературное произведение нравоучительного, сатирического характера. Но если у каждого читателя всегда был свой любимый автор сказок, то лучшего баснописца каждый определит без колебаний. Разумеется, речь идет об **Иване Крылове**. Его басни, собранные для вас в одноименной книге, включены в школьную программу, лучшие произведения разобраны на цитаты ("А вы, друзья, как не садитесь, все в музыканты не годитесь", "ты виноват уж тем, что хочется мне кушать"). А в мемуарной литературе закрепился образ ленивого чудака-гурмана.



Между тем, в тени остаётся, как и биография Крылова, его произведения в других жанрах, истинное значение его творчества. Сын офицера, Крылов служил в армии, был домашним учителем, работал в Публичной библиотеке в Санкт-Петербурге. В молодости Крылов был известен прежде всего как драматург и писатель-сатирик, чьи произведения ходили по России в списках. Между тем, настоящую славу ему принесли именно басни. В чём же причина? "В одной и той же басне, — пишет В. Коровин, — крепко спаяны и сатира, и мораль, и философская мудрость. За кажущейся простотой басен ощущается присутствие интенсивной внутренней жизни, а за чудаковатыми привычками и неординарностью поведения угадывается крупная личность писателя большого философского и социального масштаба".

### "Чучело" — в литературе и в кино

В 1983 году в советском детском кинематографе произошло событие, без преувеличения, изменившее его судьбу. На экраны вышел фильм "Чучело", снятый режиссёром Роланом Быковым. Удостоенный Государственной премии СССР и главного приза Международного кинофестиваля в Лаоне, он вызвал шок у отечественной публики, привыкшей к историям о правильных, честных и порядочных представителях подрастающего поколения. Герои фильма, школьники обыкновенного провинциаль-



ного городка, травили и избивали новенькую одноклассницу, чью роль блистательно сыграла юная Кристина Орбакайте. Но между тем, у истоков этой истории стоял совсем другой человек.

В 1981 году писатель **Владимир Железников**, считающийся сейчас классиком детской литературы, написал повесть **"Чучело"**. Она была основана на событиях, произошедших с его внучкой. Вышедшая книга попала в руки Павлу Санаеву, который также был изгоем в своей школе. На неё обратила внимание мать мальчика, актриса Елена Санаева, которая и порекомендовала своему мужу использовать её как сценарий к будущему фильму. Что было потом, вы уже знаете.

Совсем недавно на российские экраны вышел сериал "Школа", показавший учёбу наших современников с очень неприглядной стороны. Тогда-то общество пришло к пониманию того, что "Чучело" совершенно не устарело. Более того, стало лишь стало предтечей будущих, ещё более острых произведений.

## Антиутопия как она есть

**Юзефа ВОЛК**



Из списка пятидесяти книг, которые нужно было прочесть по программе курса литературы Великобритании и США, роман-антиутопия **Джорджа Оруэлла "1984"** и его сатирическая повесть-притча **"Скотный двор"**, наверное, остались одни из самых ярких воспоминаний. Книга была куплена, прочитана в числе первых и поставлена на полку среди самых любимых произведений. И не только я "оценила" Оруэлла. Им восхищались однокурсники, хотели "вытащить билет" на экзамене, громко обсуждали на семинарах. Почему он? Сложно ответить однозначно. Хоть объяснения всё же есть.

Повесть-притча "Скотный двор" издана в 1945 году. В ней писатель показал эволюцию состояния животных, изгнавших со Скотного двора его предыдущего владельца, жестокого мистера Джонса, от безграничной свободы к диктатуре свиньи по кличке Наполеон. Повесть можно воспринимать просто как аллегорию на человеческое общество после каждой революции, но можно и соотнести с конкретными историческими событиями, а именно революцией 1917 года в России. Если исходить из второй идеи, то в притче несложно найти и героев-животных, чьими прототипами стали Ленин, Сталин, Троцкий, Геббельс. Многие выражения из повести уже стали крылатыми, особенно популярна седьмая заповедь, провозглашённая на Скотном дворе: все животные равны (позднее добавлено: *но некоторые равнее других*).

В романе-антиутопии "1984" продолжены основные мотивы "Скотного двора" — преданная революция, опасность ограничения личных свобод, авторитарная бонапартистская диктатура… Но здесь автор идёт дальше и создаёт целую страну-кошмар, занимающую третью часть суши, со своими законами, укладом жизни и даже языком.

**Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 13.**

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих лицензию на полиграфическую деятельность, по состоянию на 1 января 2011 года

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учетный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Срок действия лицензии | Составляющие полиграфической деятельности: выпуск печатной продукции |
|---|---|---|---|---|---|
| ОАО "Минский подшипниковый завод" | 220026, г. Минск, ул. Жилуновича, 2 | 100103346 | 02330/0131672 выдана от 02.06.2006 № 86 | До 02.06.2011 | за исключением периодических изданий |
| ООО "Полиграфика" | 224007, г. Брест, ул. Стафеева, 21 | 290447125 | 02330/0150445 выдана от 02.11.2006 № 150 | До 02.11.2011 | за исключением периодических изданий |
| Частное производственно-торговое унитарное предприятие "Белэлектро-М" | 220033, г. Минск, пр. Партизанский, 2 (литер В 5/кп), к. 502 | 190080025 | 02330/0131692 выдана от 02.11.2006 № 150 | До 02.11.2011 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| Иностранное частное унитарное производственно-торговое предприятие "АТВ-ЛИТ" компании "А.Т.В. Латент Экспорт Импорт ЛТД" | 220037, г. Минск, ул. Козлова, 27 а | 800014874 | 02330/0150001 выдана от 05.02.2007 № 18 | До 05.02.2012 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| Частное производственное унитарное предприятие "Принт Пак" | 211840, Витебская обл., г. Поставы, ул. Строителей, 8 | 390286558 | 02330/0150004 выдана от 05.02.2007 № 18 | До 05.02.2012 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| Совместное ООО "Свиток" | 220004, г. Минск, ул. Тимирязева, д. 2, к.16 | 190704463 | 02330/0150003 выдана от 05.02.2007 № 18 | До 04.04.2012 | за исключением периодических изданий |
| Частное полиграфическое унитарное предприятие "БАЛИС" | 220017, г. Минск, ул. Матусевича, 88, к. 42 | 190766957 | 02330/0150018 выдана от 04.04.2007 № 55 | До 04.04.2012 | за исключением периодических изданий |
| Частное предприятие "ПолиграфПро" | Минская обл., Минский р-н, д. Ельница, РУП ОСК «Стайки», здание гаража на 25 спецавтомобилей, комн. 3 | 690630870 | 02330/0150024 выдана от 04.04.2007 № 55 | До 10.05.2012 | за исключением периодических изданий |
| РУП "Научно-практический центр Национальной академии наук Беларуси по механизации сельского хозяйства" | 220049, г. Минск, ул. Кнорина, 1, к. 17 | 100230575 | 02330/0150025 выдана от 10.05.2007 № 81 | До 03.08.2012 | за исключением газет |
| ОДО "Адаст-офис" | 230024, г. Гродно, ул. Советских пограничников, д. 91, к. 1 | 590661437 | 02330/0150028 выдана от 03.08.2007 № 121 | До 03.09.2012 | за исключением периодических изданий |
| ООО "Зималетто" | 220030, г. Минск, ул. Октябрьская, 19 литер М 2/к, к. 10 | 190787306 | 02330/0150029 выдана от 03.09.2007 № 137 | До 02.11.2012 | без ограничений |
| Частное полиграфическое унитарное предприятие "КолорМедиа" | 220019, г. Минск, ул. Шаранговича, 19, ком. 255 Б | 190928052 | 02330/0150035 выдана от 02.11.2007 № 164 | До 04.12.2012 | за исключением периодических изданий |
| Научно-техническое частное унитарное предприятие "Дизель-91" | 220131, г. Минск, ул. Кольцова, 48, к. 207 | 100261523 | 02330/0150040 выдана от 04.12.2007 № 184 | До 05.02.2013 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ООО "ПринтКомпани" | 210015, г. Витебск, ул. Жесткова, 18-2 | 390285217 | 02330/0150411 выдана от 05.02.2008 № 14 | До 05.03.2013 | за исключением периодических изданий |
| ООО "АРТИЯ ГРУПП" | 220125, г. Минск, ул. Гинтовта, 12а, первый этаж, к. 2 | 190934630 | 02330/0150047 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 05.03.2013 | за исключением газет |
| ООО "Горпечать" | 220073, г. Минск, ул. Гусовского, 4, к. 105 | 190950284 | 02330/0150048 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 05.03.2013 | за исключением периодических изданий |
| ООО "ИНТЕРПАК" | 223049, Минский район, район д. Малиновка, ул. Центральная, д. 1А, к. 36 | 101326163 | 02330/0552759 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 05.03.2013 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| Частное торгово-производственное унитарное предприятие "БЕЛТОРГ" | 246050, г. Гомель, ул. Кирова, 32а, к. 605 | 400553693 | 02330/0150051 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 05.03.2013 | за исключением газет |
| ООО "БелМобилПринт" | 222603, Минская область, г. Несвиж, ул. Ленинская, д. 124, к. 4. | 190882672 | 02330/0150448 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 05.03.2013 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ОДО "Террастройпроект-плюс" | 247760, г. Мозырь, ул. Фрунзе, 61, офис 1, Гомельская обл. | 490322936 | 02330/0150054 выдана от 05.03.2008 № 34 | До 07.04.2013 | за исключением газет |
| Республиканское унитарное производственное предприятие хлебопекарной промышленности "Брестхлебпром" | 224014, г. Брест, ул. Смирнова, 100 | 200127089 | 02330/0150058 выдана от 07.04.2008 № 49 | До 07.04.2013 | за исключением периодических изданий |
| ООО "ПлутосПлюс" | 220068, г. Минск, ул. Каховская, д. 70А | 190847294 | 02330/0552788 выдана от 07.04.2008 № 49 | До 05.06.2013 | за исключением периодических изданий |
| Частное сервисное унитарное предприятие "Джи энд Ди" | 220136, г. Минск, ул. Бурдейного, д. 37, кв. 191 | 190696799 | 02330/0150065 выдана от 05.06.2008 № 65 | До 08.07.2013 | за исключением газет |
| ООО "Принтэк" | 220024, г. Минск, ул. Бабушкина, д. 32, пом. 44 | 191007091 | 02330/0552747 выдана от 08.07.2008 № 80 | До 08.07.2013 | за исключением газет |
| Быховское унитарное коммунальное предприятие "Жилкомхоз" | 213352, Могилевская обл., г. Быхов, ул. Авиационная, 12 | 700031288 | 02330/0150075 выдана от 08.07.2008 № 80 | До 01.08.2013 | за исключением газет |
| ООО "Первая этикеточная компания" | 231000, Гродненская обл., г. Сморгонь, пр-т Индустриальный, д. 15, к. 208 | 590770106 | 02330/0150401 выдана от 01.08.2008 № 94 | До 04.09.2013 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ООО "АСДрук" | 220141, г. Минск, ул. Ф.Скорины, д. 52, к. 1-1, 2, цокольный этаж, к. 31 | 190843990 | 02330/0150414 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 01.06.2015 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ООО "Аида Пионер Продакшн" | 220037, г. Минск, ул. Уральская, д. 3, первый этаж, к. 2 | 191011636 | 02330/0552761 выдана от 01.06.2010 № 87 | До 04.09.2013 | за исключением периодических изданий |
| Республиканское научное унитарное предприятие "Институт системных исследований в АПК Национальной академии наук Беларуси" | 220108, г. Минск, ул. Казинца, д. 103, к. 211 | 101001968 | 02330/0150416 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 04.09.2013 | за исключением газет |
| ООО "АВРОРА ПРИНТ" | 220037, г. Минск, ул. Долгобродская, д. 17, комн. 4 | 190598040 | 02330/0150413 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 04.09.2013 | за исключением периодических изданий |
| ООО "Мастерпринт" | 230000, г. Гродно, ул. Титова, 24 | 590646103 | 02330/0494298 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 04.09.2013 | за исключением газет |
| ООО "КОМПАДИС" | 220073, г. Минск, ул. Ольшевского, д. 24, к. № 429 "А" | 191026918 | 02330/0150415 выдана от 04.09.2008 № 102 | До 08.10.2013 | за исключением газет |
| Издательское учреждение "Позитив-центр" | 220092, г. Минск, ул. Бельского, 15, к. 206/1 | 190743237 | 02330/0150422 выдана от 08.10.2008 № 120 | До 19.11.2013 | за исключением газет |
| ООО "ЛеанГрупп" | 220075, г. Минск, ул. Промышленная, д. 25, к. 202 | 190783089 | 02330/0150424 выдана от 19.11.2008 № 133 | До 19.11.2013 | за исключением периодических изданий и книжной продукции |
| ООО "Авантагрупп" | г. Минск, пр-т Машерова, 11-1, к. 512 | 191039020 | 02330/0552774 выдана от 19.11.2008 № 133 | До 19.11.2013 | за исключением периодических изданий |
| ООО "Печатный дом" | 220034, г. Минск, ул. Платонова, д. 10, к. 46 | 191089591 | 02330/0150490 выдана от 25.02.2009 № 19 | До 25.02.2014 | за исключением газет |
| ООО "НиктаграфиксПлюс" | 220005, г. Минск, ул. Краснозвездная, д. 5, помещение 1Н, комн. 5 | 191089591 | 02330/0494134 выдана от 03.04.2009 № 38 | До 03.04.2014 | за исключением газет |
| Иностранное частное производственно-торговое унитарное предприятие "ТЕХНОРОЛЛ" | 222720, Минская обл., г. Дзержинск, ул. Фоминых, дом 9 | 800015510 | 02330/0552750 выдана от 17.03.2010 № 34 | До 17.03.2015 | за исключением периодических изданий |
| Совместное ООО "Эволайн" | 220033, г. Минск,ул. Рыбалко, д. 9, комн. 23 | 191113024 | 02330/0552717 выдана от 25.04.2009 № 50 | До 25.04.2014 | за исключением газет |

**Святой благоверный князь Даниил Московский** / [пересказал для детей Крупин Владимир Николаевич]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010. — 16 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-312-7.

**Спектор, А. А.** Большая энциклопедия школьника / [Спектор Анна Артуровна]. — Минск: Харвест, 2010. — 158 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-16-7041-9 (в пер.).

**Хомич, Е. О.** Большая энциклопедия для супердевочек / [Хомич Елена Олеговна]. — Минск: Харвест, 2010. — 239 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-16-7573-5 (в пер.).

**Хомич, Е. О.** Что? Зачем? Почему?: [для младшего и среднего школьного возраста / Хомич Елена Олеговна, Якушева Маргарита Никитьевна]. — Минск: Харвест, 2010. — 255 с. — 10100 экз. — ISBN 978-985-16-9135-3 (в пер.).

**Хочу все знать!**: лучшая энциклопедия для самых любознательных: [для среднего и старшего школьного возраста / составители: О. Захарова, С. Лысенко, С. Станкевич]. — Минск: Современная школа, 2011. — 128 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-513-888-5 (в пер.).

**Чарняўская, А.** Дзіцячае права: кніга для непаўналетніх / Алеся Чарняўская. — Мінск: Тэхналогія, 2010. — 20 с. — 400 экз. — ISBN 978-985-458-209-2.

**Шаповалова, Т. В.** Из Бобруйска про бобрят / Татьяна Шаповалова; рисунки Светланы Манясиной. — Минск: Четыре четверти, 2010. — 81 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-6981-25-1.

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ

### Філасофія

**Гісторыя філасофскай і грамадска-палітычнай думкі Беларусі**: у 6 т. / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут філасофіі; [рэдкалегія: В. Б. Евароўскі і інш.]. — Мінск: Беларуская навука, 2010– — ISBN 978-985-08-0993-3 (у пер.).

Т. 2: Протарэнесанс і Адраджэнне / [С. І. Санько і інш.]. — 2010. — 840 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-08-1228-5.

**Бабосов, Е. М.** Философские проблемы бытия, познания, веры и культуры / Е. М. Бабосов. — Минск: РИВШ, 2010. — 356 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-414-2.

**Вейдле, В. В.** Задача России / В. В. Вейдле. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010. — 511 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-333-2 (в пер.).

**Гайдук, Г. В.** Астрологический календарь-справочник / Галина Гайдук. — Минск: Авестийская школа астрологии, 2011. — 107 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6951-05-6.

**Колесо Фортуны** / [составитель Л. С. Авдеева]. — Минск: Л. С. Авдеева, 2010. — 64 с. — 5100 экз. — ISBN 978-985-6899-24-2.

**Мамыкин, И. П.** Философия: материалы для самостоятельной работы: [для студентов вузов] / И. П. Мамыкин. — 5-е изд., доработанное. — Минск: Экоперспектива, 2010. — 78 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-469-360-6.

**Национальная философия в современном мире**: сборник научных статей / Государственное научное учреждение «Институт философии Национальной академии наук Беларуси»; [научные редакторы: В. Б. Евоpовский, А. А. Лазаревич, С. И. Санько]. — Минск: Право и экономика, 2010. — 142 с. — Часть текста на белорусском языке. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-897-0.

**Философия**: курс лекций для студентов всех специальностей / [П. А. Водопьянов и др.; под редакцией П. А. Водопьянова и П. М. Бурака]; Белорусский государственный технологический университет. — Минск: БГТУ, 2010. — 320 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-530-001-5 (в пер.).

**Человек и общество на рубеже тысячелетий: в поисках устойчивых оснований мироздания**: сборник научных статей / Национальная академия наук Беларуси, Институт философии; [научный редактор Т. И. Адуло]. — Минск: Беларуская навука, 2010. — 251 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-08-1211-7.

### Псіхалогія

**Актуальные проблемы психологии личности**: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [научные редакторы: Карпинский К. В., Пергаменщик Л. А.]. — Гродно: ГрГУ, 2010. — 231с. — 250 экз. — ISBN 978-985-515-338-3.

**Белоус, А. Н.** Возрастная психология: программно-методический комплекс для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальностям: 1-01 01 01 Дошкольное образование; 1-01 01 02 Дошкольное образование. Дополнительная специальность / А. Н. Белоус; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный педагогический университет им. Максима Танка. — Минск: БГПУ, 2010. — 127 с. — 100 экз.

**Беляев, С. А.** Экспериментальная психология: учебно-методический комплекс: [для студентов вузов] / С. А. Беляев; [Частное учреждение образования «Минский институт управления»]. — Минск: МИУ, 2010. — 167 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-705-5.

**Березовин, Н. А.** Основы психологии и педагогики: учебное пособие: [для студентов вузов] / Н. А. Березовин, В. Т. Чепиков, М. И. Чеховских. — 3-е изд. — Минск: Новое знание; Москва: ИНФРА-М, 2011. — 335 с. — 1800 экз. — ISBN 978-985-475-436-9 (Новое знание). — ISBN 978-5-16-004693-8 (ИНФРА-М) (в пер.).

**Бороздина, Г. В.** Основы психологии и педагогики: учебное пособие для студентов высших учебных заведений по непедагогическим специальностям / Г. В. Бороздина. — 2-е изд., стереотипное. — Минск: Издательство Гревцова, 2011. — 334 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6954-18-7.

**Возрастная психология развития**: учебно-методическое пособие: [для студентов и слушателей]: в 3 ч. / Управление образования Гродненского облисполкома, Государственное учреждение образования «Гродненский областной институт развития образования»; [составители: Л. А. Семчук, Г. Г. Борисюк, А. И. Янчий]. — 2-е изд. — Гродно: ГрОИРО, 2010. — 220 экз.

Ч. 1. — 102 с.

Ч. 2. — 106 с.

Ч. 3. — 106 с.

**Карпинский, К. В.** Профессиональное самоотношение личности и методика его психологической диагностики: монография / К. В. Карпинский, А. М. Колышко; Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. — Гродно: ГрГУ, 2010. — 139 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-515-363-5.

**Кехо, Д.** Обретение могущества и славы / Джон Кехо; [перевел с английского Е. Г. Гендель]. — Минск: Попурри, 2011. — 157 с. — 10000 экз. —ISBN 978-985-15-1285-6.

**Л. С. Выготский и современная культурно-историческая психология: проблемы развития личности в изменчивом мире**: материалы IV Международной научной конференции, Гомель, 28–29 октября 2010 г.: в 2 ч. / [редколлегия: С. Н. Жеребцов (отв. ред.) и др.]. — Гомель: ГГУ, 2010. — 80 экз.

Ч. 1. — 394 с. — ISBN 978-985-439-522-7.

Ч. 2. — 363 с. — ISBN 978-985-439-523-4.

**Левит, Л. З.** Счастье от ума-3 / Леонид Левит. — Минск: Пара Ла Оро, 2010. — 471 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-6854-55-5.

**Лысюк, Л. Г.** Психология развития: младший школьник: учебно-методическое пособие для студентов психологических и педагогических специальностей университета / Л. Г. Лысюк; Брестский государственный университет им. А. С. Пушкина. — Брест: БрГУ, 2010. — 103 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-743-655-6.

**Мэрфи, Д.** Управляйте своей судьбой = The power of your subconscious mind: [перевод с английского] / Джозеф Мэрфи. — Минск: Попурри, 2011. — 285 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1249-8.

**Об оказании психологической помощи**: Закон Республики Беларусь: [1 июля 2010 г. № 153-З: принят Палатой представителей 4 июня 2010 г.: одобрен Советом Республики 15 июня 2010 г.]. — Минск: Академия МВД Республики Беларусь, 2010. — 15 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-427-631-1.

**Панько, Е. А.** Психологическое здоровье малыша: как обрести его в семье: пособие / Е. А. Панько, Е. П. Чеснокова; Белорусский государственный университет, Центр перспективного детства. — Минск: БГАТУ, 2010. — 22 с. ; 20 см. — (Серия «Школа осознанного родительства»). — На обложке: Детский фонд ООН UNICEF. — Библиография: с. 23 (13 назв.). — 300 экз. — ISBN 978-985-519-317-4.

**Психогенетика**: учебно-методический комплекс: [для студентов / Частное учреждение образования «Минский институт управления»; автор-составитель: Измайлов В. В.]. — Минск: МИУ, 2010. — 273 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-707-9.

**Психологические тесты для психологов, педагогов, кадровиков** / [составитель: Наталия Федоровна Гребень]. — Минск: Современная школа, 2011. — 480 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-539-100-6 (в пер.).

**Психология активности и поведения**: учебно-методический комплекс: [для студентов / Частное учреждение образования «Минский институт управления»; автор-составитель И. А. Коверзнева]. — Минск: МИУ, 2010. — 314 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-711-6.

**Психология религий**: учебно-методический комплекс: [для студентов] / Частное учреждение образования «Минский институт управления»; [автор-составитель Е. К. Агеенкова]. — Минск: МИУ, 2010. — 195 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-490-697-3.

**Современный именослов с рекомендациями как назвать ребенка** / [составитель Н. Б. Шешко]. — 4-е изд. — Минск: Современная школа, 2011. — 364 с. — ISBN 978-985-539-179-2 (в пер.).

**Ступени**: сборник научных статей студентов, магистрантов и аспирантов по проблемам психологии / Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [научный редактор А. М. Колышко]. — Гродно: ГрГУ, 2010. — 170 с. — 60 экз. — ISBN 978-985-515-364-2.

**Тесты для профориентации, воспитательной работы, подбора кадров** / [составитель: Наталия Федоровна Гребень]. — Минск: Современная школа, 2011. — 480 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-539-110-5 (в пер.).

**Фролова, Ю. Г.** Психология и общественное здоровье: социально-психологические аспекты профилактики заболеваний / Ю. Г. Фролова. — Минск: БГУ, 2010. — 194 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-349-6.

**Чеховских, М. И.** Психология: учебное пособие: [для студентов вузов] / М. И. Чеховских. — 5-е изд. — Минск: Новое знание; Москва: ИНФРА-М, 2011. — 379 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-475-439-0 (Новое знание). — ISBN 978-5-16-004695-2 (ИНФРА-М) (в пер.).

### Логіка. Эпістэмалогія. Тэорыя пазнання

**Бабко, А. І.** Логіка: вучэбны дапаможнік: [для студэнтаў] / А. І. Бабко; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУ культуры і мастацтваў, 2010. — 107 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-522-002-3 (памылк.).

**Довгирдовские чтения-1: эпистемология и философия науки**: материалы международной научной конференции, г. Минск, 14 мая 2010 г. / [редакционный совет: Т. И. Адуло и др.]. — Минск: Право и экономика, 2010. — 369 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-827-7 (ошибоч.).

### Этыка. Практычная філасофія

**Слесарева, Т. П.** Этика: учебно-методический комплекс для студентов технических специальностей / Т. П. Слесарева, А. В. Коротких, М. Е. Пашкевич; Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет. — Новополоцк: ПГУ, 2010. — 239 с. — 170 экз. — ISBN 978-985-531-146-2.

## РЭЛІГІЯ. БАГАСЛОЎЕ

### Хрысціянства. Хрысціянскія цэрквы і дэнамінацыі

**Беларускі праваслаўны каляндар, 2011**: Месяцаслоў. Звод імёнаў святых. Святыя зямлі беларускай. Рэлігійныя дзеячы XX ст. Пра ўшанаванне ікон Божае Маці ў Беларусі / [падрыхтавалі: протаіерэй Георгій Латушка (галоўны рэдактар) і інш.; фота Ігара Камінскага, Яўгена Пясецкага, Аляксандра Мізея]. — Мінск: Прыход Свята-Петра-Паўлаўскага сабора ў г. Мінску, 2010. — 167 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6594-34-5.

**Лыч, Л. М.** Уніяцкая царква Беларусі: этнакультурны аспект / Леанід Лыч. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 127 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6976-50-9.

**Прынцыпы фармацыі святароў на Беларусі** = Ratio institutionis sacerdotalis pro Belorussia / Канферэнцыя каталіцкіх біскупаў у Беларусі. — Гродна: Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь, 2010. — 126 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і лацінскай мовах. — 120 экз. — ISBN 978-985-6724-84-1.

**Акафист преподобной матери нашей Евфросинии, игумении и княжне Полоцкой**. — Полоцк: Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке: Полоцкое книжное издательство, 2010. — 34 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6945-06-2 (Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке). — ISBN 978-985-6936-27-5 (Полоцкое книжное издательство).

**Акафист Пресвятой Богородице в честь иконы Ея «Всецарица»**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 38 с. — 10000 экз.

**Акафист Пресвятой Богородице в честь иконы Ея «Семистрельная»**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 46 с. — 10000 экз.

**Акафист Пресвятой Богородице в честь иконы Ея «Целительница»**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 47 с. — 10000 экз.

**Акафист святителю Николаю Чудотворцу**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 54 с. — 10000 экз.

**Акафист святой блаженной Ксении Петербургской**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 46 с. — 10000 экз.

**Акафист святой блаженной Матроне Московской**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 46 с. — 10000 экз.

**Верую, Господи, помоги моему неверию... —** Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 302, с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-6886-30-3 (в пер.).

**Дивен Бог во святых своих**: преподобная Евфросиния Полоцкая: житие, современные чудеса / Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке Полоцкой епархии Белорусской Православной Церкви. — Полоцк: Спасо-Евфросиниевский женский монастырь в г. Полоцке Полоцкой епархии Белорусской Православной Церкви, 2010. — 71 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6945-04-8.

**Дорофей Палестинский (авва).** Душеполезные поучения преподобного Дорофея аввы Палестинского. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010. — 830 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-511-193-2 (в пер.).

**Кирилл (Гундяев В. М.; патриарх; 1946– ).** Быть верным Богу: книга бесед со Святейшим Патриархом Кириллом / [составитель Велько Александр Владимирович]. — 2-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010. — 591 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-511-323-3 (в пер.).

**Кирилл Туровский.** Творения поучительные святого Кирилла, епископа Туровского / Кирилл Туровский; Общественное объединение «Туровское научно-просветительское общество». — Репринтное изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2010. — 109 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-511-292-2.

**Ларец мудрости духовной**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 463 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-6886-26-6 (в пер.).

**Православный молитвослов**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 158 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-6886-50-1.

**Православный молитвослов на всякую потребу**. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 111 с. — 20000 экз. — ISBN 978-985-6886-37-2.

**Стеняев, О.** Руфь-моавитянка, прабабка царя Давида: (проблема неполной семьи): лекции / протоиерей Олег Стеняев; Православное братство «Радонеж». — Минск: Парадокс, 2011. — 79 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-451-250-1.

**Стоуэлл, Д.** Жизнь в царстве: в 2 ч. / Джозеф Стоуэлл; перевод с английского [Александра Капустина]. — Минск: Религиозная миссия «Библейский радиокласс», 2011–

Ч. 1: Принятие добродетелей царя. — 2011. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6844-35-8.

**Христианские ценности и вопросы государственной идеологии**: материалы «круглого стола», 26 мая 2010 г. — Брест: БрГТУ, 2010. — 95 с. — Часть текста на белорусском и польском языках. — 50 экз. — ISBN 978-985-493-175-3.

**Чудаев, М. Ф.** Православный мир в казачестве: (словарь) / М. Ф. Чудаев; [редколлегия: священник Виталий Харитонович, В. Г. Семченко]; Местный фонд поддержки и организации Минского международного марафона. — Минск: Энциклопедикс, 2010. — 279 с. — 40 экз. — ISBN 978-985-6958-18-5.

**Jędrzejczak, K.** Wychowanie chrześcijańskie. Podstawy pedagogiki katolickiej / o. Kazi-mierz Jędrzejczak OMI. — Гродна: Гродзенская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь, 2010. — 158 с. — На польскай мове. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6724-82-7.

Хрысціянскае выхаванне. Асновы каталіцкай педагогікі

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. СТАТЫСТЫКА. ГАНДАЛЬ. ПРАВА. ДЗЯРЖАВА. ВАЕННАЯ СПРАВА. СТРАХАВАННЕ. АДУКАЦЫЯ

**Государство, право и социальная сфера: история и современность**: сборник научных статей / Российский государственный социальный университет, Филиал в г. Минске; [редколлегия: И. В. Тимошенко (гл. ред.) и др.]. — Минск: РИВШ, 2010. — 258 с. — Часть текста параллельно на русском и английском языках. — — 100 экз. — ISBN 978-985-500-419-7.

**Таркан, И. И.** Обществоведение: тематический конспект школьного курса для подготовки к централизованному тестированию / И. И. Таркан. — Минск: ТетраСистемс, 2011. — 171 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-536-147-4.

### Тэорыя, метадалогія грамадскіх навук у цэлым

**Бородуля, А. А.** Социально-философские основания феномена гендерной идентичности / А. А. Бородуля. — Минск: РИВШ, 2010. — 123 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-408-1.

### Дэмаграфія. Вывучэнне народанасельніцтва

**Лин, Д. Г.** Динамика демографических процессов на постсоветском пространстве / Д. Г. Лин, Е. И. Сукач; [научный редактор Д. Г. Лин]; Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Ф. Скорины. — Минск: Право и экономика, 2010. — 234 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-876-5.

### Сацыялогія

**Бабосов, Е. М.** Социология: учебник для студентов высших учебных заведений / Е. М. Бабосов. — Минск: ТетраСистемс, 2011. — 284 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-536-152-8 (в пер.).

**Елсуков, А. Н.** Предыстория социологии: учебно-методическое пособие для студентов высших учебных заведений, обучающихся по специальности 1-23 01 05 «Социология» / А. Н. Елсуков, А. Н. Данилов. — Минск: ТетраСистемс, 2011. — 190 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-536-136-8 (в пер.).

**Кавецкий, С. Т.** Аномия: истоки и современность: монография / С. Т. Кавецкий. — Брест: БрГУ, 2010. — 235 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-473-662-4.

**Карнеги, Д.** Как выработать уверенность в себе и влиять на людей, выступая публично; Как завоевывать друзей и оказывать влияние на людей; Как перестать беспокоиться и начать жить / Дейл Карнеги; [переводы с английского выполнили: С. Э. Борич и др.]. — Минск: Попурри, 2010. — 767 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-15-0810-1 (в пер.).

**Карнеги, Д.** Как выработать уверенность в себе и влиять на людей, выступая публично; Как завоевывать друзей и оказывать влияние на людей; Как перестать беспокоиться и начать жить / Дейл Карнеги; [переводы с английского выполнили: С. Э. Борич и др.]. — Минск: Попурри, 2010. — 767 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-15-0633-6 (в пер.).

**Карнеги, Д.** Как перестать беспокоиться и начать жить / Дейл Карнеги; [перевод с английского: Е. В. Городничева, Я. И. Цыбовский]. — 5-е изд. — Минск: Попурри, 2010. — 413 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-15-1254-2.

**Кехо, Д.** Деньги, успех и вы / Джон Кехо; [перевел с английского Е. Г. Гендель]. — 8-е изд. — Минск: Попурри, 2011. — 253 с. — 15000 экз. — ISBN 978-985-15-1215-3.

**Мак, Д.** Чего хотят мужчины / Джефф Мак; [перевела с английского И. В. Гродель]. — 2-е изд. — Минск: Попурри, 2010. — 220 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1269-6.

**Положение детей в Республике Беларусь в 2009 году**: национальный доклад / Национальная комиссия по правам ребенка, Министерство образования Республики Беларусь. — Минск: Национальный институт образования, 2010. — 107 с. — 350 экз. — ISBN 978-985-465-796-7.

**Сборник методических разработок по социально-психологической реабилитации и адаптации населения, проживающего на загрязненных радионуклидами территориях России и Беларуси**: в 2 ч. / Министерство Российской Федерации по делам гражданской обороны, чрезвычайным ситуациям и ликвидации последствий стихийных бедствий [и др.; под общей редакцией Т. Б. Мельницкой, Н. Я. Борисевича]. — Гомель: Институт радиологии, 2009–2010. — В выходных данных место издания: Минск. — ISBN 978-985-6765-46-2.

Ч. 2. — 2010. — 222 с. — 390 экз. — ISBN 978-985-6765-55-4.

**Социологическая наука и образование: состояние, проблемы и перспективы развития**: материалы международной научной конференции, посвященной 20-летию институционализации социологического образования в Беларуси, открытию отделения и кафедры социологии в Белорусском государственном университете, Минск, 4–5 ноября 2009 г. / [редколлегия: А. Н. Данилов (отв. ред.) и др.]. — Минск: БГУ, 2010. — 194 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-313-7.

**Фишер, М.** Секрет миллионера = The instant millionaire / Марк Фишер; [перевод с английского – Г. И. Левитан]. — Минск: Попурри, 2011. — 124 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1202-3.

**Фишер, М.** Секрет миллионера: с чего начать / Марк Фишер; [перевел с английского В. М. Боженов]. — Минск: Попурри, 2011. — 126 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-15-1203-0.

**Храмцова, Ф. И.** Гендерология и феминология: краткий курс / Ф. И. Храмцова. — Минск: Бестпринт, 2010. — 223 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6873-29-7.

**Чеховских, М. И.** Психология делового общения: учебное пособие: [для студентов вузов] / М. И. Чеховских. — 3-е изд. — Минск: Новое знание; Москва: ИНФРА-М, 2011. — 252 с. — 1300 экз. — ISBN 978-985-475-438-3 (Новое знание). — ISBN 978-5-16-004694-5 (ИНФРА-М) (в пер.).

**Шейнов, В. П.** Искусство убеждать / В. П. Шейнов. — Минск: Харвест, 2010. — 254 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-9148-3.

**Шейнов, В. П.** Как управлять собой / В. П. Шейнов. — Минск: Харвест, 2011. — 286 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-16-9106-3.

**Шестиловская, Н. А.** Социальная психология: курс лекций: [для студентов вузов] / Н. А. Шестиловская, Е. Н. Каспарова. — Минск: БГУ, 2010. — 95 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-319-9.

**Шефер, Б.** Законы победителей: [мудрые истины, стратегии успеха] / Бодо Шефер; [перевел с немецкого С. Э. Борич]. — 4-е изд. — Минск: Попурри, 2010. — 268 с. — 8000 экз. — ISBN 978-985-15-1206-1 (в пер.).

### Палітыка

**Корнилович, Э. А.** Беларусь: созвездие политических имен: историко-биографический справочник / Э. А. Корнилович. — Минск: ФУАинформ, 2010. — 407 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-6868-47-7 (в пер.).

**Политология**: учебник для студентов высших учебных заведений / [С. В. Решетников и др.]; под редакцией С. В. Решетникова. — 7-е изд., исправленное. — Минск: ТетраСистемс, 2011. — 523 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-536-141-2 (в пер.).

### Формы палітычнай арганізацыі. Дзяржава як палітычная ўлада

**Забродский, Э. А.** Свет мудрецов: [очерки о белорусских политических мыслителях 19 – начала 20 вв.] / Э. А. Забродский, Э. А. Корнилович. — Минск: Право и экономика, 2010. — 379 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-442-881-9.

### Унутраная палітыка Рэспублікі Беларусь

**Стром, А. В.** Политическая система Республики Беларусь: теория и практика / А. В. Стром. — Минск: Право и экономика, 2010. — 231 с. — Часть текста на белорусском языке. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-878-9.

### Міжнародныя адносіны. Знешняя палітыка Рэспублікі Беларусь

**Беларусь і Германія: гісторыя і сучаснасць**: [зборнік навуковых артыкулаў] / Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт, Інстытут гісторыі НАН Беларусі; [рэдкалегія: А. А. Каваленя (галоўны рэдактар) і інш.]. — Мінск: МДЛУ, 2003–

Вып. 9: матэрыялы міжнароднай навуковай канферэнцыі, Мінск, 8 красавіка 2010 г. — 2010. — 267 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і нямецкай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 110 экз. — ISBN 978-985-460-409-1.

**Шимов, В. В.** Беларусь, Россия, Украина в цивилизационной и геополитической динамике / В. В. Шимов. — Минск: БГУ, 2010. — 154 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-425-7.

### Палітычныя партыі і рухі

**Леднева, А. С.** История общественных движений и политических партий: учебно-методическое пособие: [для студентов] / А. С. Леднева; Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный экономический университет. — Минск: БГЭУ, 2010. — 121 с. — 230 экз. — ISBN 978-985-484-735-1.

### Эканоміка. Народная гаспадарка

**Твой бизнес: материалы докладов III Международного экономического форума**: [Витебск, 24 ноября 2010 г. / редколлегия: Пятов В. В. и др.]. — Витебск: Витебский областной центр маркетинга, 2010. — 167 с. — 80 экз. — ISBN 978-985-6896-12-8. — ISBN 978-985-6896-12-8 (ошибоч.).

**Томашевич, А. В.** Структурные и территориальные сдвиги в мировом хозяйстве: пособие для магистрантов географического факультета / А. В. Томашевич. — Минск: БГУ, 2010. — 146 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-280-2.

### Эканоміка ў цэлым

**Буць, В. И.** Экономический механизм управления ресурсосбережением регионального агропромышленного комплекса: монография / В. И. Буць; Министерство сельского хозяйства и продовольствия Республики Беларусь, Главное управление образования, науки и кадров, Белорусская государственная сельскохозяйственная академия. — Горки: БГСХА, 2010. — 172 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-467-306-6.

**Громов, В. И.** Динамические резонансные модели гармонизациии взаимодействий социально-экономических ресурсных потоков / В. И. Громов; [под общей редакцией М. М. Ковалева]; Национальная академия наук Беларуси, Институт экономики. — Минск: Право и экономика, 2010. — 202 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-886-4.

**Купчинова, О. В.** Пособие по персональным финансам / [Купчинова О. В.]; Проект ПРООН и Национального банка РБ «Содействие развитию микрофинансирования в Республике Беларусь». — Минск: Промкомплекс, 2010. — 85 с. — 500 экз.

**Партисипативное исследование проблем бедности и путей ее предотвращения на базе пилотного района (Слонимский район Гродненской области)**: совместный проект ПРООН и Правительства Республики Беларусь «Разработка модели комплексной региональной социальной политики для предотвращения бедности в Республике Беларусь» / Министерство труда и социальной защиты Республики Беларусь, Программа развития ООН; [авторы-составители: А. Н. Акуленко и др.]. — Минск: 2010. — 119 с. — 100 экз.

**Паршин, В. Ф.** Эконометрика и экономико-математические методы и модели: учебно-методический комплекс для студентов экономических специальностей / В. Ф. Паршин; [Частное учреждение образования «Минский институт управления»]. — Минск: МИУ, 2010. — 426 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-490-695-9.

**Самаль, С. А.** Инструментальные методы реализации математических моделей сложных экономических систем / С. А. Самаль. — Минск: Право и экономика, 2010. — 239 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-442-882-6.

**Скриба, Н. Н.** Системное управление риском: теория, методология, приоритеты реализации в торговом бизнесе / Н. Н. Скриба. — Минск: БГЭУ, 2010. — 313 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-484-732-0.

**Ткалич, Т. А.** Научно-методологические основы оценки экономической эффективности интегрированных информационных систем / Т. А. Ткалич; Белорусский государственный экономический университет. — Минск: Право и экономика, 2010. — 270 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-442-902-1.

**Трацевская, Л. Ф.** Экономическая теория: курс лекций для студентов неэкономических специальностей дневной и заочной форм обучения / Трацевская Л. Ф.; Министерство образования Республики Беларусь, Витебский государственный технологический университет. — Витебск: ВГТУ, 2010. — 146 с. — 365 экз. — ISBN 978-985-481-198-7.

**Хвесеня, Н. П.** Микроэкономика: учебно-методический комплекс для студентов экономических специальностей / Н. П. Хвесеня, С. С. Хвесеня. — Минск: БГУ, 2010. — 229 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-377-9 (в пер.).

# Параскева: крыж у пустыні

(Урывак з рамана)




***Ліляна ХАБ'ЯНАВІЧ-ДЖУРАВІЧ (1953 г.н., Крушавац, Сербія) — вядомая сербская пісьменніца, аўтар раманаў "Вядомая птушка" (1991), "Ана Марыя не кахае мяне" (1991), "Вярба" (1994), "Жаночае радаслоўе" (1996), "Паўлінава пяро" (1999), Петкана" (2001), "Тульня Ангелаў" (2003), "Усіх скрушных радасць" (2005), "Запіс душы" (2007), "Вада з каменя" (2009).***

***Паводле інфармацыі Міжнароднага біяграфічнага цэнтра (Кембрыдж), за мінулае дзесяцігоддзе яе творы (разам з творамі Добрыцы Чосіча) увайшлі ў катэгорыю найбольш выдаваных і чытаных на радзіме аўтара, а таксама былі перакладзены на балгарскую, венгерскую, грэчаскую, італьянскую, македонскую, румынскую, рускую, украінскую, французскую, харвацкую, чэшскую мовы.***

***Іх выданні ў Сербіі шэсць разоў адзначаліся як "Залаты бестселер" і тры разы як "Спецыяльны залаты бестселер". Л. Хаб'янавіч-Джуравіч атрымала больш як дваццаць розных узнагарод, сярод якіх "Залатое звяно" Культурна-асветнага таварыства Бялграда за 2008 год, прэмія Вука (Караджыча) за 2009 год.Сінод Сербскай Праваслаўнай Царквы ў 2007 годзе ўзнагародзіў яе Ордэнам святога Савы.***

***Такое прызнанне творчасці гэтай аўтаркі ніяк не можа лічыцца выпадковым ці залежным ад часовых, зменлівых крытэрыяў. Справа ў тым, што Л. Хаб'янавіч-Джуравіч свае творы апошняга часу прысвячае якраз вечнаму і нязменнаму: яна сама імкнецца і заклікае іншых рухацца насустрач Духу. Другая істотная акалічнасць — тое, што сербы і ў ХХ стагоддзі не проста захавалі, але і надзвычай плённа развівалі традыцыі духоўнай літаратуры — прычым такой, якая адрасуецца самым шырокім колам чытачоў. Дастаткова згадаць такіх сусветна вядомых пісьменнікаў, як святцель Нікалай (Веліміравіч) і прападобны Іусцін (Попавіч). Маючы іх спадчыну як узор і ўлічваючы запатрабаванні сваіх сучаснікаў, асабліва маладых, Л. Хаб'янавіч-Джуравіч знайшла сваю, як цяпер кажуць, парадыгму творчасці. Азначаючы коратка, шэраг яе твораў — у тым ліку і раман, які прапануеваецца беларускім чытачам — можна было б назваць "белетрызаванай агіяграфіяй". Але ў гэтым азначэнні галоўным застаецца другі складнік: агіяграфія, г.зн. апісанне святасці.***

***Вось і перад намі не што іншае, як "Жыціе святой прападобнай Параскевы". Толькі напісана яно не ў ІІ ці ХІІ стагоддзях і не паводле даўнішніх канонаў, а з улікам свядомасці людзей стагоддзя ХХІ. І ў гэтым плане твор шаноўнай сербскай калегі можа стаць узорам для беларускіх пісьменнікаў, якія ставяць сабе падобныя мэты.***

***Хочацца верыць, што знаёмства з прапанаваным творам, які друкуецца ў часопісе "Полымя" пачынаючы з чацвёртага нумара, прынясе чытачам духоўную карысць і радасць.***

Царград! Ён, пабудаваны як Новы Рым, стаў Новым Іерусалімам. Так, прынамсі, казалі нашы цары і патрыярхі.

"І другі Рым, як першы, — святы горад, багаты дзівосамі, але населены людзьмі, якія не варты яго", — перайма́ючы Хрысціцеля, папярэджвалі пустэльнікі і падзвіжнікі, якія сваёй хрысталюбнасцю набліжалі адзін Рым да другога і абодва — да Святой Зямлі.

Апынуўшыся ў Царградзе, першыя дні і нават месяцы я лічыла, што ён сапраўды можа называцца новым Горадам Апосталаў на Басфоры. Бо, як мне здавалася, ён існуе і жыве дзеля славы Хрыста.

Богаслужэнні тут здзяйсняліся не толькі ў слынных храмах, цудоўныя купалы якіх, бачныя здалёку на падыходах і па сушы і па моры, аздаблялі карціну горада, але таксама ў безлічы цэркваў і капліц між гарадскімі сценамі і па прадмесцях. Пры многіх існавалі школы, прытулкі для асірацелых дзяцей і старых людзей, бальніцы і спецыяльныя лякарні — так званыя лузмы, дзе дапамагалі бліжнім тыя, хто хацеў дагадзіць Богу.

"Здавалася, што горад кішыць манахамі", — падкінуў сведчанне адзін вандроўнік, які занатоўваў уражанні ад розных краін і народаў. І сапраўды так было! У Царградзе, калі я там апынулася, існавала некалькі дзясяткаў манастыроў з вялікай колькасцю насельнікаў. Там манахаў можна было сустрэць усюды — у арыстакратычным квартале Аркадзія, каля форума Канстанціна, у гандлёвых радах на ўзбярэжжы Залатога Рога, у бальніцах для пракажоных на другім баку яго, у Юліянавай гавані на Мармуровым моры, у ціхамірнай па-вясковаму Влахерне і ў лесе за ёю, а таксама і ў Вялікім Палацы, і ў дамах вакол яго — асярodку царскай магутнасці і багацця.

Свяшчэннаслужыцелі вялікага храма ў гонар святой Сафіі, Прамудрасці Божай, часта здзяйснялі хрэсныя хады да аддаленых святынь і заўсёды спыняліся на адных і тых жа, строга вызначаных, месцах. Народ іх чакаў, радасна вітаў і, уздымаючы рукі да неба, прасіў міласці.

У Царградзе захоўваліся найкаштоўнейшыя рэліквіі Хрысціянства: Святы Крыж, убрус Веранікі, Плашчаніца — рэчы, на якіх засталіся сляды дотыку, поту, слёз і крыві Спасіцеля. Кожны мог іх убачыць, нават дакрануцца, і меў магчымасць задумацца пра ўсе пакуты і прыніжэнні Госпада, пасупераджываць і многаму навучыцца ў Яго. Вось я і суперажывала, і вучылася.

"Людзі, якім даравана такая магчымасць, трэба каб былі па-сапраўднаму набожнымі, жылі па Божых законах! Яны сябе павінны мерацьь і ўзвышаць паводле Божых мерак", — лічыла я.

Ведала, што ў гэтым горадзе сустрэну многа да сябе падобных — тых, якія шукаюць Бога, якія хацелі б жыць толькі з Ім і ў Ім. Але таксама і тых, якія на духоўным шляху ўжо намнога апярэдзілі мяне і могуць для мяне быць арыенцірамі. Яны быццам свечачкі, якія будуць азначаць, дакуль я дайшла, альбо папярэджваць мяне, каб я са шляху не збілася. З захапленнем і вялікім спадзяваннем я імкнулася такіх знайсці і дагнаць, каб да іх далучыцца. І сэрца маё напаўнялася радасцю.

* * *

У замілаванні ад хрысціянскага Царграда, у захапленні ад яго славы і сапраўднага харастава, а пры гэтым шчыра аддаючыся богашукальніцтву, посту і малітве, я не заўважала, што гэты мой Іерусалім на Басфоры — усяго толькі частка горада, у цэлым іншага ды інакшага. <...>

Якраз такі Царград, якога я не хацела ведаць, аднойчы паказаў мне сваё пачварнае аблічча як выяву гора людскога.

Напрадвесні дзевяцьсот шэсцьдзесят трэцяга лета Гасподняга нечакана, ды і надта рана, памёр наш цар Раман Другі, пасля якога засталася ўдавою Феафана з чатырма дзецьмі. І народ пачаў гадаць, хто ж возьме ў свае рукі ўладу — ці то магутны міністр Іосіф Урынга, а ці ўвянчаны славаю ратнік і аскет, улюбёнец войска і свяшчэнства, Нікіфар Фока.

"Колькі ж ліха прынясе нам змаганне паміж імі?" — паўставала пытанне перад людзьмі. Бо даўно вядома, што калі наверсе ідзе барацьба за ўладу, то народ ад яе рэдка мае карысць. А часта нясе страты, церпіць многія пакуты.

Неспакой пранікаў у кожны дом, у кожную душу і ў кожную размову.

З часам неспакой абярнуўся страхам. А з гэтага страху, як з атрутнага насення, прарастала нянавісць. Людзі пачалі дзяліцца паводле прыхільнасці да таго ці іншага прэтэндэнта, адны для другіх становячыся праціўнікамі, гатовымі на любое зло, якое дапаможа перамагчы таму, за кім яны пайшлі. І ўсе былі ўпэўнены, што толькі перамога пацвярджае правільнасць выбару. А многім людзям падабаецца перамагаць іншых. І яны не дбаюць пра тое, што самая вялікая перамога — над самім сабою.

Так надышло пятнаццатае жніўня. Горад закіпеў ад летняй спякоты, а таксама ад напалу жарсцяў, якія ніхто не мог супакоіць.

Хто гэта выбраў так, каб днём канчатковага разрахунку стала свята Успення Прасвятой Багародзіцы? Можа, сам Фока, які — пра гэта ў хуткім часе будзе ведаць уся Візантыя, — у такой разні здабываў тое, што яму было даражэй за царскую карону? Магчыма, яго воіны, якія ў лагеры яшчэ, у далёкай Цэзарыі, перад паходам на Царград абулі чырвоныя боты — пазнаку царскай годнасці? А ці наш патрыярх Палівект, які ў горадзе адкрыта кіраваў народным рухам на карысць Фокі? Не ведаю. Але наступ адбыўся з гэтага боку.

Раніцою таго дня спакой маіх малітваў у Багародзічнай царкве быў парушаны тупатам ног, стукам конскіх капытоў, звонам мячоў. Данесліся пагрозлівыя выгукі людзей раз'юшаных і енкі спалоханых.

Я выбегла на вуліцу, у мяцежны гармідар. Воіны Фокі і гараджане, узброеныя сякерамі ды калкамі, нібыта ашалелыя, ішлі ў атаку на воінаў міністра. А тыя з такім самым шаленствам адбіваліся. Ды яны былі ў меншасці. Таму неўзабаве кінуліся ўцякаць. І пачаліся ловы — жорсткія ловы на людзей. Аднак і ганіцелі, і гнаныя мне нагадвалі звяроў.

Я таксама пабегла па вуліцы — спатыкаючыся, падаючы, не ведаючы, куды бягу і чаго. Спыніць гэткую арду людзей, вядома ж, не магла; яе спыніць не мог ужо ніхто. Каб нават сам Фока з'явіўся і перагарадзіў дарогу, то і яго б затапталі. Настолькі ўсеахопным было асляпленне і памутненне розуму ў людзей, і настолькі моцным. Але нешта мяне штурхала ўслед за імі. Нейкі абавязак.

У натоўпе былі і жанчыны — жанчыны з каменнем. Падобныя да тых, якія калісьці беглі караць прапюбадзейніцу. Але Таго, Хто тысячу гадоў назад сказаў: "Хто з вас без граху, першым кінь у яе камень", — цяпер тут не было. Ці Ён проста не азваўся. І жанчыны кідалі каменне. Ва ўсіх, каго лічылі сваімі праціўнікамі.

"Спыні іх, Госпадзі!" — прасіла я. І плакала, задыхалася, дрыжала. Але Гасподзь чакаў, папусціўшы, каб кожны з людзей паказаў сваё аблічча і каб сэрца адкрый перад вокам усёвідушчым.

Калі дабраліся да міністравага палаца, гэта былі ўжо не людзі, а зграя хіжых звяроў, якія вынюхалі здабычу. І кроў. Я ніколі не бачыла нічога страшнейшага! І воіны, і простыя людзі з жахлівым шаленствам рабавалі і драталі дом свайго праціўніка! І неймаверную жорсткасць праяўлялі ў адносінах да тых, каго засталі ў доме!

"Няўжо гэта тыя ж самыя людзі, якія ахвяруюць на цэрквы?.. Тыя, якія сустракаюць хрэсныя хады і скрушна моляцца? Тыя, што прыклікаюць ласку Божую і прамаўляюць: "...Даруй нам даўгі нашы, як і мы даруем даўжнікам нашым..."? Няўжо ў людзях гэтулькі зла?" — задавала я сабе пытанні ў страху і адчаі.

Раптам я ўбачыла дзяўчыну, падобную да перапуджанай сарны. Яна выбралася з руін і, азіраючыся, хацела бегчы да паварота, каб адшукаць сховішча на другой вуліцы. Але яе ўбачыла не толькі я.

"Глядзіце вось на тую! Зараз уцяча!" — гукнула з натоўпу жанчына, якая трымала ў руках сярэбраны падсвечнік і некалькі раскошных сукенак — здабычу.

А дзяўчына-сарна была дачкою міністравай сястры. Яна прыгожая, знатная, багатая. Але не ганарлівая. І за гэта яе асабліва ўзненавідзелі.

Натоўп рынуўся да дзяўчыны, з пагрозамі: "Не ўцячэш!.. Трымайце яе!.."

Дзяўчына пабегла. А не было куды: з аднаго боку — сцяна суседняга палаца, з другога — сцяна потных, пыльных і ашалелых пачвар, якая ўсё шчыльнее і перакрывае праход.

"Багародзіца, не аддавай яе! Памажы ёй!" — узмалілася я, падаючы голымі каленямі на бітае шкло. Аскепкі ўпіліся ў цела, і боль, як маланка, працяў мозг. Але я засталася на каленях і паўтарала: "Багародзіца, памажы ёй! Багародзіца, уратуй яе!"

А сцяна рухалася да дзяўчыны, была ўсё бліжэй.

"Канец табе! Уцячы няма куды!" — верашчала жанчына з падсвечнікам, а таксама іншыя вакол яе.

"Ты мая! Мая!" — брэіў мужчына, які апынуўся папераддзе і ўжо працягваў рукі, падобныя да лап драпежніка.

"На спіну яе, сучку! На спіну!" — падбадзёрвалі яго.

"Спыні іх, Багародзіца! Не аддай яе! — заклінала я, заломваючы сабе рукі і прыціскаючы каленямі аскепкі шкла. — Спыні іх, Маці! Толькі ты гэта можаш!" — Я лямантавала так, нібыта ад лёсу гэтай дзяўчыны залежала маё жыццё ды і ўся мая вера.

"Вера твая ўратавала цябе", — сказаў Ісус жанчыне, з якой цякла кроў ад сямі хвароб. Я таксама верыла. І адбылося па веры.

У той час, калі ўжо кіпцюры пярэдняга мужчыны пачалі драпаць грудзі перапалоханай да страты розуму дзяўчыны, раптам азваліся — нібыта выконваючы нейкі звыш пасланы загад, — званы ўсіх царградскіх цэркваў. І як яны зазванілі! Аглушальна гучны і перарывісты, як рыданне, звон абрушыўся на нас, быццам свінец, быццам лёд. Ён скамяніў рухі, абарваў словы — прыпыніў усё.

Напэўна, хтосьці з раптоўна спыненых людзей азірнуўся вакол сябе і зазірнуў у сябе. І задаў сабе пытанне, якім жа такое відовішча прадстала ў вачах Божых. Таму што калі змоўклі званы, людзі пачалі расступацца і разыходзіцца — павольна, бязвольна. Нібыта моцна стомленыя, зусім ужо без сіл. Як падраныя анучныя лялькі, з якіх выпала набіўка.

І дзяўчына-гаротніца зрушылася з месца. Я пайшла за ёю. Мы спасцярожліва прайшлі міма разрабаванага і разбуранага палаца. Яна там шукала пацвярджэння сваіх апошніх надзей. Я таксама думала, што ў руінах, можа, ёсць яшчэ людзі, якія выжылі і якім патрэбна дапамога. Але такіх не было. Толькі трупы. Трупы. Трупы.

"Гэта мая сястра... За яе ніхто не маліўся... — прамовіла дзяўчына і паказала мне на адно з цел. — Я бачыла іх... І вельмі ж баялася.. Нехта з іх згадаў пра старажытнае рымскае павер'е, быццам Бог абавязкова карае таго, хто засячэ мячом нявінніцу. Таму яе спачатку зганьбілі... А ёй было толькі дзесяць гадкоў..."

Дзяўчынка ляжала на падлозе. Разадраная ад шыі да пупка. З раскінутымі паламанымі нагамі. З рукамі пакалатымі, як быццам іх нажамі прыбівалі да падлогі, каб не супраціўлялася. Некранутай пакінулі хіба што галаву. Таму я назаўжды запамятала яе тварык і вочы, поўныя жаху перад аскаленымі пысамі гвалтаўнікоў.

"За яе ніхто не маліўся... Ні я... Заўтра падамся ў Палесціну... Каб у якім-небудзь манастыры служыць Богу, молячыся за тых Яго дзяцей, якія ўсімі забыты. Буду маліцца так, як ты сёння малілася за мяне... Ведаю. Гэта твая малітва мяне ўратавала..."

Тую ноч я правяла ў трыванні. На акрываўленых каленях. Здзервянелая ад болю ў целе і ў душы. Не ведаю, які боль быў мацнейшы.

"Гэта жыхары аднаго горада, адной краіны. Гэта дзеці Твае, Госпадзі! А яны між сабою — заклятыя ворагі! Забівалі адзін аднаго за ўладу і славу смяротнага чалавека — гэтага ж, як і самі. Забівалі таксама тых, што станавіліся выпадковымі, ні ў чым не вінаватымі, сведкамі іхніх жорсткіх гульняў... Чаму, Госпадзі?" — пыталася я. Але Гасподзь маўчаў. А ці, можа, я не чула Яго. Таму пыталася зноў. І малілася за ўсіх тых, якія і самі за сябе не моляцца альбо просяць у Бога не таго. І плакала па тых, у якіх няма нікога, каб з-за іх плакаў.

*Пераклад з сербскай Івана Чароты*

# Сустракайце: Вясна!



**Сёння ўвечары ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі распачынаецца традыцыйны музычны фэст "Мінская вясна". Штогод гэтае свята класічнай музыкі збірае выканаўцаў з розных краін. І заўсёды падчас яго адбываецца нешта новае: нездарма ж вясна — час абнаўлення і адкрыццяў. Чым жа будзе вабіць і здзіўляць публіку "Мінская вясна-2011"?**

Надзея ЛУК'ЯНЦАВА

Увесь свет адзначае сёлета 200-годдзе вялікага кампазітара-наватара эпохі рамантызму, непараўнальнага піяніста-віртуоза Феранца Ліста, выкананне твораў якога з'яўляецца паказчыкам найвышэйшага прафесіяналізму. З нагоды юбілею геніяльнага музыканта афіша "Мінскай вясны" прэзентуе прысвечаны яму цыкл канцэртаў. І праграму першага з іх, які адбудзецца сёння, 8 красавіка, складаюць знакавыя творы Ф. Ліста: Канцэрт № 2 Ля мажор для фартэпіяна з аркестрам, "Танец смерці. Парафраза на Dies irae" для фартэпіяна з аркестрам, а таксама сімфанічная сюіта М. Рымскага-Корсакава "Шахеразада". За дырыжорскім пультам Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі сёння выступіць Андрэй Галанаў. Салісты — госць з Расіі, лаўрэат шматлікіх міжнародных конкурсаў піяніст Сяргей Каспраў і зорка нашага аркестра, скрыпачка Юлія Стэфановіч.

Канцэрты "Мінскай вясны" будуць адбывацца ў Вялікай зале БДФ па 28 красавіка. Музыканты з васьмі краін пакажуць сваё майстэрства, выконваючы творы вялікіх кампазітараў. Звяртаю ўвагу чытачоў на тое, што наступны тыдзень парадуе нас ігрой фартэпіянных дуэтаў, якая за апошняе дзесяцігоддзе набыла неверагодную папулярнасць. Калі творы выконваюцца ў чатыры рукі, дык музыка робіцца асаблівa свежай і яскравай. Упершыню ў Беларусі такія канцэрты ладзіліся ў 2008 і выклікалі вялікую цікавасць у публікі. Таму і падчас сёлетняй "Мінскай вясны» з 16 па 19 красавіка пройдуць міжнародныя музычныя вечары фартэпіянных дуэтаў «Duettissimo-2011». Ізноў аматары музыкі змогуць нацешыцца віртуозным выкананнем твораў Феранца Ліста. Цікава, што ў Вене, дзе вучыўся Ф.Ліст, яго настаўнікам па фартэпіяна быў знакаміты педагог і кампазітар Карл Чэрні, які бясплатна займаўся з таленавітым пачаткоўцам на працягу амаль двух гадоў. Таму прысутнасць у праграме музыкі К. Чэрні невыпадковая. Прытым, упершыню ў Беларусі прагучыць яго Канцэрт До мажор для фартэпіяна ў чатыры рукі з аркестрам. Салісты — Наталля Котава і Валерый Баравікоў, вядомы беларускі дуэт, які і стаў ініцыятарамі правядзення «Duettissimo-2011». Дарэчы, у праграме гэтых міжнародных музычных сустрэч — і канцэрт "Ліст-гала" (з транскрыпцыямі для двух фартэпіяна ў чатыры і восем рук), і "Вечар прэм'ер": фартэпіянныя дуэты Канады, Літвы, Беларусі і Малдовы прадставяць публіцы творы найвядомых кампазітараў XX стагоддзя А. Копленда, В. Бабіна, а таксама творы нашых сучаснікаў Дж. Крама, М. Бэйкера, В. Воранава. Апроч прэм'ер прагучыць музыка, якую выканаўцы рэдка ўключаюць у свой рэпертуар, а таксама невядомыя транскрыпцыі папулярных твораў.

А завершыцца "Duettissimo-2011" вечарам трайных канцэртаў: усе ўдзельнікі міжнародных музычных вечароў фартэпіянных дуэтаў, аб'яднаўшыдзе пачуць творы Ё. С. Баха, В. А. Моцарта і Р. Казадзезюса.



Наведае "Мінскую вясну" і адзін з лепшых выканаўцаў-інтэрпрэтатараў музыкі Ф. Ліста нямецкі піяніст Барыс Блох. Яго вялікі ўнёсак у развіццё міжнароднай Лісціяны адзначаны залатым медалём Міжнароднага Лістаўскага таварыства ў Вене. У праграме нашага госця апроч твораў Ф. Ліста прадстаўлены опусы Д. Скарлаці ды Л. ван Бетховена.

Між іншым, дзякуючы менавіта Ф. Лісту ў музычную свядомасць Еўропы ў XIX стагоддзі ўпершыню ўвайшла Венгрыя. І сёння яго ўнікальныя "Венгерскія рапсодыі" можна пачуць не толькі ў арыгінале, але і ў нечаканых інтэрпрэтацыях. І 26 красавіка знаўцы класічнай музыкі змогуць спрычыніцца да арганнай версіі славутай лістаўскай "Даліны Абермана". Гэта аўтарская транскрыпцыя Ягонеса Геферта, вядомага нашай публіцы арганіста з Германіі, які сыграе ў Мінску таксама іншыя творы, у тым ліку "Прэлюдыю і фугу на тэму BACH" Ф. Ліста. А закрыццё сёлетняга красавіцкага фестывалю падорыць нам сустрэчу з, бадай, самай папулярнай з 19-ці лістаўскіх рапсодый — "Венгерскай рапсодыяй № 2" у выкананні Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Аляксандра Анісімава.

Вось такое, у агульных рысах, аблічча сёлетняй, ужо 27-й "Мінскай вясны". Падчас нядаўняй прэс-канферэнцыі мастацкі кіраўнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі Юрый Гільдзюк назваў гэтае свята ўнікальным фестывалем, якому няма аналагаў у Беларусі. Сапраўды, унікальныя красавіцкія канцэрты штогод прываблівають не толькі беларускіх меламанаў, але і знаўцаў з краін блізкага замежжа, якія прыязджаюць на спатканне з вялікім музычным мастацтвам.

***На здымках: першая скрыпка Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, дыпламант міжнароднага конкурсу Юлія Стэфановіч; папулярны беларускі фартэпіянны дуэт Наталля Котава — Валерый Баравікоў.***

# Гучала «Пастараль» у Шанхаі

Лявон ЦЕЛЕШ

**Народны ансамбль старадаўняй беларускай музыкі "Пастараль" быў створаны ў 1994 годзе. У яго склад увайшлі выкладчыкі музыкі Дзяржынскай дзіцячай школы мастацтваў (дырэктар школы Анатоль Гірэль). У тым жа годзе ансамбль атрымаў ганаровае званне "народны". За 16 гадоў свайго існавання калектыў таленавітых музыкаў, нязменным кіраўніком якога з'яўляецца Ірына Лук'янава, набыў папулярнасць як у Беларусі, так і за яе межамі. З поспехам артысты выступілі ў Кітаі, дзе прадстаўлялі мастацтва Беларусі на Міжнароднай выстаўцы "ЭКСПО-2010", у Шанхаі.**

Нядаўна давялося пагутарыць з артысткай ансамбля "Пастараль", скрыпачкай Маргарытай Мартынюк. Дарэчы, яна — гаспадыня творчай сям'і, жонка вядомага майстра па вырабе драўляных гадзіннікаў і музычных інструментаў Андрэя Мартынюка. Мой візіт да Мартынюкоў супаў з незвычайнай падзеяй: у адным з пакояў іх дома дакументалісты Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм" здымалі стужку пра Андрэя Мартынюка і яго сям'ю. А літаральна праз два дні да іх наведаліся "тэлевізійшчыкі". Паважаная Маргарыта Станіславаўна ўсё ж знайшла некалькі хвілін, каб расказаць пра свае ўражанні ад паездкі ў Кітай.

Перш за ўсё яе ўразіў Шанхай, гэты гіганцкі мегаполіс з насельніцтвам каля 20 мільёнаў жыхароў, з яго суперсучаснымі хмарачосамі (вышыня будынка шанхайскага Міжнароднага фінансавага цэнтра дасягае 500 метраў). Па вечарах увесь горад, размешчаны на рацэ, расквечаны агнямі. У горадзе шмат замежных турыстаў. Але найбольшае ўражанне на Маргарыту Мартынюк зрабіла гасціннасць жыхароў гэтай краіны. Кітайцы — вельмі добразычлівыя гледачы, падзячныя шчырыя, кожны нумар канцэрта "Пастаралі" яны сустракалі з добрымі ўсмешкамі на тварах і ўзнагароджвалі бурнымі апладысментамі. Канцэрты ансамбля, праведзеныя на высокім прафесійным узроўні, паланілі сэрцы кітайскіх гледачоў. А дзеля гэтага давялося праправацаваць нашым музыкантам нямала. Пры 40-градуснай спякоце яны на працягу двух тыдняў давалі штодня па два канцэрты, кожны працягласцю цэлую гадзіну. У вольны час наведалі каля 30 павільёнаў розных краін, з прыемнасцю агледзелі павільён нашай краіны; пабачылі таксама Нацыянальны музей Кітая, Храм нефрытавага Буды і многія іншыя адметнасці горада.

Вядома, што акрамя "Пастаралі" нашу краіну на выстаўцы ў Шанхаі прадстаўлялі многія іншыя народныя аматарскія мастацкія калектывы з розных рэгіёнаў Беларусі.

Музыканты "Пастаралі" вельмі ўдзячныя Міністэрству культуры Беларусі, упраўленню культуры Мінскага гарвыканкама, Дзяржынскаму райвыканкаму, якія вылучылі іх у гэтую цікавую творчую камандзіроўку, успаміны пра якую застануцца на ўсё жыццё.

## ART-пацеркі

Лана ІВАНОВА, фота Віктара Кавалёва

Сёння ў Беларускім рэспубліканскім ТЮГу — падзея: 55 гадоў таму, 8 красавіка 1956-га, адбылося яго ўрачыстае адкрыццё. Але на добры лад гэты тэатр мог бы адзначаць сёлета сваё 80-годдзе, бо яшчэ да вайны, з 1931 г., у Мінску працаваў Тэатр юнага гледача БССР імя Н. К. Крупскай, арганізаваны яго першым мастацкім кіраўніком Мікалаем Кавязіным. Перыпетыі гісторыі трагічна адбіліся на лёсе творчага калектыву. І легендарная Любоў Мазалеўская стварала ўжо свой тэатр, абапіраючыся на новую генерацыю акцёраў і на самабытную творчасць маладых беларускіх драматургаў. Апошнім часам ТЮГ ладзіць свае спектаклі ў Доме літаратара: уласны дом тэатра — больш як два гады на рэканструкцыі. Мабыць, з абнаўленнем будынка абновіцца і погляд на гісторыю ТЮГа — аднаго са старэйшых сцэнічных калектываў Беларусі?

Убліжэйшы панядзелак Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр парадуе публіку прыгожай імпрэзай: "Барытоны Беларусі пяюць пра каханне". Аўтар праекта — мастацкі кіраўнік тэатра Адам Мурзіч — сабраў у гэтым канцэрце 10 лепшых галасоў краіны, у тым ліку і сваіх колішніх вучняў: салістаў БДАМТ і Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Разам з аркестрам пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора музычнага тэатра Алега Лесуна яны выканаюць папулярныя арыі з опер і аперэт. Прагучаць фрагменты з твораў Моцарта, Расіні, Чайкоўскага, Штраўса, Кальмана...

Да 100-годдзя Касцёла св. Сымона і св. Алены ў Мінску (Чырвонага касцёла) была падрыхтавана праграма канцэрта "Сімфонія-малітва", які адбудзецца ў гэтым храме. Праект ажыццёўлены пры ўдзеле Польскага інстытута ў Мінску, Асацыяцыі маладых беларускіх кампазітараў Беларускага саюза музычных дзеячаў, Саюза кампазітараў Польшчы, Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Незвычайная імпрэза — плён аб'яднаных на-



маганняў маладых кампазітараў з Польшчы і Беларусі, якія напісалі новыя творы спецыяльна да юбілею касцёла. У выкананні праграмы (складзенай з чатырох інструментальных частак, напісаных польскімі кампазітарамі, і чатырох частак для хору і аргана, напісаных іх беларускімі калегамі на тэксты хрысціянскага зместу) удзельнічалі камерны аркестр Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі "Gradus ad Parnassum" ("Прыступка да Парнаса") пад кіраўніцтвам Пятра Вандзілоўскага, вакальны ансамбль Касцёла св. Сымона і св. Алены, вакальны квартэт ды арганістка Вольга Падгайская .

***На здымку: стогадовы мінскі юбіляр — Касцёл св. Сымона і св. Алены.***

*У сваёй навуковай дзейнасці кандыдат мастацтвазнаўства Людміла Налівайка засяроджвае асаблівую ўвагу на гісторыі развіцця беларускага выяўленчага мастацтва ў 1920—1930-я гады. Даследуючы гэты складаны, яскравы і трагічны, “забыты” на доўгі час перыяд развіцця айчыннай культуры, яна два дзясяткі гадоў таму адкрыла для сучаснікаў унікальную постаць беларуска-фінска-шведскага мастака і філосафа Аляксандра Ахола-Вало (1900—1997). Сабраўшы багаты матэрыял па гісторыі нашай графікі, даследчыца абагульняе і асэнсоўвае яго ў сваіх чарговых публікацыях. Цяпер Л. Налівайка рыхтуе навуковы даклад для “Аладаўскіх чытанняў”, якія адбудуцца ў маі ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. А сёння прапануе ўвазе чытачоў “ЛіМа” артыкул пра лёс выбітнага беларускага мастака Генадзя Змудзінскага.*

**Святлана Берасцень, рэдактар аддзела мастацтваў**

# Лёс Генадзя Змудзінскага

**Узгадаваны ў рускім асяроддзі (нарадзіўся ў 1897 г. у Пецярбургу), Генадзь Яўгенавіч Змудзінскі ўвайшоў у першыя шэрагі рупліўцаў адраджэння беларускага мастацтва і літаратуры. Жыццё гэтай яркай асобы не ўкладаецца ў звыклыя ўяўленні пра шлях творцы. Летуценнік, эксперыментатар, грамадскі дзеяч, бясстрашны ваяр... У 1938-м у Мінску Генадзя Змудзінскага расстралялі як “польскага шпіёна”...**

Людміла НАЛІВАЙКА

**У Мінску ён з’явіўся ў 1921 годзе** і адразу стаў “сваім” у асяроддзі тутэйшых творцаў. Перад ім адкрыўся шлях ва ўсе творчыя суполкі і групы: аддзяленне РОСТА, Беларускае дзяржаўнае выдавецтва, Усебеларускае аб’яднанне мастакоў, таварыства бібліяфілаў, творчае аб’яднанне “Прамень”, вайсковыя друкарні. Ён спрабаваў сінтэзаваць розныя мастацкія стылі і эксперыментаваць...

З 1914 года Змудзінскі ўваходзіў у РКП(б), у 21-м быў выключаны за царкоўны шлюб. Доўгія гады не было вядома, як жа скончыўся яго жыццёвы шлях, што здарылася ў тыя праклятыя 1930-я, калі ў засценках КДБ вырашаліся лёсы такіх вядомых беларускіх мастакоў, як Яфім Мінін, браты Яўген і Хрыстафор Даркевічы, калі ў Маскве распраўляліся з Іванам Гаўрысам і Раманам Семашкевічам. Ніводнае з выданняў пра графіку 1920-х не давала дакладных дадзеных пра даты жыцця і смерці. І толькі ў наш час, калі адкрыліся архівы КДБ, удалося выявіць канкрэтныя звесткі. Прапаную ў перакладзе на беларускую мову выняткі з дакументаў, знойдзеныя мною ў архіве КДБ.

З пратакола допыту Г. Змудзінскага вынікае яго біяграфія. “Бацька выхоўваўся пры вайсковых вучылішчах, служыў музыкам пры б. Паўлаўскім ваенным вучылішчы, маці — швачка. Абое памерлі ад сухотаў у 1901 годзе. Да 7 год знаходзіўся ў прытулку ў Пецярбургу. З 7 год выхоўваўся ў доме свайго сваяка (мужа цёткі) мастака-архітэктара І. В. Сімакова... Потым мяне ўладкавалі на вучобу ў рэальнае вучылішча... У 1914, пасля заканчэння шасці класаў вучылішча без экзаменаў быў пераведзены ў Акадэмію мастацтваў па класе ваеннай баталіі. Але скончыць Акадэмію не змог з прычыны пачатку вайны (з 4 класа знаходзіўся на стыпендыі “Сірот” і кожны год вучобы мусіў адбываць вайсковую службу (1,2 года). Мяне накіравалі ў пачатку 1915 года з Акадэміі “вольноопределяющимся” ў трэці запасны полк ў Чырвонае Сяло. Там праслужыў два месяцы, пасля чаго накіравалі ў Пецяргофскую школу прапаршчыкаў (скончыў 15 лістапада 1915 года). Быў адпраўлены на фронт — Рыжскі ўчастак, адкуль атрымаў прызначэнне ў 51 Сібірскі полк малодшым афіцэрам. З 1915 па 1917 гады знаходзіўся на фронце. У 1916 годзе быў арыштаваны генералам Курапаткіным за распаўсюджванне рэвалюцыйнай літаратуры ў часцях 51 Сібірскага палка. Я меў даручэнне ад сацыял-дэмакратычнай партыі левай плыні латышскай арганізацыі распаўсюджваць літаратуру. Але з-за недаказанасці быў вызвалены і кінуты ў наступленне <...> са сваім батальёнам, які падчас маёй адсутнасці быў адведзены ў дывізійны рэзерв. Пасля 8-дзённых баёў полк быў перакінуты на Аўстрыйскі фронт перад наступленнем (18.06) Керанскага на Бжэзаны. За адмову ісці ў наступленне полк быў раззброены і адвезены ў Цярнопаль. Раззбройваў нас Савінкаў. Да самага апошняга моманту наш полк, увогуле ўся наша 13 Сібірская страявая дывізія была цалкам на баку бальшавікоў і выконвала загады з боку Крыленкі. Калі былі праведзены выбары, мяне абралі камандзірам палка і даручылі камандаванне ім. Пасля дэмабілізацыі з царскай арміі я вярнуўся ў Петраград і звярнуўся да Урыцкага, які даў мне прызначэнне інструктарам стралковай справы ўсіх фабрык і заводаў Ленінграда. У хуткім часе я быў выпраўлены за мяжу ў Ямбург, дзе камандаваў 2-й ротай Нарвскага Камуністычнага палка. У 1918 годзе кіраваў камандаваннем пры ліквідацыі мяцяжу, арганізаванага Бебутавым, якога даставіў у Ямбург пры наступленні Балаховіча на Петраград. Адбіўшы пры дапамозе петраградскіх курсантаў і маракоў наступленне Балаховіча, я з часткай палка, якая засталася, быў адпраўлены ў Гатчыну для фарміравання. Пасля сфарміравання палка штыхі былі ўліты ў часці другой дывізіі, а мне было дадзена прызначэнне выправіцца на Архангельскі фронт з другой ротай. На Архангельскім фронце прабыў у баях на Тарасаўскім напрамку. Тут я захварэў і быў эвакуіраваны ў Петраград у шпіталь з дыягназам “ТВС”. Праляжаў 1 месяц, пасля выздараўлення быў прызначаны Губваенкамітэтам ваенруком Ямбургскага ваенкамата. Пасля нашага адступлення з Ямбурга ў Гатчыну Губваенкамат прызначыў мяне ваенруком Гатчынскага Райваенкамата, дзе я прабыў нядоўгі час, да моманту прыбыцця маёй часці з Архангельскага фронта для ўдару і наступлення на Ямбург. Тут я па сваім жаданні перайшоў у сваю часць, з якой і наступаў, камандуючы 1-м батальёнам 14 Нарвскага Камуністычнага палка. У гэтым баі пры ўзяцці Ямбурга я атрымаў дзве ўзнагароды — залаты ручны гадзіннік з брыльянтамі ад Петраградскага Савета рабочых дэпутатаў і другі — кішэнны, ад ВЦІК з подпісам — “Чэснаму воіну Чырвонай Арміі”. Маю ўзнагароды ад царскай арміі: Ганны 4 ступені, Ганны 3 ступені, Станіслава 3 ступені, Станіслава 2 ступені і наградную залатую зброю. Застаючыся ў перадавых часцях, я ў далейшым знаходжуся ў баях Пскоўскага ўчастка, затым нас перакідаюць на “польскі фронт” для наступлення, дзе таксама знаходжуся ў перадавых часцях на пасадзе начальніка разведаддзела штаббрыгады 5 і 6 паслядоўна 2-й страявой дывізіі, цяпер Беларускай дывізіі. З 1921 г. знаходжуся ў Беларусі. Працую ў Дзяржвыдзе ў рэдакцыі газет і часопісаў, як мастак-ілюстратар па афармленні савецкіх падручнікаў. Пасля дэмабілізацыі з царскай арміі (снежань 17) да 1922 служыў у Чырвонай арміі, у 1922 працаваў чарцёжнікам Наркамзема БССР, з 1923 — па дзень арышту на прыватных работах мастаком. Працаваў у ваенным аддзеле Дзяржвыда мастаком-чарцёжнікам па афармленні ваенных кніг, якія не былі ў вольным продажы. Цяпер хачу выехаць у Ленінград, уладкавацца на працу па сваёй спецыяльнасці — мастак. Меў тут, у Мінску свой дом, куплены мною ў 1928 годзе. У 1931г. я яго прадаў...”



А вось пад рубрыкай “Аднoўленая справа” захоўваюцца матэрыялы “праверкі па Змудзінскага Г. Я.(1897 — 1938) пры рэвізіі 1957 г.”. У адказ на зварот яго жонкі Варвары Пятроўны наконт лёсу мужа ёй спачатку паведамілі, што той памёр 3.04.1942 ад стэнакарды. Але далей — спасылка на артыкул пад № 68 Крымінальнага кодэкса БССР: “Асуджаны асобай Тройкай НКУС 20.09.1938 г. Абвінавачаны ў тым, што з’яўляўся агентам польскай разведкі і ўдзельнікам шпіёнска-паўстанцкай арганізацыі, створанай разведвальнымі органамі Польшчы ў Мінску. Завербаваны ў 1929 г. адвакатам Жылінскім Фамой Фамічом (арыштаваны). Сістэматычна праз яго перадаваў польскай разведцы шпіёнскія звесткі пра размяшчэнне, колькасць і ўзбраенне 2-й Беларускай стралковай дывізіі, пра апошнія дасягненні ў ваеннай тэхніцы і звесткі пра вышэйшыя гаспадарчыя курсы ў Смаленску.” І далей: “У ходзе следства па справах людзей, якія давалі паказанні супраць Змудзінскага, прымяняліся садысцкія метады, усе абвінавачванні не абгрунтаваныя. Рэабілітаваны 29.10.1957.”



**У гісторыю беларускай графікі** Г. Змудзінскі ўвайшоў як заснавальнік шмат якіх жанраў і відаў: агітацыйны плакат, адміністрацыйныя карты, узоры царскага і чырвонаармейскага адзення (вылучаўся дасканалым веданнем і майстэрскім маляваннем вайсковага адзення, розных відаў зброі), батальны і анімалістычны жанры. Ён — аўтар альбома замалёвак “Па дарогах вайны”, прысвечаных падзеям Першай імперыялістычнай. У НММ Беларусі захоўваецца альбом з гэтымі малюнкамі (туш, акварэль), выкананымі ў 1916 г. падчас службы ў царскай арміі. У музеі ёсць і сяброўскі шарж, выкананы ў 1926 г. графікам М.Малевічам, які перадаў сваю сімпатыю да мастака-летуценніка, жартаўніка, які заўсёды трымаў за вухам пэндзаль, што прыкрываў палі моднага капелюша. Дарэчы, сам Змудзінскі выдатна валодаў жанрам сатыры і гумару.

1920-я гады — час адраджэння шэрага культурных і мастацкіх традыцый, што яскрава адлюстравалася ў этнаграфічным стылі. Вельмі слушна пісаў пра гэта В. Ластоўскі: “Прымітыўны этнаграфізм, які так нядаўна прыймаўся за праяўленне народнасці, пачынае ўжо ператраўляцца ў інтэлектуальных глыбінях і набіраць больш сур’ёзны змест шуканьняў канону беларускага тыпу і пейзажу, наданьня пралетарскага зьместу мастацкай творчасці” (“Сучаснае беларускае мастацтва”. Мн., 1929). Для такіх беларускіх графікаў і жывапісцаў, як А. Тычына, А. Ахола-Вало, Я. Мінін, П. Гуткоўскі, С. Юдовін, краязнаўства рабілася падставай для пошукаў своеадметнага, спакроўленага з тым народам, сярод якога яны жылі і працавалі. У Г. Змудзінскага яшчэ жыва адчуваліся ўрокі настаўнікаў петраградскай школы. Але і ён ўжо вядзе пошук новай беларускай сімволікі, хаця і ў межах добра асвоенага стылю “мирискусников”.

Дамінаванне дэкаратыўнасці побач з рэалістычнымі выявамі, выкарыстанне новых тэхнічных магчымасцей — вось што характарызавала стыль Змудзінскага-графіка. Два эскізы Дзяржаўнага герба БССР (знаходзяцца ў калекцыі НММ Беларусі) былі прадстаўленыя на рэспубліканскім конкурсе 1924 года (рэпрадукцыя друкавалася ў “ЛіМе” 3. 12. 2010 да адной з нашых публікацый. — **Рэд.**). Сярод іншых яго твораў у жанры эмблематыкі — марка Беларускага дзяржаўнага выдавецтва (1923), эскіз ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга і граматы да ордэна (1924)... Асаблівы ўнёсак зрабіў мастак у распрацоўку шрыфту для беларускага буквара А. Федасеенкі “Лемантар” 1925 года. Гэта быў першы беларускі буквар, дзе спалучэнне літар і малюнка стварала цэласны мастацкі вобраз. Для кожнай літары Г. Змудзінскім знойдзены свой мастацкі вобраз: птушкі, людзі, пейзаж і г.д. Сярод тагачасных беларускіх выданняў таксама “Досвіткі” і ”Ціхія песні” М. Гарэцкага, “Пад сонцам” М. Зарэцкага, “Людзі-суседзі” К. Крапівы, “Збор твораў” і “У глыбі Палесся” Якуба Коласа, “Трэскі на хвалях”, “Сокі цаліны”, “Прысады” Ц. Гартнага, “Лясныя хаткі” і “Салавей” З. Бядулі, “Гісторыя аднаго мядзведзя” Л. Чарняўскай, “Палескія рабінзоны” Я. Маўра, “Творы 1918-1928” Янкі Купалы, “Вераснёвыя ночы” К.Чорнага,“Песня-байка”А.Александровіча, “Выбраныя творы” М. Лынькова ды іншыя, да якіх мастак афармляў вокладкі і маляваў ілюстрацыі, спалучаючы туш, акварэль, аловак.

***На здымках: Генадзь Змудзінскі (сяброўскі шарж Мікалая Малевіча) і яго ілюстрацыя для газеты “Звязда”.***

Жана ЛАШКЕВІЧ,
фота Яўгеніі Алефірэнкі

# М.@rt.КАНТРАСТы

## Нататкі з Міжнароднага маладзёжнага форуму «М.@rt. кантакт»

(Працяг. Пачатак у № 13)

### Кантраст другі: класічны

**Пры канцы казкі Андэрсена** за любоў і павагу адно да аднаго Муж з Жонкаю атрымліваюць куфар залатых талераў. Куфра, бадай, зашмат, але гледачу зацікаўленаму нейкі тэатральны талер заўжды выпадае. Такі сабе... наіўна-фантастычны альбо магічна-шчыры... Яго па тэлевізары не паказваюць. Затое па тэлевізары часам паказваюць людзей з Расіі, зрэдчас нават акцёраў, якія прыязджаюць да нас і як добрыя госці захапляюцца, маўляў, "у Мінску чыста", "у Беларусі чыста", "варта пераехаць вашу мяжу — і адразу чыста"!

Мікалай Каляда, выбіраючыся на фестываль у Магілёў, замовіў для свайго спектакля паводле М. Гогаля "РэвІзар" (менавіта так, з націскам на "і" — чынавенства ў спектаклі вучыцца вымаўляць літаратурна)... 120 літраў гразі. Не бруду — гразі, ды такой гразкай, што можна ўгразнуць... Ну, вы зразумелі.

Гразь выконвала ў спектаклі розныя ролі — ад святой роднай зямлі да камяка гранічнай знявагі й гвалту. У выніку яна рабілася магутным мастацкім (метафарычным) сродкам, таму што, паводле крытыка Марыны Дзмітрэўскай, "прыбраць расійскую гразь нельга". Натуральна, глядацкія меркаванні палярна разышліся. Адмысловага незадавальнення паспытаці тэатральных прыбіральшчыцы.

Водгукамі пра "Рэвізора" ў рэжысуры Мікалая Каляды поўніцца Інтэрнэт-прастора: яны самыя падрабязна аднаўляюць і сцэнічнае дзеянне. Таму да месца будзе збочыць ды згадаць, што Каляда ўжо названы "сонцам рускай драматургіі". Што менавіта Гогалеў "Рэвізор" класічна адпавядае запатрабаванням сучаснай драматургічнай школы, якую Мікалай Каляда стварыў, узгадаваў і, паводле слыннага расійскага крытыка Паўла Руднева, "на якой будзе трымацца расійскі рэпертуар у бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Яе законы складае сумесь амаль дзіцячае наіўнасці і шчырасці, якая неабавязкова ідзе ўслед за ёю, якая можа сыходзіць, а можа і не сыходзіць з сярэдзіны тэксту. Часта ў няспраўных п'есах Каляды, гэтак сама як і ў ягоных няспраўных спектаклях, абуджаецца вялікая магія, нешта фантастычнае". "...Свае пастаноўкі Каляда робіць з "фігні", жыццёвага бруду, аскепкаў цывілізацыі, тым самым даводзячы, амаль як казачнік, што чалавечы геній і тэатральная ўмоўнасць здатныя пераўтварыць жыццё вакол сябе..."



**"Мара пра шчасце** — вось "праўда чалавека" ад драматурга Мікалая Каляды." Якраз пра гэтае славутае шчасце і "Наташчына мара" Яраславы Пуліновіч, гадаванкі Калядовай драматургічнай школы.

...Пакуль збіраюцца гледачы, актрыса сядзіць на крэсле, апусціўшы галаву. Нібыта ўслухоўваецца ў настрой залы. Падымаецца раптоўна. Хавае рукі ў доўгія рукавы расцягнутага старога швэдара. Пачынае гаварыць. Збочвае. Збіваецца. Ізноў пачынае. Апраўдваецца. Гадзіну дзеяння не кранаецца з месца і толькі адзін раз агаляе рукі да локцяў. Дый гаворыць пра нейкія глупствы: была... хацела.. меркавала... скрала нейкую шпільку ў суседкі па пакоі... скочыла з трэцяга паверха... сустрэла хлопца...

На сцэнічнай пляцоўцы — узорная чысціня альбо вобразная пустэча.Толькі крэсла, якое заступае актрыса. На задніку мяняюцца выявы нібыта з дзявочага альбомчыка: сэрцайкі, стрэлы, малюнкі і фоткі, мары і летуценні... чаканне найважнага ў жыцці, якім часцей за ўсё бывае Ён, уяўны каханы. Выявы, тэксты і манеры выдаюць на кіч, сметнік, прымітыў... і ўвасабляюць мару пра шчасце дзеўчынёхі з дзіцячага дома. Страшна сказаць, — душу! І перадусім размова — пра яе, душу. І пра яе, нявыхаванасць. Душы й пачуццяў.

У Наташкі ёсць зграя таварышак. Ім па шаснаццаць гадоў. Па бальшыні сваёй іх яднаюць інстынкты. І раз'ядноўваюць інстынкты. Яны жывуць паводле няпісанага вычварнага кодэкса: якім заўгодна коштам пастанавіць на сваім, узяць верх, не даць слабіны. Сяброўка падбухторыла Наташку скочыць з акна (ідыёцкае падлеткавае спаборніцтва); журналіст Валера прыйшоў распытаць пра здарэнне, мяркуючы пра замах на самагубства; дзявочая мара пра каханне і аб'ект злучыліся. Ці не першы раз у жыцці Наташка мае магчымасць быць асаблівай, адрознай, інакшай... а ў хлопца ёсць дзяўчына. Дык трэба яе пазбыцца!

Спавядальнасць — адзін з трывалых законаў монаспектакля. Але... законы можна парушаць. Рэжысёр Лінас Зайкаўскас (Чалябінскі акадэмічны тэатр) змушае гледача ўзяць пад увагу тое, што выявіць следчы эксперымент, але не замахваецца на псіхалагічны дослед падставы для злачынства, не ставіць задачы актрысе Марыне Карцавай спавядацца ў ролі.

Наташка трымае свае апошнія словы, перш як выправіцца ў турму. Яна кажа шмат лішняга. Гаворыць пра тое, пра што ўяўныя суддзі і не падумалі б пытацца. Раптоўная шчырасць гераіні — аднachасова і пераляк, і боязь будучыні, і наіўнае здзіўленне з уласнага становішча. Яе шчырасць абуджана папраўкаю на адмысловую наструненасць залы, якая слухае, глядзіць і нешта сабе там думае, але ў выніку ўсё пра Наташку вырашыць, бо мае права... вырашальнага голасу. Таму што зала ў выніку — судовая. І ў выніку зале зразумела, што збіццё дзяўчыны і яе стан (кома) Наташку закранулі, але не скаланулі. Бо ў дзяўчыны гэтай ну ўсё ж было, нават бацькі, а ёй спатрэбіўся хлопец, якога Наташка абрала! Бо... справа ж зроблена, нічога назад не вернеш, і румзае толькі той, хто мала бачыў. У інтанацыях Наташкі ёсць скупая эмацыйнасць ветэрана пасля бою, які чапляецца за фармулёўку "збіццё паводле папярэдняе змовы" і намагаецца давесці, што гэта якраз — вы-пад-кова! Бо кожны... сам за сябе і сам па сабе... не хацеў скалечыць альбо забіць, хіба праўчыць...



У фінале прамень святла выхопліваў з цемры рукі з пярлінкамі... са зламанай крадзенай шпілечкі: сумесь амаль дзіцячае наіўнасці і шчырасці, няшчасная простасць, вартая жалю, нявыхаванасць пачуццяў... Пярлінкі слізгалі з далоняў (як шчасце) і рассыпаліся. Як жыццё. Як нябачны хор найноўшае трагедыі, асуджаны гібець разам з героем.

Але чалавек, паводле "Каляды-Тэатра", здатны змяніць жыццё вакол сябе. Але такое мастацтва, паводле Паўла Руднева, бясформеннае, нерэгулярнае, знарочыста няправільнае — якраз і гарантуе свабоду, у якой можа "нарадзіцца" сіла (а можа і не нарадзіцца, а толькі прымроіцца). У "Рэвізоры" яе ўвасабляе гразь. У "Наташчынай мары" — абсалютная чысціня сцэнічнай пляцоўкі і "чыстая дошка" асобы персанажа. Класік цвеліць душу сучасніка, а сучаснік, як той казачнік, абуджае вялікую магію, навучае фантастычнаму і стварае найноўшую класіку з любога смецця.

***На здымках: сцэны са спектакляў "Рэвізор" і "Наташчына мара".***

# Для маладых, апантаных сцэнай...

Жана ЛАШКЕВІЧ

**На Любаншчыне адбыўся абласны фестываль дзіцячай тэатральнай творчасці "Чароўны куфэрак". Адмысловы прыз РВУ "Літаратура і Мастацтва" атрымаў калектыў "Летуценнікі".**

Трыццаць пяць тэатраў хацелі зазірнуць сёлета ў "Чароўны куфэрак", але арганізатары палічылі цікавымі для гледачоў 10 драматычных і 4 лялечныя. Журы ў выніку вылучыла тры найлепшыя, кожны за сваё адметнае: любанскіх "Летуценнікаў" — за ансамблевасць выканання, "Залаты ключык", створаны Л. Родак у Мар'інай Горцы, — за высокі ўзровень акцёрскага майстэрства, "Паралель" з Баранавічаў пад кіраўніцтвам Л. Сартаковай — за ўдалы творчы эксперымент. Як з чароўнага куфэрка, журы раздавала падарункі і дыпломы. Адмысловы прыз РВУ "Літаратура і Мастацтва" атрымалі "Летуценнікі" з Любанскай дзіцячай школы мастацтваў і рэжысёр А. Каткавец: за выбар высакаякаснай літаратуры, інсцэніроўку і дасціпны пераклад — з рускай мовы на беларускую... і на мову сцэнічную таксама!

Музычную прыпавесць для сапраўдных падшыванцаў "Шчаслівыя бедакі" паводле Л. Уліцкай ігралі і спявалі... дванаццаць спраўных любанскіх падшыванцаў (навучэнцы тэатральнага аддзялення школы мастацтваў і найменшыя ўдзельнікі тэатра, гадкоў так па пяцьшэсць). А ўсёй тае гісторыі, як нейкая сям'я пераехала ў новае жытло, а на старым месцы пакінула рэчы нявартыя альбо непатрэбныя. Напрыклад, вазон з альясам Васем (Андрэй Лапцеў), якога звыкла клічуць сталетнікам. Альбо энцыклапедыю. Яе для Васі гартае вецер, і Вася робіцца разумным... У пакінутым доме з'яўляюцца новыя насельнікі — кот Міхеец (Ягор Гапонаў), верабей Антверпен (Ангеліна Марчанка), сараканожка Мар'я Сямёнаўна (Аляксандра Смольская) з плоймаю дзяцей... Кожны персанаж з мінулым і з будучыняй, пра якую развважае дасціпна, кранальна і вельмі шчыра. Не як кот, альяс альбо верабей, а як дзеці, якім давялося добра падумаць над сваім уласным жыццём з яго добрымі і нядобрымі праявамі ды сёе-тое асэнсаваць: такім чынам рэжысёрскія намаганні Алы Каткавец шчыльна зніталіся з намаганнямі педагагічнымі. Вынік захапляе.

Узначаліць журы быў запрошаны Уладзімір Савіцкі, мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача. Перадусім ён зважыў на прыстойны мастацкі ўзровень спектакляў і ўзроставыя асаблівасці выканаўцаў: на фестывалі ўзору 2011 года вялі рэй падлеткі і юнакі-старшакласнікі. (Так што "Летуценнікі" і "Залаты ключык" з іх амаль што дзіцячымі складамі выдавалі на выключэнне!) Іх вылучала нешараговая цікавасць да тэатра, а некаторых — захопленасць тэатральнымі прафесіямі. Таму ў якасці заахвочвання, на думку У. Савіцкага, вельмі б прыдаліся не так камп'ютары ды тэлевізары, як творчыя стажыроўкі, практыкі ды паездкі на адпаведныя фестывалі. Алег Табакоў стварыў у Маскве тэатральны каледж, дзе навучаюць прафесіі драматычнага акцёра з 12 гадоў. Галоўным прызам для маладога чалавека, апантанага тэатрам, магло б зрабіцца... месца для навучання ў такой установе, чаго ў Мінску, праўда, няма, але разам з фестывальным дыпломам прыдалася б, напрыклад, рэкамендацыя для паступлення ў беларускую творчую ВНУ.

...А спектаклі вымагалі ўхвалы. "Маладзільныя грушы" барысаўскага тэатра-студыі "Трыумф" (адметная пародыя на тэму рускіх народных казак у рэжысуры С. Сергіенкі), "Ціль" тэатра-студыі "Паралель" з Баранавічаў (трагікамедыя Р. Горына паводле Ш. дэ Кастэра), "Жаніхі" М. Гогаля тэатра-студыі ТэСТ" гімназіі № 10 з Маладзечна (рэжысёр Т. Бабей)... Прадстаўляючы тэатр у жартоўнай "візітоўцы", студыйцы вывелі самога Мікалая Васільевіча і на ягоную рэпліку пра камедыю, маўляў, "яна ж няскончаная!" абвясцілі: "Мы — скончылі!"

Адметны фінал гэтага спектакля міжволі атаясаміўся з фестывалем: у белых, нібыта вясельных ці выпускных строях, выйшлі ўсе паненкі, якія выконвалі жаночыя ролі. З імі — юнакі, нядаўнія гогалеўскія жаніхі... Колькі часу іх захоплена вітала фестывальная публіка. Выдае на тое, што вітала самую будучыню.

# Рэвалюцыйная эпоха: «Творца — недарэка?»

Алеся ЛАПІЦКАЯ

**Папярэдняе эсэ рубрыкі “Традыцыі і сучаснасць” было прысвечана тэме творчасці ў прозе Змітрака Бядулі, — бадай, адзінага беларускага пісьменніка, які закранаў гэтую тэму ў кожным сваім буйным творы. Пра спецыфічную сітуацыю ў мастацтве 20-х — пачатку 30-х гадоў XX ст. пішуць шмат, але мала хто дае слова героям тагачасных твораў, якія пры дапамозе даследчыка могуць выдатна распавесці пра мэты і амбіцыі сваіх стваральнікаў, праблемы творчага асяроддзя і тыповыя пісьменніцкія лёсы.**

Для літаратуры 20-х — 30-х гадоў XX ст. характэрны вобразы творцы-змагара, філосафа з народа, пісьменніка-ворага і адоранага юнака, чыё станаўленне адбываецца пад моцным уплывам сацыяльных праблем дарэвалюцыйнага часу. У згаданую класіфікацыю герояў-творцаў варта ўключыць вобраз паэта-недарэкі, з якім можна сутыкнуцца ў тагачасных творах самага рознага ўзроўню, ад рамана “Сцежкі-дарожкі” (1928 г.) Міхася Зарэцкага да апавядання “Мяцеліца” Максіма Лужаніна.

У “Сцежках-дарожках” апісаны перыяд ад лютаўскай да кастрычніцкай рэвалюцыі, месца дзеяння — горад Магілёў, дзе ў адпаведны перыяд вучыўся ў духоўнай семінарыі сам пісьменнік, і родная для галоўнага героя Васіля Лясніцкага вёска Зяленічы. Маючы за мэту паказаць, як пасродкам рэвалюцыі адбываецца пераарганізацыя грамадства, Зарэцкі робіць кожнага героя яркім прадстаўніком пэўнага тэмпераменту і сацыяльнага тыпу і для кожнага выводзіць дакладную, магчыма, надта прадказальную жыццёвую сцежку.

Адзін з найбольш адметных вобразаў рамана — сябар Лясніцкага Славін. Нягледзячы на тое, што М. Зарэцкі лічыцца пісьменнікам-рамантыкам, такія тыповa рамантычныя рысы, як узнёсласць, высакародства, бязмежная адданасць безуважнай каханцы робяць Славіна недарэчным і смешным. Значнай хібай Славіна дэкларуецца ягоная слабасць, якая практычна выяўляецца толькі ў тым, што юнак не становіцца на бок рэвалюцыі. Аднак, як ні дзіўна, найбольш раздражнне іншых герояў такая рыса сябра, як залішні інтэлектуалізм: “Не люблю такіх мудроных… Філосаф, бач, ты… казяўка разлезлая… Зусім не думай, а — бі, куды пападзе, дык больш сэнсу будзе,” — бурчыць “анархісты” Халіма. Затое менавіта ў вусны Славіна пісьменнік укладае найбольш уласных думак і даволі арыгінальных тэорый, тым часам як ключавыя маналогі іншых герояў практычна спісаныя з перадавіц бальшавіцкіх газет.

Сам Лясніцкі напачатку блізкі да Славіна вельмі супярэчлівым успрыманнем рэвалюцыі: “Нашто гэты агонь, гэты разбой, нашто тая кроў?.. <…> Мо гэта нічога не дасць, толькі разбудзіць дзікія інстынкты? Можа, гэта трэба неяк стрымліваць, шукаць іншых спосабаў, іншага шляху?” Лясніцкага супакойвае Андрэй — тыповы малады камуніст: “Усякія “высокія” катэгорыі ды нормы, усякія “агульначалавечыя” ідэалы, законы і іншае глупства <…> — гладка прымасленая зачоска, пад якой хаваецца гнойная брудзь спрадвечнай няпраўды”. “Знойдзем усё — і першапачаткі, і ісціны, і ўсялякае ліха, — дай нам акрыць, дай жыццё адваяваць… А цяпер — або станоўся ў шэраг, бяры аружжа, або прэч з дарогі, не замінай!..” Лясніцкі вырашае ўзяцца за “аружжа”, але чым больш ён мужнее і мацнее, тым слабейшым у мастацкім плане робіцца ягоны вобраз.

Пісьменнік уздымае праблему неспалучальнасці рэвалюцыі і гуманізму, інтэлектуалізму і праз вобраз Славіна канстатуе: унікліві, разважлівы чалавек, які імкнецца асэнсоўваць і ацэньваць падзеі перш, чым за штосьці брацца, — чужы для рэвалюцыі. Найлепшае, што ён можа зрабіць, — гэта саступіць шлях моцным, “зарабляць свой кавалак хлеба, летуцець і пісаць свае сентыментальныя вершы” (пра паэтычныя практыкаванні героя Зарэцкі згадвае неаднойчы). Натуральна, творцы такога кшталту рэвалюцыі таксама не патрэбны — між іншым, па словах Славіна, “мы, слабыя людзі, усе фантазёры вялікія, ваабражэнне нам замяніла і волю, і, калі хочаш, розум. Толькі слабыя людзі могуць быць мастакамі, бо мастацтва – гэта вышэйшая мяжа ілюзіі…”.


Малюнак Аксаны Ючкавіч

І вось слабыя саступілі месца моцным, тым, хто адкладае на потым “агульначалавечыя ідэалы”. Ліпень 1935 г., адзін з найталенавітых маладых узвышэнцаў Лукаш Калюга дапісвае ў Ірбіце на выгнанні раман “Пустадомкі”. Зазначым у дужках, што Ірбіт — хай сабе сярэднегадавая тэмпература ў Свярдлоўскай вобласці прыкладна -1˚С — гэта горад з цікавымі мясцовымі традыцыямі (знакаміты Ірбіцкі кірмаш) і ўтульнай архітэктурай, характэрнай для правінцыяльнага мястэчка канца XIX — пачатку XX ст. Таму творчы клімат у Ірбіце (ужо не кажучы пра Вятку — сучасны Кіраў, дзе жыў на вольным пасяленні Максім Гарэцкі) быў зусім не такі, як у лагеры.

Лукаш Калюга працягваў пісаць, браўся за новыя тэмы. Так, у рамане “Пустадомкі”, у недапрацаванай аповесці “Зоры вам вядомага горада” пісьменнік звяртаецца да жыцця мінскай творчай моладзі, прычым галоўны герой аповесці — ці не ўпершыню для беларускай літаратуры — малады таленавіты мастак, які малюе на мяхах ад солі і напачатку перакананы: усё роўна што пісаць — “ці бот, ці голае жаночае цела”.

“Зоры вам вядомага горада” маглі б стаць і першай беларускай аповесцю, дзе сацыяльнае абсалютна саступіла інтымнаму: з лістоў пісьменніка зразумела, што гісторыю свайго горкага кахання ён трансфармуе ў сюжэт твора. “Мастацтва — тое самае, што і адзінота, — гэта боль”. У нашым кантэксце цікава, што Лукаш Калюга зноў жа ўпершыню паказвае лёс дзяўчыны, якую вабіць творчасць: на жаль, гераіня ўсведамляе, “што з яе не выйдзе мастака, што яна — жанчына, каторай наследаваць, пераймаць у каханага кожную драбніцу”.

Адметны вобраз — сябар галоўнага героя мастак Вітка. Насуперак дзяржаўным патрабаванням да павелічэння тэмпаў вытворчасці Вітка “не любіць тых аўтараў, якія па смерці шмат пакінулі “збораў твораў”. Яны, бачыце, не ўмелі марудзіць. У іх, як ні прыглядайся, нічога больш, як тое, што ёсць на паверхні, не ўбачыш”. А адноўчы Вітка вывесіў у інтэрнаце плакат “Прывучайся над усім марудзіць” — “і прысталі да яго, каб сарваць, бо такі лозунг нідзе не зацвярджаны”. Пра тое ж вельмі лаканічна піша і Кузьма Чорны ў апавяданні “Справа Віктара Лукашэвіча”: “А чаму ж вы забыліся сказаць, на што я прапанаваў абярнуць тыя грошы, якія вы думаеце абярнуць на ўсялякую папяровую, лубачную дэкарацыю. Я прапанаваў заказаць на гэтыя грошы мастаку карціну для клубу. І так, каб ён пісаў яе не месяц, а гады два. <…> Або што-небудзь іншае гэткае, што б пасля святкавання не выкідаць вон як непатрэбную ўжо лубачную шушамець”.

Сучаснага чытача можа прывабіць найперш рэалістычнасць і дэталёвасць Калюгі: у тагачасным творчым свеце, гэтаксама як і сёння, баяцца размяркавання “не то ў Глуск, не то ў Вызну, не то ў Любань, а можа і ў самыя жахлівыя Лельчыцы”, гэтаксама стаіць на вакне пляшка, “у каторай на дне дужаватая такі “кропля” аставалася”, і дзяўчаты гэтаксама скардзяцца, што “сваякі — вялікая перашкода” для спатканняў, адначасна шукаючы больш выгадную партыю.

Да таго ж, у згаданых тэкстах багата прадуманых, шматзначных эпізодаў з творчага жыцця, лаканічных, але глыбокіх заўваг і характарыстык. У рамане “Пустадомкі” пісьменнік апавядае пра апошнія месяцы вольнага жыцця сям’і Данілы Невядомскага і яго сябра Арсеня Пакумейкі, якія толькі пачынаюць займацца літаратурай. Тут і першы паэтычны зборнік Пакумейкі, дзе “чым драбнейшая, дакладнейшая была паэтава інтымнасць, тым круглей прыгінаўся збоку чэрствым крукам Цытатавічаў чырвоны пытальнік”, і ягоная прамова-маніфест на літаратурнай вечарыне (“У добры час — сказаць, у ліхі — змоўчаць” – перасцерагае Калюга), і “вялікі пісьменнік”, чый “савіны смех прарочыў нейкую здраду”.

Асабліва цікавая прамова Пакумейкі, у якой выказваюцца творчыя прынцыпы шматлікіх тагачасных маладых пісьменнікаў (самому Калюгу яны абсалютна не імпанавалі): “за добрую, незаношаную рыфму роднага бацьку прадаць не толькі можна, але й патрэбна” (чытай — адмовіцца ад традыцыйнага), “плуг — не начынне паэта, які ў найзграбнейшых паставах трымаецца над кручаным вірам. Драць цаліну, да жыўца даходзіць — не ягоная работа. Яму трэба адно зверху гладзенька забаранаваць, каб грудкі пад нагамі не мулялі”. І ўсё добра было б, каб Пакумейка трымаў гэтыя прынцыпы пры сабе і пакрысе кіраваўся імі, а не выказваў шырокай аўдыторыі. Зрэшты, пасля таго, як “вялікі пісьменнік” здаў сваіх маладых сяброў, “разам з’ехаліся” і Арсень, і больш абачлівы Даніла, і “яшчэ шмат хто” — проста за тое, што пісалі хлопцы па-беларуску.

“Зоры вам вядомага горада” і “Пустадомкі” — адны з першых беларускіх празаічных твораў, прысвечаных гарадскому жыццю творчай моладзі. Праніклівасць, назіральнасць Лукаша Калюгі, ягоная ўвага да ўсяго жывога і каларытнага (нечакана падкрэсленая вобразам робата, якім апынуўся самаўпэўнены, спакойны, “прыгожы геаметрычным нейкім прыгаством” загадчык аддзела афармлення кнігі), дапамагла пісьменніку ўбачыць тэму, якая стала адной з галоўных у сучаснай беларускай літаратуры.

## Убачанае



## Пра смерць — жыццесцвярджальна

Ціхан Чарнякевіч

Інтэлектуалы любяць пагаварыць пра смерць. Не, не пра іх уласную, фізічную — пра смерць грамадскіх з’яў, пра іх гніенне і знікненне. Смерць палітыкі, смерць культуры, канец гісторыі, смерць аўтара, паміранне літаратуры… Бывае, не жадаючы ствараць метафару, абіраюць прыстаўку пост-, але сутнасць ад таго не зміняецца. Апошнім часам усё больш і больш гавораць пра смерць крытыкі, што і закранула. Ясная рэч, пакуль цябе не датычыцца, дык і не рэагуеш: ці мала што плявузгаюць. Але вось зайграла і маё самалюбства.

Як гэта разумець — атрымліваецца, памерлі крытыкі (і я таксама)? Гучыць нелагічна. Добра, адкаснёмся ад матэрыяльнага ў сферу эманацый: памерлі крытычныя тэксты? Глупства — хапае тэкстаў. Звужаем далей: у крытыкі памерла крытычнасць? Ды не сказаць каб зусім. Што ж тады памерла? — мы блукаем па лесе, чуючы пах.

Хутчэй за ўсё, памерла пэўнае ўяўленне пра крытыку.

Парадыгма старой крытыкі грунтавалася на герою. Як толькі герой выйшаў са сферы пільнае ўвагі, знікла і былая “вартаснасць” крытыкі. У савецкім літаратуразнаўстве герой быў, прабачце за навязлівую таўталогію, галоўным героем усіх крытычных кніг. Куды пайшоў Лабановіч і што ён там сабе надумаў — вось што займала крытычную рэфлексію. Услед за Лабановічам цягнуліся *роздумы над думкамі* Васілёў і Ганн, Петракоў і Сцепанід і г.д. Крытык, як баравіка, шукаў новага героя — знаходзіў. За знаходжанне прэміравалі, дарэчы, не грыбным супам, а нечым больш важкім і эквівалентным. Бо яны, Бялінскія, “адчувалі эпоху”, “пранікалі ў мастака”, “адказвалі на выклік часу” — карацей, “інжынерылі” не горш за пісьменнікаў.

Крытыка найноўшая перш за ўсё абвяшчае вайну літаралізму ў дачыненні да літаратуры. Але, агаліўшы меч, яна адразу вымушана задумацца падобна таму эмігранту ў Тэфі: “А ке фэр-та, фэр та ке?” Бо на аўтамаце шпарыць пра героя значна лягчэй, чым корпацца ў паэтыцы, а пасля нейкім чынам тое, што “нарыў”, папулярна і не сумна выказваць. Ды і не кожны палезе ў гушчар іманентнага аналізу. Сапраўды, навошта? Узяў і — *бервяном па галаве* — “лухта”, “мне твор не спадабаўся”, “аўтар не ўмее (не разумее, занадта вольна абыходзіцца)”, “суцэльная брыдота”, “назва няўдалая”. Гэх, вось гэта крытыка, якая вастрыня, моц, упэўненасць і самастойнае вольнае мысленне! Завідкі бяруць да тае пары, пакуль не ўцяміш, што і гэта таксама літаралізм, толькі іншага кшталту. Бо тут крытык прагне ўжо ўласна *крытыкаваць*, беручы на сябе абавязкі “кантралёра АТК”, перакананы ў тым, што сапраўдны крытычны артыкул — той, за які атрымліваеш па поўнай праграме. Цікава, што і некаторыя пісьменнікі ледзь не мазахістычна ўдзячныя нават такому крытыку, але мне гэта нагадвае братанне сляпога з глухім.

Не ў тым сэнс крытыкі, каб раскласці ўсё па паліцах: немагчымасць раскладання абумоўлена самім часам, з якога ні крытык, ні чытач, ні сам пісьменнік выйсці не здольныя. Здольны выйсці толькі сам твор; вось жа, гэта ён і робіць, але, бадай што, заслуга крытыка тут невялікая: ён проста заняўся тым, чым і павінен займацца — *распавядаць пра ўбачанае.* Ашчадны на словы, стомлены падарожжам, але і насычаны ўражаннямі ад доўгай і няпростай вандроўкі, ён гаворыць пра тое, што сустрэў на шляху: нейкія дэталі, часам дробныя і асабістыя — бо ішоў сваёй дарогай і заўважыў тое, што іншаму не трапілася. Так, справядліва кажуць, крытыка — рэч другасная, тэкст грунтуецца на чужым тэксце. Але нармальны крытык тым не менш працуе па правілах літаратуры — прасторы свабоды, дзе разганяюцца туманы закасцянелых уяўленняў і стэрэатыпаў — на карысць рэальнасці.

***Погляды калумністаў могуць не супадаць з меркаваннем рэдакцыі.***

Аляксандр РУНЕЦ,
фота Віктара Кавалёва

**Вядомы сучасны беларускі пейзажыст-лірык, прыхільнік класічнай рэалістычнай школы жывапісу, Ігар Бархаткоў — лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі ў галіне выяўленчага мастацтва. Той, хто хоць аднойчы меў магчымасць пазнаёміцца ў музеях ці на вернісажах з чароўнымі, гарманічнымі краявідамі гэтага майстра, пагодзіцца: сузіраць яго карціны прыроды заўсёды прыемна і лёгка. Яны дораць безліч станоўчых думак і эмоцый уважліваму гледачу і ўспрымаюцца нібыта не як рукачынны, штучны мастакоўскі выраб-артэфакт, а хутчэй — якімсьці цудадзейным вонкавым люстэркам неабсяжнага свету самой прыроды ў багетным абрамленні. Ілюзія адлюстравання навакольнай прасторы, святла, рэчаў, колеру і да т.п. у яго палотнах — узрушальная, абсалютная!**



# Нястомны рамантык-класіцыст

Распавядаць пра плённую творчасць Ігара Антонавіча ўсё ж складана з нагоды розных прычын. Да таго ж, як правіла, ён трывала знаходзіцца ў стане няспыннага эксперыментавання-пошуку, бадай цэлы год запар праводзіць на пленэрах, эцюдах. У Мінск наведваецца зрэдку і толькі па неадкладных справах. Жыве ў загараднай "сядзібе"-майстэрні і, што ні дзень, упарта працуе — назірае, разважае, піша з натуры (часта ў дуэце з жонкай Аленай, таксама таленавітай мастачкай, прызнаным майстрам шыкоўнага, колерамузычнага, так званага пленэрнага альбо ландшафтнага нацюрморта) усё новыя і новыя матывы ваколіц вёскі Харужы (непадалёк ад родных мясцін — мемарыяльнай сядзібы В. Дуніна-Марцінкевіча).

Сярод калег-сяброў Беларускага саюза мастакоў бытуе адносна Ігара Антонавіча такое выслоўе, што, маўляў, ён нарадзіўся ды сумленна, удала і віртуозна працуе не зусім "у свой час", — вось каб дзесьці раней, гадоў 50, а мо і больш, таму! Насамрэч, калі добра прыглядзецца, візуальна параўнаць яго творы з адпаведнымі музейнымі мастацкімі крыніцамі, можна заўважыць, што почырк-манера гэтага жывапісца-сучасніка вельмі блізкі да методыкі, спосабаў адлюстравання, асэнсавання-самавыказвання, тэхнічных прыёмаў знакамітых рускіх мастакоў канца XIX — пачатку XX стагоддзя, у прыватнасці, славутых "мирискусников", з іх "фірменным" канцэптуальным вынаходніцтвам-адкрыццём — жыццёва праўдзівага, імпрэсіяністычна-рэалістычнага эцюда-карціны "у адзін сеанс".

Арыгінальныя традыцыі класікі натуральна захаваліся ў сям'і Бархатковых (своеасаблівай суцэльнай творчай дынастыі), — генетычна, спадчынна; мастак яшчэ з дзяцінства літаральна жыве і дыхае ў асяроддзі ўсяго класічнага, што сталася пуцяводнай зоркай для яго.

З любоўю і цеплынёй, пяшчотай успамінае І. Бархаткоў сваю маці, Соф'ю Кузьмінічну, таленавітую аперэтачную спявачку і танцоўшчыцу з прыгожым голасам — высокім сапрана, якая паходзіла са старажытнага беларускага шляхетнага роду Бурчак-Абрамовічаў і ўсё жыццё прысвяціла ўсебаковаму выхаванню дзяцей і каханаму мужу. Яго бацька, Антон Стэфанавіч, былы партызан-разведчык, ветэран вайны — тыповы "старасвецкі" народны самарадак-інтэлігент (з сялян вёскі Шчыглоўка, што на Магілёўшчыне), скончыў Маскоўскі мастацкі інстытут імя Сурыкава. У гісторыі айчыннага выяўленчага мастацтва пакінуў адметны след як пранікнёны пейзажыст-паэт. І ён — адзіны, найлепшы, удзячны вучань легендарнага земляка — В. Бялыніцкага-Бірулі, які з'яўляўся шаноўным выхаванцам вялікага рускага мастака-пейзажыста І. Левітана!

Сёння, на думку Ігара Антонавіча, рэалістычны жывапіс у краінах СНД, тым больш — на Захадзе, закінуты, ім амаль ніхто сур'ёзна не займаецца, акрамя адносна задавальняючага выкладання спецыяльных дысцыплін у мастацкіх ВНУ. Іншымі словамі, толькі глыбока засвоеная класічная традыцыя, магчымасці якой бязмежныя, універсальныя, дазваляе людзям у любы час заставацца людзьмі, шчыра радавацца цёпламу, ласкаваму сонцу, з надзеяй глядзець у заўтрашні дзень, паўнавартасна жыць і развівацца, быць у суладдзі з наваколлем ды з самім сабой.

Маляваць Ігар распачаў "са спазненнем", у старшых класах сярэдняй школы, калі іншыя адораныя падлеткі-аднагодкі ўжо фактычна завяршылі паралельныя курсы папярэдняй падрыхтоўкі ў розных гуртках. А першы памятны яго ўласны "твор мастацтва", своеасаблівая спроба пяра — замалёўка заходу сонца на ўскрайку Мінска з драўляным хлеўчуком у лімонных танах, з'явіўся пад уплывам прачытанай кніжкі "Прага жыцця" Ірвінга Стоуна пра Ван Гога. Потым, мэтанакіравана наведваючы ў вольны час некалькі год запар лепшыя тагачасныя школы-студыі сталічных мастакоў-педагогаў В. Сумарава і А. Луцэвіча, апантаны юнак, хутка засвоіўшы неабходныя прафесійныя веды і навыкі, паступае на аддзяленне станковага жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Яго настаўнікамі-выхавацелямі былі прафесары П. Крохалеў і М. Данцыг.



Але ж Ігару Антонавічу з самага пачатку не трэба было працягла марнаваць час на пошукі ўласнай індывідуальнасці, арыгінальнасці абраных сюжэтаў ці тэм. Заўсёды самым галоўным кумірам ды слушным, патрабавальным сябрам-дарадцам ён лічыў свайго бацьку, разам з якім у юнацтве рэгулярна выязджаў у шматлікія вандроўкі-пленэры, у тым ліку — знакамітую "Акадэмічную дачу", Дом творчасці ад Саюза мастакоў СССР. І гэта каштоўнейшая для маладога мастака традыцыя зрабілася "абавязковай", не парывалася ўсё жыццё. А да тэатралізаваных, "высмактаных з пальца", ідэалагічна заангажаваных, скараспелых "эпахальных" кампазіцый пэўных жывапісцаў-старшакурснікаў Ігар адносіўся крытычна і не хаваў гэтага, што часам выклікала бурныя спрэчкі ў студэнцкіх колах.

Таму не дзіўна, што яго раннія, рамантычна-ўсхваляваныя, "музычныя" і разам з тым — моцна "збітыя", жыццёва-самадастатковыя творы, якія ў 1980 — 1982 гг. пачалі экспанавацца на рэспубліканскіх ды ўсесаюзных мастацкіх выстаўках, нязменна мелі станоўчы водгук у крытыкаў, карысталіся вялікім поспехам у наведвальнікаў-гледачоў.

Нельга не адзначыць аўтабіяграфічнай дыпломнай кампазіцыі І. Бархаткова, якая называлася "Бацька і сын", паўнавартаснага высокамастацкага сюжэтнага твора, галоўная задума-дэвіз якога — крэатыў, непарушальнасць традыцый — па-майстэрску раскрыты цалкам сродкамі глыбока-псіхалагічнага партрэта.

Дарэчы, у 1986 годзе, "як лепшы з лепшых" сярод маладых мастакоў ад Беларусі, ён быў накіраваны на стажыроўку (абмен аспірантамі) у Дрэздэнскую, потым Берлінскую акадэмію мастацтваў. І невядома, як бы склаўся лёс гэтага таленавітага айчыннага жывапісца, каб працягваў існаваць савецкі час. Але на тэрыторыі СССР пачалася перабудова. Вельмі многія беларускія творцы, якія засталіся тады без матэрыяльнай падтрымкі дзяржавы, ці спынілі наогул сваю актыўную дзейнасць, ці перакваліфікаваліся ў масававідовішчны "танны жанр"... Некаторы час вымушаны былі працаваць (бо патрэбна было неяк карміць сям'ю) на замежных прыватных калекцыянераў у Галандыі, Італіі, Аўстрыі і Ігар з Аленай... З Радзімай жа развітвацца яны ніколі не збіраліся!.. Перыядычна ладзіліся персанальныя вернісажы Бархатковых у Мінску, Вільнюсе, Мурманску, а таксама і ў Амстэрдаме, Рэйермондзе, Мілане. Разам з іншымі таленавітымі айчыннымі майстрамі-жывапісцамі яны годна прадстаўлялі незалежную Беларусь на пачэсных міжнародных мастацкіх салонах, у буйных еўрапейскіх музеях і галерэях. Сенсацыйны поспех выпаў на долю дынастыйнай групавой экспазіцыі жывапісу Бархатковых у італьянскім горадзе Арджыневі ў 2004 годзе, калі ўся класічная калекцыя "здзіўляльных" мастакоў з далёкай і невядомай Беларусі хутка "разышлася па руках"!.. І па магчымасці, вядома ж, Ігар з Аленай заўседы імкнуліся прымаць актыўны ўдзел ва ўсіх грамадска значных рэспубліканскіх мастацка-выставачных праектах.

У Ігара і Алены была адна даўняя, запаветная мара: усімі фібрамі душы яны цягнуліся быць бліжэй да роднай зямлі, у беларускую вёску (сакральны, абагульнены вобраз Маці-Радзімы для беларусаў)... Яны і прыдбалі потым гэты доўгачаканы, такі неабходны ім дамок на прыродзе, уласнымі магчымасцямі перабудавалі, абсталявалі жыццёвую прастору...

Мастак працягвае ўважлівае, самаадданае гісторыка-культурнае вывучэнне роднага краю, бо даражэй за Радзіму, як адчуваў ён у далекіх і блізкіх замежных падарожжах, нічога няма. Пейзажы "Капліца ў в. Падневічы", "Мая хата", "Вечар", "Лістапад", "Забыты крыж", "Пакінутая вёска", "Апошні снег", "Садзяць бульбу", "Радуніца", "Снапы" і многія іншыя нараджаліся хутка, у стане рэдкаснага душэўнага ды творчага ўздыму-натхнення, бы "лебядзіная" песня, і выклікалі фурор у мастакоўскім асяроддзі, сардэчную ўдзячнасць публікі, дзе б ні паказваліся.

Ігар з Аленай, пабудаваўшы майстэрню-прыстанак на вёсцы, жывуць у Харужах, дзе няспынна ўдасканальваюць уласнае майстэрства — уменне чула слухаць-выяўляць, апяваць першародныя рытмы, непаўторную прыгажосць сваёй зямлі, мілую сэрцу Бацькаўшчыну.

"Кожны год у маі, калі на нашым прысядзібным участку расцвітае бэз, мы з жонкай абавязкова яго пішам, — адзначае Ігар Антонавіч. — У нас расце шмат кустоў бэзу — вялікая калекцыя, адусюль. Бэз з сядзібы Бялыніцкага-Бірулі — памяць пра бацьку. (Нядаўна мы даведаліся, што гэты бэз быў прывезены Вітольду Каэтанавічу самім Левітанам!) Таксама ў нас расце бэз з недалёкай сядзібы Дуніна-Марцінкевіча. Навокал колішняга маёнтка апошняга — цягам каля двух стагоддзяў — разрасся цэлы лес старога бэзу! Мы прывозім яго да сябе бярэмямі, каб ставіць нацюрморты на пленэры".

Асноўная ж адметнасць твораў харужанскай нізкі мастака — у спадзявальна-бадзёрым, жыццесцвярджальным. Так многа ў вясковых краявідах — пераважна камерных пейзажах, нацюрмортах — сонца! Якая багатая гама празрыстых, паветраных, шчодралюбівых каляровых нюансаў-рэфлексаў!

Вялікага творчага дыяпазону і патэнцыялу майстар, непапраўны рамантык, па складзе філосаф і паэт "ад родных ніў", І. Бархаткоў (прозвішча яго асацыіруецца з някідкай, зграбнай, жыццяздольнай салярнай кветкай — аксамітнай) поўны новых цікавых задум і планаў!

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Пазітыўнасць разнастайнасці



**Беларускі саюз мастакоў штогод ладзіць Рэспубліканскую моладзевую выставу, якая ўяўляе сабой своеасаблівы зрэз сучаснага беларускага мастацтва. Яе правядзенне ўжо стала добрай традыцыяй у коле творчай моладзі. Як паказвае папярэдні досвед, гэты праект смела можна назваць важнай падзеяй у культурным жыцці краіны. Так, у Палацы мастацтва адбылося адкрыццё чарговай рэспубліканскай мастацкай выстаўкі "Маладзёжная-2011".**



Адкрываючы яе, першы намеснік старшыні БСМ Рыгор Сітніца быў вельмі ўражаны такой колькасцю людзей, якія прыйшлі на вернісаж. Ён зазначыў, што ўсе прысутныя — пазітыўныя людзі, бо толькі пазітыўныя людзі ходзяць глядзець на мастацтва, тым больш на моладзевае, ад якога мы чакаем шмат, але не заўсёды можам прычакаць таго, што хацелі б убачыць. Непахіснае сцвярджэнне ўсіх часоў і народаў — моладзь мусіць нас здзіўляць сваімі знаходкамі, сваім непадпарадкаваннем да нашых прынятых правілаў. Іншая справа, каб яна не загулялася ў гэтае непадпарадкаванне і вытрымала экзамен на прафесійную вартасць.

Таксама слова бралі адзін з экспазіцыянераў выстаўкі Васіль Зянько і выконваючы абавязкі старшыні маладзёжнай секцыі Беларускага саюза мастакоў Усевалад Швайба, які адзначыў, што было вельмі складаным зрабіць экспазіцыю з такіх розных па відах і жанрах работ. А яшчэ складаней было на конкурсным адборы работ, якіх прадставілі каля трохсот.

У экспазіцыі — жывапіс, партрэт, літаграфія, афорт, скульптура, лічбавая графіка, выбарнае ткацтва, кераміка, зварны метал. Сярод аўтараў — Ганна Старавойтава "Дзень зімой", Анастасія Лебядзінская "Па аксаміце нябёсаў", Ганна Сілівончык "Любоў і кроў", Дзмітрый Аганаў "Пастух", Міхаіл Крот "Ціхае змярканне", Глеб Герасімаў "Званок дадому", Людміла Арлоўская "Прадчуванне вясны", Аляксандр Сяліцкі "Партрэт Наташы"…

Асноўнай сёлетняй тэмай выстаўкі з'яўляецца вольная творчасць. Сабраныя ў адной экспазіцыйнай прасторы творы маладых аўтараў характарызуюцца адсутнасцю строгіх рамак і абмежаванняў у выбары тэмы, фармату, матэрыялу, тэхнікі, а таксама кампазіцыйнай, пластычнай, каларыстычнай і жанравай разнастайнасцю. У экспазіцыі дэманструюцца работы як традыцыйнага, так і канцэптуальнага мастацтва. Асаблівасцю праекта з'яўляецца і тое, што сярод яго ўдзельнікаў — члены моладзевай секцыі Беларускага саюза мастакоў да 35 гадоў і тыя, хто не ўваходзіць у склад творчай арганізацыі. Рэспубліканская моладзевая выстаўка — гэта добры старт для мастакоў-пачаткоўцаў. На ёй гледачы могуць азнаёміцца з новымі імёнамі маладых таленавітых мастакоў і іх арыгінальнымі творамі. Аўтары ў сваіх работах дэманструюць новыя пошукі самавыяўлення ў кантэксце актуальных працэсаў, што адбываюцца на сучасным этапе развіцця беларускага мастацтва. Дадзены праект з'яўляецца творчым спалучэннем як рэалістычных, так і наватарскіх, вольных ад стэрэатыпаў і клішэ твораў маладых мастакоў.

***На здымках:** Надзея Саяпіна-Гендрусева "Homo vates" з серыі "Дамінанты"; Павел Амялюсік "Шчучы хвост".*

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара





# Супольнасць здабыткаў і перспектыва

**Мастацкая суполка "Пагоня" аб'ядноўвае шматлікіх членаў Беларускага саюза мастакоў розных пакаленняў і напрамкаў творчасці: жывапісцаў, графікаў, скульптараў, тэкстыльшчыкаў, керамістаў і інш. Яна была ўтворана дваццаць гадоў таму ў знамянальны час абвяшчэння незалежнасці нашай краіны. З нагоды юбілею ў сталічным Палацы мастацтва адбылося адкрыццё выстаўкі "Пагоня-20".**



На адкрыцці экспазіцыі з дваццацігоддзем творчае аб'яднанне павіншавалі першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгор Сітніца, святар айцец Леанід Акаловіч, які прамовіў малітву за нашых дзеячаў мастацтва. Выступоўцы добрым словам узгадвалі ўсіх тых, хто стаяў ля вытокаў арганізацыі і каго ўжо няма сярод нас.

Старшыня мастацкай суполкі "Пагоня" Генадзь Драздоў адзначыў, што прамінулыя гады былі насычаны шматлікімі падзеямі, а дадзеная экспазіцыя з'яўляецца рэтраспектыўнай выстаўкай, паказам работ самых розных кірункаў выяўленчага мастацтва, якія былі створаны чыннікамі згуртавання за гады існавання гэтага аб'яднання. Ён прадставіў усім прысутным на выстаўцы новы мастацкі праект "Пагоні" — інсталяцыю "Беларуская піраміда", на якой кожны жадаючы мог пакінуць свае водгукі, прапановы і заўвагі мастакам.

Сярод галоўных творчых мэт сяброў суполкі — развіццё і сцвярджэнне нацыянальных каштоўнасцей у сучасным беларускім мастацтве. Ды і самі выстаўкі, якія ладзяцца час ад часу, базіруюцца на нацыянальнай ідэі: родная мова, гісторыя, літаратура, мастацтва, народная творчасць.

У экспазіцыі прадстаўленыя розныя віды і жанры мастацтва: партрэт, скульптура, нацюрморт, разьба па дрэве, пейзаж, тэматычная карціна, афорт, габелен, роспіс па тканіне, інсталяцыя, фатаграфія… Сярод размаітых работ сімвалічным паўстае палатно Алеся Цыркунова "Саракавіна волатаў Айчыны". Гэты твор прысвечаны светлай памяці Герояў — сыноў і дачок нашага народа, якія самаахвярна ўсклалі на святы Алтар Бацькаўшчыны як уласны талент, так і само жыццё, не паступіўшыся гонарам, самааддана служачы Богу і Айчыне; заўчасна палеглым, якія абаранялі нашу Радзіму ад рознай пошасці ды пачвар, што неслі пагібель ды бяспамяцтва нашаму народу, генацыд ды этнацыд, бальшавізм ды сталінізм, акупацыі ды рэзервацыі, камунарэваншызм ды розныя іншыя антыхрысціянскія і антыбеларускія ачмурэнні. На карціне адлюстраваны такія адметныя асобы, як Міхал Валовіч, Эмілія Плятэр, Кастусь Каліноўскі, Людвік Нарбут, Цішка Гартны, Вацлаў Ластоўскі, Палута Бадунова, Браніслаў Тарашкевіч, Міхась Чарот, Максім Гарэцкі, Расціслаў Лапіцкі, Лявон Баразна і іншыя.

Юбілейная выстаўка не толькі падсумоўвала здабыткі мастакоў, якія захоўваюць вернасць сваім перакананням, але і вызначала далейшыя перспектывы для неабмежаваных творчых пошукаў. Новае дзесяцігоддзе — час глабальных перамен. Сярод членаў суполкі — Ягор Батальёнак, Генадзь Драздоў, Аляксей Марачкін, Віктар Мікіта, Мікалай Назарчук, Георгій Скрыпнічэнка, Віктар Маркавец, Аляксандр Родзін, Валянціна Свентахоўская, Мікола Купава, Алесь Цыркуноў, Мая Яніцкая і іншыя, якія імкнуцца заставацца актыўнымі носьбітамі прагрэсіўных творчых ідэй, якія звязаны з гісторыяй, сучаснасцю і будучыняй Беларусі.

***На здымках:** Віктар Шматаў "У чарнобыльскай зоне"; Валянціна Свентахоўская "Пад сонцам"; Алесь Мара "Каін і Авель".*

# Таямніцы дрэва

**З асновамі разьбы па дрэве я пазнаёміўся ў школе на занятках па працы. Памятаю, як настаўнік абяцаў звазіць нас у Раўбічы ў Музей беларускага народнага мастацтва, каб мы пабачылі творы прафесійных майстроў. Гэтая паездка чамусьці адклалася, але з тых часоў музей у Раўбічах пакрыўся для мяне арэолам рамантычнай прыцягальнасці. І не дзіва — размешчаны ў будынку былога Святагорскага касцёла, ён уяўляе сабою ўнікальную скарбонку спадчыны беларускай культуры, аб'ект сусветнага значэння. І, наведваючы гэты музей, з кожным разам адкрываеш для сябе штосьці новае і набліжаешся да разумення таямніц народнага мастацтва.**

**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

Выстаўка, што адкрылася тут, так і называецца — "Таямніцы дрэва" з падзагалоўкам "Разьба па дрэве, чаканка". Заяўлена, што яна дэманструе апошнія дасягненні сяброў Беларускага саюза майстроў народнай творчасці ў гэтай галіне. Але гэта крыху перабольшана: выстаўка сціплая па маштабе і, хутчэй, дэманструе невялічкі зрэз творчасці айчынных разьбяроў.

Цэнтральнае месца ў экспазіцыі займаюць дэкаратыўныя пано мінскага майстра Юрыя Адамовіча. Выпадае казаць нават пра персанальную выстаўку гэтага аўтара ў межах агульнага праекта. Ю. Адамовіч працуе ў складанай тэхніцы, засвоіўшы традыцыі апрацоўкі матэрыялаў, што існавалі ў часы Вялікага Княства Літоўскага. Ён аб'ядноўвае ў сваіх работах розныя віды рамёстваў: уласна разьбу па дрэве і халодную ручную чаканку. Метал і дрэва арганічна спалучаюцца на ягоных пано: майстар выкарыстоўвае хвойныя пароды драўніны, якія праходзяць адмысловую тэрмічную апрацоўку, і адпаведныя па тоне металы — медзь і латунь. Арыгінальная аўтарская тэхналогія была вынайдзена і ўдасканалена шляхам саракагадовага творчага досведу.



Што да сюжэтаў работ, то тут трэба зрабіць аўтару камплімент: ён не апускаецца да мяшчанскага кітчу, што так распаўсюджаны сёння на рынку сувенірнай прадукцыі, а застаецца верным народнаму светаўспрыманню. У яго творах праяўляецца цікавасць да роднай гісторыі, глыбокая пашана да традыцыі. Па-народнаму наіўныя і светлыя вобразы спрактыкавана ўвасоблены ў металічнай чаканцы. Дамінуюць тут выявы свойскіх жывёл: катоў, пеўняў, сабак — адвечных герояў фальклору. Большасць гэтых анімалістычных пано ілюструе распаўсюджаныя фальклорныя сюжэты і прыказкі (напрыклад, певень з твора "Хто рана ўстае…"). Але найбольш уражвае вялікае пано "Погань", на якім Ю. Адамовіч вывеў панараму персанажаў беларускай дэманалогіі: русалку, Бабу Ягу, дамавіка, чарцей і разнастайных нячысцікаў. Гэтыя "грозныя" вобразы выяўлены ў казачна-камічным ключы, як і ў творчасці нашага вядомага кніжнага графіка Валерыя Славука. Нягледзячы на эксперыментальны характар і складаны тэхналагічны працэс, творчасць Ю. Адамовіча не губляе повязі з асновамі народнага мастацтва і нясе ўласцівыя яму цяпло і дабрыню.

Пераходзячы ўласна да разьбы па дрэве як галоўнага аб'екта выстаўкі, трэба спыніцца на творчасці майстра з вёскі Бараўляны Мінскага раёна Валянціна Сарокіна. У разьбянай скульптуры аўтар выяўляе сцэны з сялянскага жыцця — ідылічныя, а таксама камічныя паводле сваёй задумы. Чорт працягвае гарэлку мужыку, хлопцы хаваюцца на дрэва ад раз'юшанага барана, дзяўчына з хлопцам прызнаюцца адно аднаму ў каханні пад дубам, дзе звіла сабе гняздо парачка буслоў — такія немудрагелістыя сюжэты каштоўныя тым, што сведчаць пра непарыўнасць чалавека з прыродай, нагадваюць пра неабходнасць гарманічнага суіснавання з навакольным асяроддзем.

Прадстаўлены на выстаўцы і творы больш мадэрновага, эксперыментальнага кшталту. Напрыклад, скульптуры Мікалая Скляра і Алега Пракарыны. Асабліва арыгінальная ў творчым плане праца "Горад сноў" апошняга. На фактурным кавалку драўніны, які нагадвае сваімі абрысамі анёла і сам па сабе з'яўляецца гатовым мастацкім творам, выразана задуменнае жаночае аблічча; на іншым баку гладкая паверхня аздоблена адвольным разьбяным арнаментам, на ёй жа выразаны словы прысвячэння гэтага твора пэўнаму чалавеку. Такая разнапланавасць, сумяшчэнне разнастылёвых элементаў з'яўляецца прыкметай сюррэалістычнага, несвядомага падыходу да творчасці.

Сярод удзельнікаў выстаўкі ёсць і тыя, чыя творчасць носіць больш прыкладны характар. Размова ідзе пра стваральнікаў дэкаратыўнага посуду, шкатулак, прадметаў інтэр'еру. Выстаўка дэманструе нямала вырабаў з карэльскай



бярозы (па-мясцоваму — чачоткі) ад майстроў Аляксея Хацкевіча, Барыса Галаніна, Вадзіма Пархімовіча, Алега Шамро, Валерыя Самойлава і інш. Куфлі, вазы, падсвечнікі і нават настольная лямпа выкананы з гэтага каштоўнага матэрыялу. Карэльская бяроза валодае цікавай фактурай, і вырабы з яе прывабныя не столькі за кошт апрацоўкі, колькі дзякуючы прыродным уласцівасцям.

Майстры Сяргей Юшкевіч, Уладзімір Чыквін, Мікалай Няхай дэманструюць традыцыйнае майстэрства геаметрычнай разьбы, узоры якой пакрываюць іх вырабы — шкатулку, начоўкі і інш.

Нягледзячы на безумоўную вартасць выстаўкі "Таямніцы дрэва", бо ў нас не так шмат ладзіцца мерапрыемстваў, прысвечаных народнаму дэкаратыўна-прыкладному мастацтву, я далёкі ад той думкі, што яна сведчыць пра развіты стан разьбянага майстэрства ў сучаснай Беларусі. Сціплая экспазіцыя, адзінкавасць па-мастацку значных твораў ніяк не стасуюцца з прыкметамі высокага развіцця. Ды і само становішча Музея беларускага народнага мастацтва, які з'яўляецца філіялам Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, умовы экспанавання, перыядычнасць выставак пакідаюць жадаць лепшага. Між тым, гэта ўнікальны турыстычны аб'ект з цудоўнай, створанай за савецкім часам базай, які суседнічае са спартыўным комплексам, дзе ладзяцца спаборніцтвы міжнароднага ўзроўню.

***На здымках: Б. Галанін "Падсвечнік"; А. Пракарына "Горад сноў".***

**Дарадцам і кансультантам рубрыкі "Дзівасвет" выступае старшыня БСМНТ Яўген Сахута.**

**Водгукі і матэрыялы дасылайце на e-mail: lim_new@mail.ru з пазнакай "Дзівасвет".**

## Афарызм

*Стома – смерць. Ідзі вышэй сіл сваіх, і станеш жыць доўга.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

### Згадвалі паэта на радзіме

У краязнаўчым музеі Бялынкавіцкай сярэдняй школы Касцюковіцкага раёна асаблівая ўвага ўдзелена яе лепшым выпускнікам, якія сталі настаўнікамі, медыкамі, інжынерамі, эканамістамі, ваеннымі. Аднаму з іх — бадай, самаму знакамітаму, — паэту Алесю Пісьмянкову, жыццёвы век якога, на жаль, скончыўся заўчасна, прысвечаны асобны стэнд. Тут размешчаны здымкі з сямейнага архіва пісьменніка, дакументы з яго школьнага жыцця, паэтычныя зборнікі, газетныя і часопісныя публікацыі, рукапісныя старонкі, кнігі з аўтографамі калег па пяры. Сведчаннем таму, што тут вучыўся Алесь Пісьмянкоў, — і памятная шыльда на будынку школы, зробленая намаганнямі яшчэ аднаго бялынкавіцкага паэта, цяпер гамяльчаніна Аляксандра Бардоўскага.

Аляксандр Міхайлавіч узяў на сябе і абавязак па арганізацыі ў школе штогадовага паэтычнага свята, прысвечанага свайму славутаму земляку. Адбылося яно і сёлета. На экране дэманстраваліся фотаздымкі паэта, гучаў яго запісаны на аўдыёкасету голас. Пранікнёна чыталі вершы Алеся Пісьмянкова юныя землякі, вучні мясцовай школы. Песні на яго словы прагучалі ў выкананні гомельскага гурта "Сустрэча" пад кіраўніцтвам Таццяны Чаранковай. Успамінамі пра свайго вучня падзяліўся былы настаўнік школы Леў Беляніна́ў. З затоенай увагай слухалі прысутныя (а сярод іх апроч мясцовых школьнікаў, настаўнікаў і жыхароў Бялынкавіч былі і прадстаўнікі з іншых школ і бібліятэк раёна) згадкі пра Алеся Пісьмянкова яго сяброў-пісьменнікаў — Васіля Ткачова і Анатоля Зэкава.

**Анатоль ПАТАПАЎ**

### Манатыпія — свет цудаў

У бібліятэцы-філіяле № 7 г. Маладзечна адкрылася выстаўка лепшых работ, выкананых выхаванцамі дзіцячай мастацкай школы ў нетрадыцыйнай тэхніцы — манатыпіі. Манатыпія — адзін з загадкавых жанраў выяўленчага мастацтва. З грэчаскага "mono" — адзін, "typos — адбітак. Гэта адзіны адбітак, які можа быць зроблены любымі фарбамі на любых асновах (шкло, металічныя пласціны і іншыя).

Мастак імправізуе, бы на наметках і фрагментах імкнецца адшукаць вобраз. Гэта тэхніка падобна на гульню, якая падабаецца дзецям. Навучэнцы ў манатыпіі маюць магчымасць праявіць сваю індывідуальнасць, выказаць сваё ўражанне аб навакольным свеце. Выстаўка здзіўляе сваёй душэўнай шчырасцю, разнастайнасцю тэм і сюжэтаў. Дзівоснае багацце пачуццяў і настрою перадаецца і наведвальнікам. Хочацца сказаць вялікі дзякуй педагогам Таццяне Бараноўскай, Аксане Ралавец, Аляксандру Жуку, Вользе Яўланавай, Вользе Сароцы, Аляксандры Жаўняровіч, якія дапамагаюць развіваць талент юных мастакоў.

**Таццяна ЦЯРЭШКА**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"
Галоўны рэдактар Алесь КАРЛЮКЕВІЧ



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
дадатак "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 3041
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 7.04.2011 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 1620
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12